*Элзі Агняцвет*

# ЯБЛЫНЯ

*Памяці Тараса Шэўчэнка*

Украіна, край прастораў,
Зялёнае поле!
А была калісьці ў горы,
Сніла ты аб волі.

У дняпроўскай хвалі сіняй
Слёз тваіх немала.
Толькі гнеўнай песні сына
Ты не забывала.

Як выходзіў ён да тына,
Кобзу браў у рукі,—
Ад хаціны да хаціны
Пралятаці гукі.

Кляў усіх паноў і катаў
Спеў, бядой спавіты,
Клікаў ён людзей:
— Вставайтэ,
Кайдани порвіте!

Як ішоў кабзар і марыў
Пра шчасце ў народзе,—
Адплывалі к мору хмары,
Месяц узыходзіў.

Як знайшоў ён пры даліне
Крыніцу жывую,—
Пасадзіў на успамінак
Яблыньку малую.

— Ты расці, мой свецік ясны,
Высокай, удалай.
Мо' пабачыш, як Тараса
Праўда не прапала!

Што ў няволі на чужыне
Лічыў дні і ночы,
І свабоду Украіне
Светлую прарочыў.

Хай дождж буйны палівае
І чыстыя росы,
Каб расла ты, маладая,
І вясной і ўвосень.

Хай з дубравы цёплы вецер
Да цябе прымчыцца.
Мо' яшчэ цябе на свеце
Стрэну ля крыніцы...

І пашоў ён пад гарою
Ля Дняпра крутога,
З роднай песняю—кабзою
Па цяжкіх дарогах...

З той пары прайшло нямала
Вёснаў, лютых зімаў,—
Тая яблыня ўзрастала
На зямлі любімай.

Ні зімой яе, ні летам,
Больш не ўбачыў лірнік.
Расцвілі жывыя кветкі
На магіле мірнай.

Недалёка ад магілы
Сад шуміць вясёлы,
Там над яблыняю мілай
Пралятаюць пчолы.

І стаіць яна, як сведка
Змрочных, слёзных часаў,
І лістамі шэпча:
— Дзеткі,
Помніце Тараса!

Садам чыстым прабягаюць
З казаком дзяўчына,
Звонка песеньку спяваюць
Вольнай Украіне.

Там пад яблыняй ля тына,
Залацістым ранкам,
Нахіляецца над сынам
Маці з калыханкай.

Зніме, як дзіця прачнецца,
Яблык спелы, краску:
— Падарунак, сынку-сэрца,
Кабзара Тараса.

Вольнаю ягонай думай
Расцвіла Украіна,—
У дняпровым буйным шуме,
У гуле турбінным.

Днём і ноччу ходзіць светам
Песні вольнай слава.
Будзем вечна мы паэта
Успамінаць ласкава.

Сакавік, 1939 г.

*Праф. М. К. Дабрынін*

# ВЯЛІКІ НАРОДНЫ ПАЭТ

*(Да 125-годдзя са дня нараджэння Т. Г. Шэўчэнкі).*

Думы мае, думы мае,
Вы адны са мною
Не кідайце хоць вы мяне
Лютаю парою.
*Т. Шэўчэнка.*

I

Галоўнай характэрнай рысай творчасці Тараса Грыгоравіча Шэўчэнкі з'яўляецца народнасць. Ён сапраўды народны паэт у самым лепшым і ў самым дакладным значэнні гэтага слова. Гэта рыса творчасці Т. Г. Шэўчэнкі была адзначана яшчэ сучаснікамі. Так Н. А. Дабралюбаў, адмовіўшы многім і многім мастакам у годнасці народных, у спецыяльнай рэцэнзіі на «Кабзара Тараса Шэўчэнкі»—пісаў:

«Ён паэт—цалкам народны, такі, якога мы не можам указаць у сябе. Нават Кальцоў не ідзе з ім у параўнанне, таму, што складам сваіх думак і нават сваімі імкненнямі часам удаляецца ад народа. У Шэўчэнкі, наадварот, увесь круг яго дум і спачуванняў знаходзяцца ў літаральнай адпаведнасці са зместам і ладам народнага жыцця. Ён вышаў з народа, жыў з народам і не толькі думкай, але і абставінамі жыцця быў з ім моцна і кроўна звязаны» [1].

Такое катэгарычнае сведчанне сучасніка мае для нас асабліва значэнне і асаблівы сэнс. Сапраўды, Н. А. Дабралюбаў адзначыў самую характэрную рысу, у святле якой становяцца відавочнымі ўсе матывы, вобразы і ўсе паэтычныя вартасці мастака.

II

Шэўчэнка народны паэт па ўмовах свайго жыцця, па складу думак і пачуцця. Увесь яго жыццёвы шлях, шлях барацьбы і пакут, зрабіў уплыў на яго паэзію, на яго думкі і песні.

Ой, вы, думы, мае думы,
Кветкі мае, дзеці!
Вырашчаў вас, даглядаў вас,
Дзе-ж мне вас падзеці?
На Украіну йдзеце думы,
На нашу Украіну,

[1] Н. А. Дабралюбаў. Збор. твор. т. II, стар. 562—563, ГИЗ. 1905 г.

Пад платамі, сіратамі,
А я—тут загіну.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Прывітай-жа, мая маці,
Мая Украіна,
Маіх дзетак неразумных,
Як роднага сына!

Гэтыя спевы і думы ўвайшлі ў свядомасць Тараса Грыгоравіча з самога ранняга дзяцінства. Шэўчэнка сын прыгоннага селяніна Грыгора Шэўчэнкі, нарадзіўся 25-га лютага (7-га сакавіка па н. ст.) 1814 г. у сяле Кірылаўцы Звенігарадскага павета, Кіеўскай губерні. На восьмым годзе жыцця Тарас пазбавіўся бацькі і маткі і знайшоў прытулак у школе прыходскага дзячка. Такім чынам ён з васьмі год папаў у поўнае рабства да дзячка, які на працягу двух год прымушаў яго выконваць не толькі ўсякія работы, але і ўсякія капрызы. Вучыцца не было калі і за два гады Шэўчэнка прайшоў граматыку, часловец і псалтыр.

Дзячок дайшоў да таго, што пасылаў Шэўчэнка чытаць па нябожчыках замест сябе псалтыр, за што плаціў вучню дзесятую капейку дзеля заахвочвання.

Урэшце, Шэўчэнка не сцярпеў бязлітасных катаванняў дзячка і збег ад свайго тырана ў мястэчка Лысянку, папярэдне адпомсціўшы яму. Дзячок быў першым дэспатам, з якім Шэўчэнку давялося сутыкнуцца ў жыцці, ён цяпер зненавідзеў ўсякі гвалт чалавека над чалавекам, што вельмі ярка выражана ў яго паэзіі.

Але Шэўчэнка «папаў з агня ў полымя» ад спартанца дзячка да маляра дзякана, які вельмі мала чым адрозніваўся ад першага. Праз чатыры дні ён збег у сяло Тарасаўку да дзячка-маляра з цвёрдым жаданнем навучыцца ў яго маляванню. Аднак дзячок-маляр адмовіўся прыняць Шэўчэнку, рашыўшы—на падставе хірамантыі, што ён ні да чаго няздольны.

Пасля гэтага, у 1827 г. Шэўчэнка вяртаецца ў роднае сяло і наймаецца пастухом грамадскага стада, затым батрачыў у папа. У 1829 г. яго бярэ да сябе памешчык у якасці казачка.

Сам Шэўчэнка піша аб гэтым так:

«Вынаходніцтва пакаёвых казачкоў належыць цывілізатарам Задняпроўскай Украіны—палякам; памешчыкі іншых нацыянальнасцей пераймалі і пераймаюць у іх казачкоў, як выдумку бясспрэчна разумную. Украіне, некалі казацкай, зрабіць казака ручным з самага дзяцінства—гэта тое-ж самае, што ў Лапландзіі падпарадкаваць волі чалавека быстраногага аленя...»

Аднак памешчыку Энгельгардту не ўдалося прыручыць Шэўчэнку, які, седзячы ў пярэдняй, напяваў гайдамацкія песні і змалёўваў карціны суздальскай школы. Энгельгардт увесь час падарожнічаў і цягаў за сабою Шэўчэнку, які ў той час мала цягаціўся сваім становішчам, але пасля яно прыводзіла яго ў жах і здавалася яму «якімсьці дзікім і неадчэпным сном».

У 1832 г. памешчык закантрактаваў Шэўчэнку на чатыры гады да жывапісных спраў цэхавога майстра Шыраева ў Пецербурзе.

Шэўчэнка вучыўся жывапісі і бегаў у Летні сад маляваць са статуй. Тут ён пазнаёміўся з мастаком Іванам Максімавічам Сашэнкам,

-які параіў маляваць з натуры. Натуршчыкам у Тараса Грыгоравіча быў дваровы чалавек памешчыка Энгельгардта, Іван Нічыпарэнка. Самому памешчыку так спадабаліся малюнкі Тараса Грыгоравіча, што ён пачаў скарыстоўваць яго для пісання партрэтаў сваіх палюбоўніц.

У 1837 г. праз Сашэнку Тарас Грыгоравіч пазнаёміўся з сакратаром Акадэміі Мастацтваў Грыгаровічам, які стаў хадайнічаць аб вызваленні Шэўчэнкі. Памешчык не хацеў бясплатна вызваліць свайго прыгоннага і тады В. А. Жукоўскі прасіў мастака Брулава напісаць з яго партрэт, каб, разыграўшы ў прыватнай латарэі, можна было-б выкупіць Шэўчэнку. Партрэт быў напісаны, латарэя наладжана і на выручаныя 2 500 рублёў 22-га красавіка 1838 г. была куплена воля Шэўчэнку.

На гэтым мы можам адзначыць першы перыяд жыцця Тараса Грыгоравіча—прыгонны перыяд.

Лёгка зразумець, якія ўражанні мог вынесці Шэўчэнка ў гэты перыяд жыцця. Трэба здзіўляцца таму, як ён не ачарсцвеў.

«Колькі год згубленых! Колькі пачуццяў звянуўшых! І што-ж я купіў у лёса сваімі намаганнямі не загінуць? Бадай ці не адно страшэннае ўразуменне свайго мінулага. Яно жахлівае, яно тым больш для мяне жахлівае, што родныя браты і сястра, аб якіх мне было цяжка ўспамінаць у сваім апавяданні,—да гэтага часу прыгонныя». Так пісаў Шэўчэнка рэдактару «Народного чтения».

Стаўшы вольным, Шэўчэнка пачаў наведваць класы Акадэміі Мастацтваў, стаў адным з любімейшых вучняў-таварышоў Брулава, а ў 1845 г. атрымаў годнасць свабоднага мастака. Ён многа і ўпарта працуе над сабой, многа піша, сумуе па роднай Украіне. У 1840 г. быў надрукаваны «Кабзар» Шэўчэнкі. («Думы мае, думы мае», «Перабендзя», «Таполья», «Да Аснаўяненкі», «Думка», «Іван Падкова», «Тарасава ноч», «Кацярына»).

Ой, вы думы, мае думы,<br>
Цяжынька мне з вамі!<br>
Нашто сталі на паперы<br>
Сумнымі радкамі?<br>
Што вас вецер не развеяў<br>
У стэпу да астатку?—<br>
Што вас гора не прыспала,<br>
Як свае дзіцятка?

Шэўчэнка выступіў як вялікі мастак і паэт, які хутка расце, раскрывае свой талент. Ужо ў 1841 г. з'яўляюцца «Гайдамакі»— паэма велічэзнай сілы і палкага суму аб свабодзе, аб волі для радзімы—Украіны. Праўда, Белінскі даў адмоўны водзыў аб «Гайдамаках», але ён бясспрэчна няправы. Шэўчэнка піша (у 1842 г.) не толькі па-украінскі, але і па-рускі. («Сляпая», «Гаманея», драма «Мікіта Гайдай»). У 1843 г. Шэўчэнка наведвае родную Украіну, сустракаецца з роднымі, з прыгоннымі сялянамі сваёй вёскі,—гэта дае яму шмат новых уражанняў. Ён малюе і піша рад твораў па-украінскі («Разрыта магіла», «Н. Маркевічу», «Нашто чорныя мне бровы?», «Цяжка-важка ў свеце жыці»), па-рускі (п'есу «Назар Стадоля», паэму «Бесталанны»), марыць аб тым, каб вярнуцца ў Акадэмію «бо ей-богу хочется вчиться». Яго жаданне збываецца

і ў 1844 г. ён вяртаецца ў Пецербург. Мастацкая і паэтычная дзейнасць Шэўчэнкі пашыраецца, ён знаёміцца ў гэтыя годы са многімі цікавымі для яго людзьмі (з Кулішом, Рэпіным, Шчэпкіным, Бадзянскім і інш.), задумвае выдаваць «Живописную Украину».—«Заходився оце вернувшися в Пицер, гравировать і іздавать в картинах остаткі нашоі Украіні. На тым тижні выйде 6 картин»—выдае свае творы, піша рад новых («Сон», «Чаго мені нудно?», «Голою» і інш.) Шэўчэнка хутка ідзе ўперад. У 1845 г. Шэўчэнка атрымоўвае годнасць свабоднага мастака і пасведчанне на праезд і пражыванне на Украіне, куды ён і ад'язджае ў сакавіку 1845 г. На працягу 45—46 г. да красавіка 1847 г. Шэўчэнка наведвае рад месц на Украіне (Рамны, Пераяслаўль, Міргарад, сяло Мар'інскае, В'юніцы, Палтаву, Кіеў, Аленаўку Борзенскага павета і г. д.), працуе ў якасці члена Археаграфічнай камісіі, уступае ў Кірыла-мефодзіеўскае брацтва, шмат малюе, яшчэ больш піша. Да гэтага часу адносяцца яго творы «Еретик», «Сліпій», «Суботів», «Великий мох», «Наймичка», «Кавказ», «У мертвим і живим», «Холодный яр», «Минають дні, минають ночі», «Три літа», «Як умру, то поховайте», «Відьма» і інш.).

Па даносу студэнта Пятрова ў красавіку месяцы 1847 г. Шэўчэнка быў арыштаваны каля Кіева і адпраўлен у Пецербург. У маі месяцы быў вынесены прыгавор, па якому «мастаку Шэўчэнку, за напісанне абураючых і вельмі дзёрзкіх вершаў, як адаронага моцным складам цела, прызначыць радавым у Орэнбургскі асобы корпус, з правам выслугі, даручыўшы начальству мець строгае нагляданне, каб ад яго, ні пад якім выглядам не змагло выходзіць абураючых і пасквільных твораў».

Мікалай I дадаў: «Пад стражайшы нагляд з забаронай пісаць і маляваць». 31-га мая 1847 г. Тарас Грыгоравіч Шэўчэнка быў адпраўлен у Орэнбург. Так абарвалася кіпучая творчая дзейнасць Шэўчэнкі, так закончыўся другі перыяд у яго жыцці... Заключным акордам з'яўляюцца яго творы ў турэмнай камеры 3-га аддзялення. Тут былі напісаны: «Ой, адна я, адна», «За байракам байрак», «Мені однаково», «Не кідай матері, казалі», «Чаго ти ходиш на могилу», «Ой три шляхи широкіи», «Н. Костомарову», «Садок вишневий коло хати», «Рано в ранці новобранці» і інш. Паэта загналі ў далёкі Орэнбургскі край і прызначылі ў Орскую крэпасць. Пачаліся пакутлівыя гады ссылкі. Гэта трэці перыяд у жыцці Шэўчэнкі. Наколькі пакутлівай была для яго ссылка ды яшчэ з забаронай пісаць і маляваць, можна меркаваць і па яго вершах і па пісьмах. Калі ў Пецербурзе яму было цяжка і цягнула на Украіну, дык што-ж казаць аб заключэнні ў Орску?

> Я чужы, тут, адзінокі,
> І на Украіне
> Сірата я, мой галубе,
> Як і на чужыне.
> Чаго-ж сэрца б'ецца, рвецца?
> Я там адзінокі!..
> Адзінокі... А Украіна?
> А той стэп шырокі?!
> Там павее вецер буйны,
> Як брат, загавора...

На працягу дзесяці год цягнецца ссылка Шэўчэнкі. Толькі ў 1857 г. ён быў вызвалены ад салдацкай службы. Гэтыя 10 год былі страшэннымі гадамі катавання фізічнага, разумовага і маральнага...

Праўда, не гледзячы на забарону, Шэўчэнка ўсё-ж пісаў і маляваў, але за ўсё гэта прыходзілася плаціцца арыштамі, гауптвахтай, строгасцямі вайсковай службы і г. д. «Давіць мяне ў гэтай пустыне адзіноцтва, вось мой люты вораг! У гэтай шырокай пустыні мне цесна, а я адзін... Да гэтага часу не маю дазволу маляваць, шосты год, гэта жахліва!» Так пісаў Шэўчэнка ў 1852 г. да А. П. Лізагуба. Чытаць няма чаго, пісаць і маляваць нельга, салдацкая лямка і муштра выцягвалі апошнія жылы. «Цяпер трэба вам напісаць аб маральным маім жыцці.—Але яно такое брыдкае, што і пісаць не хочацца. Жыву я, можна сказаць, жыццём публічным, г. зн. у казармах, муштруюць кожны дзень, хаджу ў караул і г. д. Адно слова—салдат, ды яшчэ які! Проста пудала вароняе». Больш за ўсяго баяўся Т. Г. Шэўчэнка, каб не заснуць канчаткова.

Думы мае, думы мае,
Вы адны са мною,
Не кідайце хоць вы мяне
Лютаю парою.
Прылятайце галубочкі
Сізыя ўранне
З-за Дняпра,—з-за шырокага
У стэп на гулянне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прылятайце мае птушкі
Ціхім словам-сказам
Прывітаю вас, як дзетак,
І заплачам разам.

Так піша паэт у 1847 г. у Орскай крэпасці, а ў 1853-54 г. у Новапятроўскім форце ён піша:

Мой божа мілы, зноўку ліха!
Было так люба, гэтак ціха;
Мы ўзяліся раскаваць
Сваім нявольнікам кайданы...
Аж страх! ў зноўку пацякла
Кроў бедных! Шмат цароў вінчаных
Нібы сабакі за маслак
Грызуцца зноў.

Аднак годы пакут не знішчылі ні таленту, ні прагі жыць і змагацца супроць цароў-катаў, супроць прыгнятацеляў. Шэўчэнка захаваў і волю да жыцця і свежасць свайго таленту і прагу да барацьбы. Атрымаўшы дазвол на выезд з Новапятроўска, Шэўчэнка 2-га жніўня 1857 г. выправіўся ў дарогу. Астрахань, Саратаў, Казань, Ніжні-Ноўгарад, далі яму мноства новых уражанняў, спатканні з людзьмі, новыя знаёмствы, кнігі, ад якіх так доўга быў адарваны паэт. У Ніжнім-Ноўгарадзе Шэўчэнка павінен быў застанавіцца, бо яму быў забаронен уезд у Маскву і ў Пецербург. Так пачаўся чацьверты перыяд—новае прабыванне Тараса Грыгоравіча Шэўчэнкі на свабодзе. У 1858 г. Шэўчэнка атрымаў дазвол жыць у Пецярбурзе і наведваць класы Акадэміі Мастацтваў, а ў сакавіку

месяцы выехаў з Ніжняга-Ноўгарада ў Маскву. Тут Шэўчэнка пазнаёміўся з многімі прадстаўнікамі літаратурнага свету (Пагодзіным, Шэвыровым, Хамяковым, дзекабрыстам Валконскім і г. д.). Хутка Т. Г. Шэўчэнка паехаў у Пецербург і тут ізноў сустрэчы са старымі сябрамі і новыя знаёмствы (з Шчэрбіною, бр. Курачкінымі, бр. Жэмчужнікавымі, Кавеліным, Тургеневым і інш.).

У гэты час Шэўчэнка многа працуе як мастак...

«Як той щирий віл запрігся я у работу, сплю на ецюдах: с натурнога класса і не вихожу—так ніколі!»—піша ён М. С. Шчэпкіну ў 1858 г. У сувязі з тым, што Совет Акадэміі, разглядзеўшы гравюры Шэўчэнка, прызнаў яго прызначаным у акадэмікі і даў яму праграму на годнасць акадэміка «па гравіраванню медзі», Тарас Грыгоравіч просіць дазволу на паездку яго на Украіну. Дазвол яму быў дадзены і ў канцы мая 1859 г. ён адправіўся на радзіму. Але за ім сачылі і дастаткова было нязначнага выпадку, каб ізноў арыштаваць. Не паспеў ён агледзіцца ў родным краю, як 13 ліпеня 1859 г. быў арыштаваны і адпраўлен спачатку ў Чэркасы, а потым у Кіеў. Вызвалены тут Тарас Грыгоравіч жыве пад наглядам паліцыі і ў жніўні ад'язджае ў Пецербург. Тут Шэўчэнка пазнаёміўся з Чэрнышэўскім і яго аднадумцамі. За гэтыя годы Шэўчэнка напісаў рад твораў: («Доля», «Муза», «Слава», «Сон»,... «Я не нездужаю півроку», «Ой по горі ромен цвіте», «Ой маю, маю я оченята», «Посажу коло хатини» і інш.). Але росквіт яго творчасці адносіцца да 1860 г. У гэтым годзе ён даў: «Молитви» (Царям, всесвитним шинкарям, Парів кровавих шинкарив), пераклаў «Плач Яраслаўны», напісаў «Гімн чарничий», «Світе ясний! Світе тихий», «Лікер'і», «Н. Я. Макарову», «Саул», «Мінулі літа молодіе», «Хоча лежачаю й не б'ють», «І тут, і всюди—скріз погано!», «О люди, люди небаракі», «Якось-то йду я ў ночі» і шмат інш. У гэтым-жа годзе Шэўчэнка быў зацверджан у годнасці акадэміка—гравёра. Перад ім была шырокая дарога, слава народнага паэта і вялікая папулярнасць сярод рускіх і украінскіх чытачоў. Але цяжкае жыццё дало сябе знаць, у студзені 1861 г. Тарас Грыгоравіч адчуваў сябе дрэнна—«Так мені пагано, що я ледве перо в руках держу». 14-25 лютага ён напісаў свой апошні верш («Чи не покинуть нам, небого»), а 26-га лютага памер.

Кончилось время его несчастливое,—
Все, что он с юности ранней не видывал,
Милое сердцу его улыбалося:
Тут ему бог позавидовал
Жизнь оборвалася.

Сапраўды быў правы Н. А. Некрасаў, напісаўшы гэтыя вершы на смерць Тараса Грыгоравіча Шэўчэнкі.

Цела Т. Г. Шэўчэнкі пахавалі на Чарнечай Гары ў Каневе, якраз там «на Украіні мілій»...

Каб безкрайнія разлогі,
І Дняпро, і кручы
Было відна, было чутна,
Як грыміць грымучы!

Так на парозе росквіту і славы абарвалася жыццё выдатнага чалавека. Мы адрозніваем у жыцці Шэўчэнкі чатыры перыяды:

1) Да вызвалення ад прыгоннай залежнасці (1814—1838 г.).
2) Шэўчэнка на волі—росквіт творчасці (1838—1847 г.).
3) Ссылка (1847—1857 г.).
4) Шэўчэнка на волі—другі росквіт творчасці (1857—1861 г.).

Кожны з іх мае свае асаблівасці, але асноўныя рысы творчасці Тарас Грыгоравіч захоўвае ўсюды. Яго жыццё—не звычайная з'ява, яно праваобраз жыцця многіх і многіх выдатных людзей зямлі рускай, яно—праваобраз радзімы Шэўчэнкі. Не выпадкова ён пісаў: «Мой уласны лёс, прадстаўлены ў сапраўдным святле, змог-бы навесці не толькі просталюдзіна, але і тых, у каго просталюдзін знаходзіцца ў поўнай залежнасці, на разважанні глыбокія і карысныя для абодвух бакоў. Вось чаму я адважваюся выявіць перад усім светам некалькі сумных фактаў майго існавання. Я жадаў-бы выказаць іх у такой паўнаце, у якой нябожчык С. Т. Аксакаў прадставіў свае дзіцячыя і юнацкія годы, тым больш, што гісторыя майго жыцця складае частку гісторыі маёй радзімы».

Усё гэта так, і нам зразумела пачуццё паэта, ад якога ў яго сціскаецца сэрца і касцянее рука, калі яму трэба расказваць аб сабе, аб сваім жыцці.

Аддадзім-жа належнае вялікаму барацьбіту за свабоду, гарачаму патрыёту, вялікаму рэвалюцыйнаму дэмакрату, народнаму паэту, які выказаў лепшыя і заветныя думы не толькі свайго народа, але ўсіх прыгнечаных народаў свайго часу. Аддамо належнае і ў нашай новай, вялікай сям'і народаў Савецкага Саюза не запамятаем памянуць Тараса Грыгоравіча Шэўчэнку

„Нязлым, ціхім словам!"

## III

> . дзень ідзе, і ноч ідзе...
> І галаву схапіўшы ў рукі,
> Здзіўляешся, чаму не йдзе
> Апостал праўды і навукі?!

Замучаны прыгонніцка-бюракратычным рэжымам Т. Г. Шэўчэнка ўсё сваё жыццё горача марыў аб волі, аб свабодзе.

Спачатку гэта была мара, яшчэ не ясная, неакрэсленая, адно гарачае імкненне да свабоды. Потым яна запаўняецца пэўным зместам рэвалюцыйна-дэмакратычнага характару. У такім плане павінны быць зразуметы і раннія матывы творчасці паэта, т. зв. рамантычныя. Рамантыка Шэўчэнкі—рэволюцыйная і ў гэтых адносінах ён блізкі да рамантыкі дзекабрыстаў. Не выпадкова паэт успамінае сваіх братоў у камедыі «Сон». Дух паэта наведвае далёкую Сібір, дзе пакутуюць зняволеныя.

> Заварушылася пустыня...
> Як-бы там з цеснай дамавіны
> На той астатні страшны суд
> За праўдай мерцвякі ўстаюць.

То не трупы, то не суду
Просіць ад пакуты;
Не, жывыя гэта людзі,
У кайданы закуты,
З нораў золата выносяць,
Каб горла, як скрутам,
Ненасытнаму заткнуць!..
Катаржане гэта!
А за вошта? Хіба знае
Усемагутны... Дзе там!

І праз шмат год Шэўчэнка зноў вяртаецца да гэтай-жа тэмы, зноў пагражае вывесці на свет пакутнікаў.

А ты ўсевідзячае вока!
Ці ты заўважыла звысоку
Як сотнямі ў кайданах гналі
У Сібір нявольнікаў святых,
Як мардавалі, распіналі
І вешалі?! А ты не знала?
І ты ўзіралася на ніх
І не аслепла?! Вока, вока!
Не дужа бачыш ты глыбока!
Ты спіш у кіеце, а цары!..
Ды чорт іх, тых цароў паганых!
Няхай здаюцца ім кайданы,
А я памчуся на Сібір
Аж за Байкал. Загляну ў горы
А вярцепы цемныя, у норы
Без дна глыбокія, ў вас,
Барацьбіты святое волі
Ад цемры, чаду і няволі
Царам, людзям я на паказ,
На свет вас выведу нядоляй
Радамі доўгімі ў кайданах...

Нават зварот Шэўчэнкі да мінулага, да гісторыі носіць такі-ж характар, як у дзекабрыстаў. Шэўчэнка, як і Рылееў, гаворыць аб свабодзе Украіны, аб яе барацьбе з палякамі за сваю незалежнасць. У паэме «Гайдамакі» Шэўчэнка выкарыстоўвае гістарычны сюжэт у тым-жа духу, як Рылееў выкарыстоўваў у сваіх думах факты з гісторыі Украіны і Расіі для раскрыцця адной асноўнай мыслі—барацьбы за свабоду. Было-б няправільным шукаць гістарычнай праўды ў «Гайдамаках» і на гэтай аснове судзіць паэта. Але будзе зусім правільна, калі мы ўбачым у паэме адлюстраванне бунтарскага духу Шэўчэнкі, звернутага ў мінулае, каб выказаць свой пратэст супроць гнуснага гнёту сучаснасці, свае думы аб неабходнасці жорсткай расправы з прыгнятальнікамі. Паэма «Гайдамакі» ёсць заклік да паўстання, да барацьбы супроць усякага прыгнечання, заклік да свабоды, да волі.

Пазней, калі Шэўчэнка стаў рэалістам, ён пачынае расцэньваць гістарычных дзеячоў з пункту погляду гістарычнага лёсу Украіны. Яму зразумела ісціна, што царская Расія—турма народаў, і ён марыць пра той час, калі Украіна паўстане супроць сваіх прыгнятальнікаў.

Праўда скрозь засвеціць,
І памоляцца на волі
Нявольнікаў дзеці.

Ён марыць пра той час, калі на месцы турмы народаў будзе свабодны саюз народаў. У паэме «Каўказ» найбольш ярка выказана мысль аб царскай Расіі, як турме народаў, і мара Шэўчэнкі аб братэрстве і свабодзе. Пачынаецца твор вобразам Праметэя, якога ўдзень і ўначы карае арол,

Сэрца разбівае;
Разбівае, ды не не вып'е
Крыві жывой з сэрца,—
Ізноў яно ажывае,
Ды ізноў смяецца.

Шмат загінула рускіх салдатаў, шмат загінула горцаў,—

А слез, крыві? Усіх напаіць
Тут імператараў-бы стала,
З дзяцьмі і ўнукамі ўтапіць
У ўдовіх слёзах...

Але паэт верыць, што прачнецца праўда на зямлі і абнімуцца народы. Гэта мара Шэўчэнкі збылася, усе народы нашай радзімы сышліся ў дружную совецкую сям'ю. Гэтыя матывы барацьбы за свабоду, мары Шэўчэнкі аб братэрстве народаў блізкі нам. Вельмі ярка і моцна гучыць яго «Запавіт»:

Як памру, дык пахавайце
Мяне на кургане,
Сярод стэпу шырокага
На Украіне слаўнай.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Пахавайце, ды ўставайце,
Ланцугі парвіце,
І варожай зноў крывёю
Волю акрапіце!
І мяне ў сям'і вялікай,
У сям'і вольнай, новай,
Памянуць вы не забудзьце
Нязлым, ціхім словам!

Адзначаючы юбілей вялікага народнага паэта, народы Совецкага Саюза тым самым выконваюць «Заповіт» Шэўчэнкі, успамінаюць яго ў новай, вольнай сям'і народаў Совецкага Саюза «нязлым, ціхім словам».

## IV

Мара аб волі, аб свабодзе пераплятаецца ў Шэўчэнкі з гарачым заклікам да барацьбы супроць прыгнятальнікаў. Колькі злобы, колькі нянавісці і агіды ўліў паэт у свае вершы, якія громяць паноў і іншых прыгнятальнікаў. Усе яны, пачынаючы з нябеснага і зямнога цара, варты пагарды і самай бязлітаснай кары. Дзе-ж бог усемагутны і справядлівы, калі навокал столькі зла, гора і пакут чалавечых. Куды-ж глядзела «усебачачае вока», калі святых пакутнікаў за праўду гналі ў Сібір?—піша Шэўчэнка.

А ты, усевідзячае вока!
Ці ты заўважыла звысоку,
Як сотнямі ў кайданах гналі

У Сібір нявольнікаў святых
Як мардавалі, распіналі,
Ї вешалі? А ты не знала?
Ї ты ўзіралася на іх
Ї не аслепла?! Вока! Вока!
Не дужа бачыш ты глыбока!

Шэўчэнка дайшоў да той мыслі, што нябесны пан-бог служыць зброяй у руках зямных паноў—цароў і памешчыкаў. Яны разам закавалі і замуравалі ўвесь свет і Шэўчэнка заклікае да барацьбы супроць рэлігіі і царквы. Бог, рэлігія, царква, паны закавалі і замуравалі людзей і пранікнулі ва ўсе іх узаемаадносіны і атруцілі жыццё. Асабліва цяжка адбівалася апека царквы ў галіне сямейных адносін, дзе царква бесцэрамонна ўмешвалася ў найінтымнейшае жыццё людзей. Удала выказаў гэтыя мыслі Шэўчэнка ў «Глікеры»».

Мая ты любая! Мой друже!
Не мець нам веры без крыжоў,
Рабам, нявольнікам нядужым,
Заснулі, што свіння ў лужы
У сваёй няволі! Мой ты друже,
Грудзей ніколі не жагнай,
Ў малітве воч не узнімай
Ніколі ў свеце. Збрэшуць людзі
І візантыйскі Саваоф
Абдурыць. Не абдурыць бог,—
Караць і міласаць не будзе.
Мы не рабы яго—мы людзі!

Сярод матываў гнеўнай, страснай барацьбы супроць нябеснага цара асабліва ядавіта гучыць насмешка над ім у «Гімне чарніц».

Абдурыў ты нас няшчасных,
Мы-ж абкрадзены дачасна,
Самі цябе абдурылі
Ї прарэзліва завылі.
Алілуя!
Ты ў манашкі пастрыгаеш,
Маладзіцы мы, ты знаеш...
То танцуеш, распяваеш,
Спяваючы прымаўляеш
Алілуя!

Шэўчэнка марыць пра той час, калі людзі не будуць прызнаваць нябеснага цара, не будуць рабамі, а будуць проста людзьмі на зямлі. Калі:

Будзе біта
Царамі сеянае жыта!
А людзі вырастуць. Памруць
Ї незачатыя цараты...
У неабноўленай зямлі
Не будзе гада, супастата,
А будзе сын, і будзе маці,
Ї будуць людзі на зямлі.

## V

Побач з нябесным царом падвізаюцца зямныя цары. Нямнога можна адшукаць паэтаў і пісьменнікаў, у якіх барацьба супроць цароў, супроць дэспатызма і самадзяржаўя прымала-б такую ярка-

выказаную форму нянавісці і пагарды. Шэўчэнка мог мець асабістую нянавісць да Нікалая I, які загубіў яго жыццё. Але не асабістыя матывы гучаць у яго паэзіі, а матывы соцыяльнай барацьбы. Голас задаўленых рабоў, голас мільёнаў прыгнечаных сялян гучыць у паэзіі Т. Г. Шэўчэнкі. Не мог ён не адбіваць пратэста шматмільённага сялянства, якое тамілася пад ярмом бога, цара і пана.

Пратэст Шэўчэнкі гучыць ва ўнісон з паэзіяй рэволюцыйных розначынцаў, з паэзіяй Некрасава, які заявіў:

> Работаешь один,
> А чуть работа кончена,
> Глядишь, стоят три дольщика:
> Царь, бог и господин.

Пратэст шматмільённых сялянскіх мас і адлюстроўваецца ў творах Шэўчэнкі. У гэтым яго сіла і яго слабасць. Шэўчэнка не мае ніякіх ілюзій наконт цароў, і ў гэтым яго сіла. Цар, дзе-б ён ні быў, ёсць цар,—прыгнятальнік, дэспат, вораг, эксплаататар. Шэўчэнка рысуе нам цароў старажытнага Ўсходу і Нікалая I, знаходзячы ў іх шмат агульных рысаў. У творы «Цары» Шэўчэнка паказвае невідушчым людзям—

> Каронай венчаных грамаду...
> спераду і ззаду.

У пяці ўрыўках твора «Цары» ён рысуе разбэшчанага цара Давіда, які ў час бою—

> У срэбнай рызе пахаджае
> І, нібы кот той, пазірае
> На сала, на зялёны сад
> Суседа Гурыя...

Яму спадабалася Вірсавія, жонка Гурыя. Давід украў Вірсавію, а Гурыя загадаў забіць.

> І зноў вясёлы, зноўку п'яны
> Каля рабыні захадзіў.

Другі нарыс рысуе сына цара Давіда, Амона, які прыкінуўся хворым, каб сястра Фамар спякла пернік і сама прынесла хвораму. Калі, нічога не падазраючы Фамар прыйшла да яго, дык Амон гвалтам авалодаў сваёй сястрой.

> Вось так царэвічы жывуць,
> Дурэючы на свеце.

У трэцім нарысе—той-жа Давід, але да таго знямогшы, што ні якія пакрывалы не саграваюць яго. З усёй зямлі сабралі да яго найпрыгажэйшых дзяўчат, каб яны сваімі целамі сагравалі «кашчу блуднага». Такія цары Ўсходу.

А вось славянскія цары. У чацвёртым нарысе Шэўчэнка гаворыць аб крадзежы Святым Уладзімерам дачкі Рагвалода, Рагнеды. Для гэтага спатрэбілася заваяваць і разбурыць Полацак, потым Уладзімер згвалціў Рагнеду і прагнаў яе.

> Дык вось наколькі ў іх святога—
> У тых царах.

Шэўчэнка не выдумляў, а браў факты з гісторыі і яны красамоўней і пераканальней за ўсякую выдумку рысавалі вобразы цароў.

Бадай іх каты пасціналі
Усіх цароў, гадзюк людскіх!
Дакука з імі, каб вы зналі!
Як дурань ходзіш каля іх,
Не знаеш, як і дзе ступіць!
Дык што-ж, парайце, мне рабіць
Цяпер з паганымі?

Дадаткам да паэмы «Цары» служыць твор «Саул», у якім даецца не толькі вобраз разбэшчанага і прагнага цара, але і прыгняятальніка, які каршуном налятае на мірных працаўнікоў.

Аж на бяду цара нясе,
З законам, з катамі, з князямі
Мячом і цёмнымі рабамі.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Гора! Гора!
Драбнеюць людзі на зямлі,
Растуць і высяцца цары!

Рысуючы цароў Усходу і старажытнай Русі, Шэўчэнка бачыць агульныя рысы дэспатаў-самадзяржаўцаў і такім чынам ускосна характарызуе сучасных яму цароў. У яго мы маем вобразы Пятра I, Нікалая I, Александра II, царыцы Александры Фёдараўны і інш.

Прыгожа дадзена гэта ў паэме «Сон». Перад чытачом вобраз Пецербурга:

Паглядаю:
Палацы, палацы
Па-над ціхаю ракою,
А бераг абшыты
Увесь каменнем. Дзіўлюся,
Быццам з тропу збіты:
Як зрабілася яно во
З лужыны такое
Гэта дзіўна. Бо крыві тут
Выліта людское
Без нажа на'т. А па той бок
Цвярдыня й званніца,—
Як завостраная швайка
Аж не падзівіцца,
І дзілінгае гадзіннік.

Вобразы Пятра і Екацерыны дадзены рэзка адмоўнымі рысамі. Гэта—

Во той первый, распінаў што
Нашу Украіну,
А вторая даканала
Удаву-сірацíну.
Каты, каты, людаеды!
Наелісь абое,
Накраліся. А што ўзялі
На той свет з сабою?

Шэўчэнка ацэньваў дзейнасць Пятра і Екацерыны з пункту погляду селяніна, прыгнечанага памешчыкам і замучанага дзяржаваю.

Вось чаму ў яго творах адбіўся стогн тых людзей, на касцях якіх быў пабудаваны Пецербург.

О, цару паганы!
Цар пракляты, подлы, хітры,
Аспід прагавіты!
Што зрабіў ты з казакамі?
Балота засыпаў
Іх шляхотнымі касцямі!
Паставіў сталіцу
На іх трупах катаваных!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І мы, скованы з табою,
Людаед з бярлогаў!
На судзілішчы на страшным
Мы закрыем бога
Ад вачэй тваіх нясытых.
Ты нас з Украіны
Загнаў голых і галодных
У снег на чужыну,
Дый парэзаў, а з скур нашых
Сабе баграніцу
Пашыў жыламі тугімі
І заклаў сталіцу
У новай рызе. Падзівіся:
Цэрквы ды палацы!
Весяліся кат пракляты,
З крывавае працы.

Шэўчэнка не мог падняцца да разумення гістарычнай ролі Пятра і зразумець усю глыбіню гістарычных супярэчнасцяў яго пераўтварэнняў дадатных і адмоўных момантаў яго дзейнасці.

Больш рэзка дадзен вобраз Нікалая, жорсткую палітыку якога Шэўчэнка адчуў на сабе. Нікалаеўская казарма, эпоха «моравай паласы» доўжылася трыццаць год і яна цяжка адбілася на Шэўчэнку, Нікалай І вылазіць як мядзведзь з бярлогі, крычыць, лаецца, гарланіць на сваю чэлядзь, на ўсіх блюдалізаў. Многа пакут перанёс Шэўчэнка ад цара і царыцы, многа зла бачыў ён ад іх для ўсяго грамадства. І ён іх пракляў:

Цябе-ж, о сука!
І самі мы і нашы ўнукі
На свет увесь людзі праклянуць!
Не праклянуць, а толькі плюнуць
На тых абдоеных шчанят,
Што ты шчаніла. Мука! Мука!
О смутак мой, мая журба,
Ці ты мінеш калі? Ці псамі
Цары з міністрамі-рабамі
Цябе такую зацкуюць!
Не зацкуюць! А людзі ціха,
Без жаднага ліхога ліха,
Цара да ката павядуць.

Калі-ж гэта будзе, калі праўда возьме верх і народ расправіцца з царамі? Калі-б людзі не поўзалі як рабы, дык былі-б братамі і не панавалі-б цары. Шэўчэнка марыць пра гэты час, марыць—

Ці будзе суд? Ці будзе кара
Царам, царатам на зямлі?
Ці будзе праўда між людзьмі?..

Павінна быць, бо сонца стане
Зямлю спаганену паліць.

Шэўчэнка верыць у гэта і таму пытаецца ў людзей, навошта патрэбны ім цары?

О людзі! Людзі-небаракі!
Нашто здаліся вам цары?
Нашто здаліся вам псары?
Бо вы ўсё-ж людзі, не сабакі.

Толькі ў паэзіі Радзішчэва ды рэволюцыйных сялянскіх дэмакратаў знаходзім мы падобныя характарыстыкі і матывы. Нянавісць, пагарда, прага пагібелі каранаваных злачынцаў, цароў-псароў з'яўляецца ў Шэўчэнкі важнейшым матывам, матывам барацьбы за свабоду. Матывы царазабойства, барацьбы супроць дэспатызма і самадзяржаўя пераплятаюцца ў яго з матывамі барацьбы супроць нябеснага цара і зямнога пана-памешчыка. Цар, бог і пан—вось прыгнятальнікі, якім няма літасці, няма даравання.

Душа мая ўбогая,
Горанька з табою!..
Уп'янюся атрутаю
Ў крызе ляжам спаці,
Пашлём душу аж да бога,
Яго распытаці:
Доўга йшчэ на гэтым свеце
Катам панаваці?..

Гэтак разгарнуў Шэўчэнка барацьбу супроць самадзяржаўя, дэспатызма і прыгонніцтва.

Барацьба супроць прыгнятальнікаў, супроць бога, цара і пана заўсёды спалучаецца з гарачай абаронай чалавека, прыгнечаных, мужыка, жанчыны, дзяцей. У гэтых матывах Шэўчэнка ўзнімаецца да агульначалавечых пачуццяў, да сапраўднага дэмакратычнага гуманізма. Паэт смуткуе аб тым, што, падпарадкоўваючыся царам, людзі страцілі сваю чалавечую годнасць, сталі жалкімі рабамі. Прага нажывы, зайздрасць, злоба раз'ядноўваюць людзей і робяць іх ворагамі:

Дзе-ж добрыя тыя людзі,
Што сэрца жадала
З імі жыці, іх любіці?
Прапалі, не стала!

Ад абароны чалавека наогул Шэўчэнка пераходзіць да абароны прыгоннага мужыка, казака, жанчыны—маці, жонкі, нявесты, да абароны дзяцей. У паэме «Гайдамакі» нарысован вобраз аднаго з важакоў паўстання, Галайды, які да паўстання быў слугой:

—„Ярэма! гершту, хамскі сыне!
Пайдзі кабылі прывядзі.
Падай пантоплі гаспадыні,
Мне прынясі вады, ідзі!
Падмяці хату! Нясі дровы!
Пасып індыкам! Гусям дай!
Пайдзі ў абору, дай карове,
Ды хутка, хаме. Пачакай.
Зрабіўшы ўсё, бяжы ў Вільшану
Яймосці трэба, не марудзь!"
Пайшоў Ярэма і йдзе—чуць-чуць.

А вось малюнак прыгнечаных прыгонных сялян:

Хіба ты не бачыш?
Як людзей катуюць, крыўдзяць сірату?
Дык глянь, падзівіся! А я паляту
Высока-высока за сінія хмары;
Няма там улады, няма там і кары.
Там смеху людскога і плачу не чуць.
Вунь глянь,—у тым раі, што ты пакідаеш
Латаную світку з калекі знімаюць.
Са скурай знімаюць,—бо нечым абуць
Княжат недарослых. А вунь распінаюць
Удаву за падаткі, а сына куюць
Удавы няшчаснае ядынага сына,
Ядыну надзею,—у войска аддаюць.
Бо войска, бач, мала. А вунь дзе пад тынам
Апухлае дзіцё галоднае мрэ,
А маці пшаніцу на паншчыне жне.
А вунь—бачыш? Вочы! Вочы!
На што вы здаліся?
Чаму змалку не высахлі,
Слязмі не зліліся?
Гэта ля тыноў пакрытка
З байструком вандруе—
Бацька й маці адракліся,
Чужыя ганьбуюць...

З выключнай шчырасцю і цяплынёй дадзены жаночыя вобразы ў паэзіі Шэўчэнкі. У паказе іх Шэўчэнка—сапраўдны рэволюцыйны дэмакрат. Жанчына для яго—не прадмет для асалоды, а друг і таварыш, саратнік у барацьбе. Жанчына—маці, жонка, нявеста зарысаваны Шэўчэнкам з выключнай любоўю і цяплынёй. Пачынаючы з вобраза Кацярыны з аднайменнай паэмы і Аксаны з паэмы «Гайдамакі», Шэўчэнка не здраджвае сабе ў абмалёўцы вобраза жанчыны да канца сваёй паэтычнай дзейнасці.

У гэтых адносінах мы знаходзім у яго шмат агульных рысаў з рэволюцыйным дэмакратам Н. А. Некрасавым. Кацярына, ашуканая маскалём-афіцэрам, кінутая ім разам з дзіцянём, канчае жыццё самагубствам. З вялікай цяплынёй і сумам рысуе паэт вобраз гэтай няшчаснай жанчыны, з якой насмяяліся ўсе і ад якой усе адвярнуліся, уключаючы і роднага бацьку і маці. А што будзе з дзіцем, у якога няма бацькі, ці, правільней, ад якога адмовіўся бацька!

Пад хатаю заначуем,
Сыне мой Іване!
Дзе-ж ты будзеш начаваці,
Як мяне не стане?
З сабакамі мой сыночку,
Дзялі свае гора,—
Сабакі хоць пакусаюць,
Ды не загавораць,
Не раскажуць, смяючыся...
З сабакамі жыці...
Бедна-ж мая галовачка,
Ой, што мне рабіці?

Маці памірае, бацька адмаўляецца ад сына, а сірата застаецца адзінокім на свеце.

А таму якая доля,
Доля засталася,

Каго бацька і не бачыў,
Маці адраклася,
Байструку што засталося?
Хто з ім загавора?
Ні радні тэй, ні хаціны,
Шляхі пяскі, гора...

Да гэтых вобразаў адносіцца і Аксана з паэмы «Гайдамакі». Яна таксама не ведае шчасця; бацьку забілі палякі, а яе ўзялі з сабою, каб здзеквацца з яе. Пакуты бацькі і самой Аксаны пададзены не ў асабістым, а ў соцыяльным плане. Казакі жорстка помсцяць за ўсе свае пакуты і мучэнні, за смерць бацькі Аксаны і за здзекі з яе. Шэўчэнка паказвае тут, як матывы асабістай помсты пераплятаюцца з барацьбой за свабоду і незалежнасць роднай краіны супроць прыгнятальнікаў-палякаў. Пытанне аб жанчыне і яе эмансіпацыі было адным з найбольш важных у шасцідзесятыя годы. Не дзіўна, што гэтаму пытанню так шмат увагі ўдзяляла паэзія рэволюцыйных разначынцаў. У большасці паэтаў-разначынцаў ёсць вобразы жанчыны і сярод іх вобраз паўшай жанчыны. Некрасаў («Еду-ль я ночью по улице темной», «Убогая и нарядная»), а следам за ім Дабралюбаў («Не насмехайтесь над павшей женой») і інш. зразумелі і не асудзілі такую жанчыну. Такіх-жа поглядаў трымаўся і Шэўчэнка.

Краем вуліц паспяшалі
Сонныя дзяўчаты,
Ды не з дому, а дадому:
Пасылала маці.
На ўсю ночку працаваці,
На хлеб зарабляці.
А я стаю пахіліўшысь,
У думках разважаю:
„Як-то цяжка хлеб штодзенны
Людзі зарабляюць!

Колькі трэба мець любві да чалавека і як глыбока трэба разумець соцыяльныя супярэчнасці, каб так думаць і адчуваць! Шэўчэнка стаіць тут у адным радзе з рускімі рэволюцыйнымі дэмакратамі—Чэрнышэўскім, Дабралюбавым, Некрасавым. Цудоўны вобраз батрачкі Ганны з паэмы «Наймічка». Маладзіца нарадзіла сына і вырашыла падкінуць яго добрым людзям. Тыя ўзялі дзіця і сталі выхоўваць яго, а Ганна нанялася да іх у батрачкі, каб даглядаць свайго-ж уласнага сына. Мінулі годы, старая гаспадыня памерла, прыёмны сын Марк вырас і ажаніўся. Ганна заставалася ў доме і яе як родную любілі Марк і яго жонка. Толькі перад смерцю Ганна прызналася Марку, што ён—яе сын. Усё жыццё пражыла яна для свайго сына, не маючы права сказаць, што яна яго маці.

Пачынаецца паэма выдатным пралогам пра лёс дзіцяці:

Я не адна—у мяне ёсць
І бацька і маці...
У мяне ёсць туманочку,
Тумане мой браце!..
Нехрышчоны мой сыночак,
Мой любы сакole!
. . . . . . . . . . . . . .

Не лай мяне! Я выпрашу
І вымалю ў бога
Долю выплачу слязамі
Для сына малога!

І заключная карціна, дзе ў апошнюю хвіліну жыцця наймічка прызнаецца, што яна маці Марка, таксама напісана з выключным пачуццём.

Я не Ганна, не наймічка,
Я...“
І занямела.
Марка плакаў і дзівіўся.
Зноў вочы адкрыла,
Пільна глянула ды зрок ёй
Сляза засланіла.
„Даруй ты мне! Мучылася
Век я ў чужой хаце!..
Даруй-жа мне мой сыночак!
Я... я—твая маці!“
І замоўкла.
Самлеў Марка,—
Зямля задрыжала.
Прахапіўся—да мацеры,
А маці ўжо спала.

Глыбокая мацярынская любоў здольна прымусіць перанесці ўсё, гэта любоў самая моцная, самая шчырая.

Увы! утешится жена
И друга лучший друг забудет,
Но в мире есть душа одна—
Она до гроба помнить будет!
Средь лицемерных наших дел
И всякой пошлости и прозы
Одни я в мире подсмотрел
Святые, искренние слезы.—
То слезы бедных матерей,
Им не забыть своих детей
Погибших на кровавой ниве,
Как не поднять плакучей иве
Своих поникнувших ветвей...

Так пісаў аб мацярынскім каханні Некрасаў, такі-ж цудоўны вобраз намаляваў і Шэўчэнка.

## VII

Мара аб свабодзе, аб волі, аб вольным чалавеку, заклік да барацьбы супроць прыгнятальнікаў, гарачая абарона прыгнечаных перапляталася ў Шэўчэнкі з любоўю да радзімы, да Украіны.

Ворагі народа скажалі вобраз Шэўчэнкі, паказваючы Шэўчэнку як вузкага нацыяналіста. Гэта—несусветная бязглуздзіца. Шэўчэнка быў рэволюцыйным дэмакратам і разумеў, што інтарэсы ўсіх прыгнечаных супадаюць. Ён ваяваў не супроць рускіх мужыкоў, не супроць рускіх рэволюцыянераў, а ваяваў з царамі, памешчыкамі, з самадзяржаўна-дэмакратычным ладам, які прыгнятаў не толькі яго, але і ўсіх рускіх дэмакратаў-рэволюцыянераў. Пачуцці Шэўчэнкі былі зразумелы ўсім працоўным змагарам за свабоду. Трэба ска-

заць, што ў Шэўчэнкі да яго пратэсту прымешваліся пачуцці болю за родную Украіну. Самы пратэст пранікаўся гэтым пачуццём болю і любві да Украіны і атрымліваў нацыянальную народную афарбоўку. Выкарыстоўваючы вядомую формулу таварыша Сталіна, можна сказаць, што ў творчасці Шэўчэнкі рэволюцыйна-дэмакратычны змест пададзен у нацыянальнай форме. Для Шэўчэнкі перш за ўсё характэрна шчырая, беззаветная любоў да радзімы, тое пачуццё, якое так высока цэнім мы цяпер. Яго герой Гонта з паэмы «Гайдамакі» прыносіць у ахвяру радзіме ўласных дзяцей, якіх маці зрабіла католікамі. Карціна забойства Гонтаю сваіх дзяцей нарысавана з выключным майстэрствам і нагадвае нам расправу гогалеўскага Тараса Бульбы са сваім сынам Андрэем.

„Католікі, бо нас маці...“
„Божа міласцівы!
Маўчаць, маўчаць. Знаю, знаю.“
Збеглася грамада.
Католіка рэзаць.
Ой, сыны, сыны мае вы!
Малыя гарэзы.
Што не рэжаце вы ляха?“
„Будзем рэзаць, татка!“
„О, не будзеце вы рэзаць!
Будзь праклятай матка,
Праклятая каталічка,
Што вас спарадзіла!
Чаму вас да ўсходу сонца
Была не ўтапіла?
Менш бы грэху: вы памерлі-б
Не каталікамі!
А сягодня, сына мае,
Горачка мне з вамі.
Пацалуйце мяне, дзеці,—
Не я забіваю,
А прысяга!“
махнуў нажом
дзяцей не мае,
Парэзаныя палеглі
„Тата!“—булькаталі
Тата, тата... Мы не ляхі!
Мы... ды й замаўчалі.

Любоў да радзімы паглынае ўсё, ад любві да радзімы і нянавісці да яе ворагаў Гонта забівае сваіх дзяцей, якія могуць стаць ворагамі Украіны і народа. Так расправіўся з сваім Андрэем Тарас Бульба. І нават хаваць дзяцей не стаў Гонта, звярнуўшы ўсю горыч і гнеў супроць прыгнятальнікаў-ляхаў:

„Кары, ляхам, кары!“
У корані. Страшна, страшна
Умань запалала.

Толькі пасля пабоішча ён хавае сваіх дзяцей.

Абадву злажыў; з кішэні
Кітайку вымае,
І цалуе ў вочы мёртвых,
Хрысціць, накрывае
Той чырвонаю кітайкай
Головы казачы.
Паглядзеў раскрыўшы яшчэ раз...

Цяжка-цяжка плача:
Ой, сыны, мае, сыночкі!
На тую Украіну
Паглядайце: за яе вы
І я з вамі гіну.
А хто мяне пахавае
На лужацкім полі
Хто заплача нада мною?
Доля мая, доля.
Доля мая няшчасная,
Што ты нарабіла.
На што мне дзяцей дала ты?
Чаму не забіла?
Хай бы яны пахавалі
А то я хаваю.

Паралеллю да такой карціны з'яўляецца карціна з паэмы К. Ф. Рылеева «Войнароўскі». Тут Войнароўскі гатоў ахвяраваць сваёй сям'ёй у імя любві да радзімы.

Гатов все жертвы я прынесть,—
Воскликнул я,—стране родимой:
Отдам детей с женой любимой
Себе одну оставлю честь.

Але Мазепа ідзе яшчэ далей:

Но я, но я, пылая местью,
Ее спасая от оков,
Я жертвовать готов ей честью.

Не гістарычнай праўды трэба шукаць у паэмах Шэўчэнкі і Рылеева, а матываў барацьбы за свабоду, што Рылееў выказаў у словах:

Уж близок час, близка борьба,
Борьба свободы с самовластьем.

Гэта страсная любоў да Украіны, жаданне ёй шчасця выклікаліся ў Шэўчэнкі не толькі асабістымі меркаваннямі, але галоўным чынам матывамі соцыяльнымі. Родны край быў у няволі, землякі—адны заняволеныя, другія разбэшчваліся царскім самадзяржаўем і здраджвалі народу, становячыся ў рады катаў і мучыцеляў. Пачуцці гора, пакуты і смутку за радзіму і перадае Шэўчэнка ў сваіх вершах.

Бывай свет! Бывай зямліца,
Непрыязны краю!
Мае жудасныя мукі
У хмарах пахаваны.
А ты, мая Украіна,
Гаротная ўдоўка.
Я ляцець да цябе буду
З хмары на гамонку,
На гамонку ціха-сумну,
На раду з табою;
Апоўначы падаць буду
Густою расою.
Параімся, пасумуем,
Пакуль сонца ўстане,
Пакуль твае краскі-дзеці
На ворага стануць.
Бывай, родная мая ты,
Удава-нябога!

Любоў да Украіны перарастала ў Шэўчэнкі ў любоў да ўсіх працоўных, да людзей-братоў, якіх прыгняталі багі, цары і памешчыкі. Толькі ў Шэўчэнкі гэта ўскладнялася пачуццём смутку і болю за падвойнае прыгнечанне свайго народа, адсюль страсны заклік да барацьбы за свабоду, які зліваецца з заклікам да барацьбы за вызваленне ад нацыянальнага гнёту.

Як-бы парадаваўся Т. Г. Шэўчэнка, гледзячы на сваю Украіну цяпер, калі украінскі народ свабодна жыве і будуе сваё жыццё, сваю культуру, мастацтва, развівае сваю мову, калі разбурана турма народаў і на яе месцы створан свабодны братні саюз народаў.

## VIII

Усе матывы і раскрываючыя іх вобразы ў Шэўчэнкі афарбаваны своеасаблівай лірыкай, выступаючай перад намі то як пяшчотны задушэўны сум, туга па долі, па шчасцю, то як гнеў супроць прыгнятальнікаў і смутак за зняслаўленых і абражаных. Лірызм Шэўчэнкі яўляе асноўную стыхію яго творчасці і вельмі зближае яго з народнай паэзіяй, з народнымі песнямі. Ён усюды харош і своеасаблівы, усёроўна як у паказе суму і кахання, шчасця і долі.

Чаго мне так цяжка? Чаго мне так нудна?
Чаго сэрца плача, рыдае, крычыць,
Як дзіця без маткі? Чаго-ж табе трудна?
Чаго ты жадаеш? Што ў цябе баліць?
Ці піці, ці есці, ці спатанькі хочаш?
Засні маё сэрца... Няхай чыніць здзек
Звар'яцелы люд... Закрый, сэрца, вочы...

Цяжкое было жыццё Т. Г. Шэўчэнкі, яно і спарадзіла гэтыя думкі і пачуцці; яно глыбока параніла і змучыла яго душу. Вось адкуль такая туга, такі песімізм. І гэта тады, калі Шэўчэнка страсна кахае жыццё, хараство, прыроду, сонца:

О, божа мой мілы!
Цяжка жыць на свеце, а хочацца жыць!
Хочацца глядзеці, як сонейка ззяе,
Хочацца паслухаць, як мора зайграе,
Як птушка шчабеча, байрак гамоніць,
Або чорнабрыўка ў гаю запявае...
О, божа мой мілы, як весела жыць!

Дзе развязванне гэтай супярэчнасці, чаму сэрца разрываецца ад мукі, калі так хораша жыць, чаму льюцца слёзы, калі так ярка свеціць сонца. Няволя цяжкая ўсяму прычына, яна не дае загаіцца ранам і высахнуць слязам.

Лірызм, то гнеўны і смутны, то ціхі і пяшчотны не дарма быў асноўнай стыхіяй Шэўчэнкі. Творчасць была для яго жыццём, а жыццё—барацьба. Барацьба жорсткая, бязлітасная, без уступак і даравання. Спачатку з панам-прыгоннікам і са ўсёй зграяй яго сабак, потым з царом-псаром і яго лізаблюдамі-псаратамі. І Шэўчэнка верыў у сілу сваёй зброі, у сілу свайго слова, у сваю мову. Ён верыў у дзейсную, магутную сілу слова і сваёй роднай мовы, якую ён кахаў да самазабыцця.

І гэта рыса родніць яго з шасцідзесятнікамі.

Хоць Некрасаў і заявіў, што «мне барацьба перашкаджала быць паэтам, песні мне перашкаджалі быць байцом», але на самай справе песні Некрасава былі баявой зброяй рэволюцыйнай дэмакратыі. Такой-жа зброяй былі і песні Шэўчэнкі. Больш за ўсё баяўся Шэўчэнка сна, баяўся заснуць.

Мінаюць дні, мінаюць ночы,
Мінае лета, шапаціць
Ліст пажаўцелы, гаснуць вочы,
Заснулі душы, сэрца спіць.
Ї ўсё заснула... Ї не знаю,
Ці я жыву, ці дажываю,
Ці так бадзяюся за грэх,
Бо ўжо заціх мой плач, мой смех.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Страшна ў ланцугі ўпасці
Канаць у няволі,
А шчэ горай—спаці, спаці,
Ї спаці на волі,
Ї заснуць, заснуць на вякі,
Ї следа не кінуць
Ніякага і аднолькава—
Ці жывы, ці загінуў!..

Жыць для Шэўчэнкі, як і для Пушкіна значыла мысліць і пакутваць, мысліць і змагацца, а не спаць. Сон, абыякавасць, цяжэй за ўсё на свеце.

Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Мне хоць бы якую!
Калі добрай, бог, шкадуеш,
Дай хоць злую, злую!

Лірызм Шэўчэнкі афарбаваў сабою ўсё, аб чым ён пісаў, сам пранікаўся грамадзянскімі матывамі і выказваў іх. Ён усюды, ён надае асаблівы тон творам Шэўчэнкі, тон адпаведны вуснай народнай творчасці.

## IX

Лёгка бачыць цяпер, што Тарас Грыгоравіч Шэўчэнка ведаў і любіў народ не па чутках, не з боку, а кроўна, бо ён пражыў цяжкое жыццё працоўнага народа. Яго народнасць з'яўлялася арганічнай уласцівасцю натуры, яго складам думкі і пачуцця, карацей—яна складала аснову яго творчасці. «Народнасць у пісьменніка ёсць вартасць, якая цалкам можа быць ацэнена аднімі суайчыннікамі—для іншых яна не існуе, або, нават, можа здацца заганай—вучоны немец абураецца на ветлівасць герояў Расіна, француз смяецца, бачачы ў Кальдэроне Карыолана, які выклікае на дуэль свайго праціўніка. Усё гэта носіць аднак-жа адзнаку народнасці.

Ёсць лад мыслей і адчуванняў, ёсць procьма звычаяў, павер'яў і звычак, належачых выключна якому-небудзь народу—клімат, лад праўлення, вера даюць кожнаму народу асаблівую фізіяномію,—якая больш ці менш адбівацца ў люстры паэзіі» *. Так пісаў

* А. С. Пушкін. Поўны збор твораў, т. ,9 стар. 41, М. 1936.

былі падставы для братняй салідарнасці, дзеля правільнага разумення нацыянальнай любві і інтэрнацыяналізма. Няма чаго і гаварыць пра гэта пасля Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Таварыш Сталін яскрава сфармуліраваў гэта ў 1927 годзе ў сваім артыкуле «Міжнародны характар Кастрычніцкай рэволюцыі: («Да пытання аб пролетарскім метадзе развязвання нацыянальнага пытання»): тут ён пісаў: «Раней, «прынята было» думаць, што свет падзелены спакон веку на ніжэйшыя і вышэйшыя расы, на чорных і белых, з якіх першыя няздольны да цывілізацыі і асуджаны быць аб'ектам эксплаатацыі, а другія з'яўляюцца адзінымі носьбітамі цывілізацыі, прызванымі эксплаатаваць першых. Зараз гэту легенду трэба лічыць разбітай і адкінутай. Адным з важнейшых вынікаў Кастрычніцкай рэволюцыі з'яўляецца той факт, што яна нанесла гэтай легендзе смяротны ўдар.

Раней «прынята было» думаць, што адзіным метадам вызвалення прыгнечаных народаў з'яўляецца метад *буржуазнага нацыяналізма*, метад адпадзення нацый друг ад друга, метад іх раз'яднання, метад узмацнення нацыянальнай варожасці паміж працоўнымі масамі розных нацый. Зараз гэту легенду трэба лічыць абвергнутай. Адным з галоўнейшых вынікаў Кастрычніцкай рэволюцыі з'яўляецца той факт, што яна нанесла гэтай легендзе смяротны ўдар, паказаўшы на справе магчымасць і мэтазгоднасць *пролетарскага інтэрнацыянальнага* метада вызвалення прыгнечаных народаў на аснове дабраахвотнасці і інтэрнацыяналізма» *.

Іменна такая пастаноўка пытання прыводзіць да формулы аб культуры: «Соцыялістычная па свайму зместу і нацыянальная па форме культура, якая мае сваёй мэтай выхаваць масы ў духу інтэрнацыяналізма і ўзмацнення дыктатуры пролетарыята» **.

Гэта адзіна правільнае дыялектычнае развязванне нацыянальнага пытання, калі прыхільнікі зліяння ў будучым нацыянальных культур у адну агульную (і па форме і па зместу) культуру з адной агульнай мовай, з'яўляюцца разам з тым прыхільнікамі росквіту нацыянальных культур у перыяд дыктатуры пролетарыята» ***. Мы ведаем, што ў 60-я годы XIX ст. пролетарыята ў Расіі, як сілы вызначаючай ход гістарычнага развіцця, яшчэ не было. Але з усяго гэтага зусім не вынікае, што не было глебы для брацкага саюза сялян Расіі і Украіны; яна была, бо прыгонная права, самадзяржаўна-бюракратычны памешчыцкі лад аднолькава прыгнятаў і рускіх і украінскіх сялян і рускую і украінскую інтэлігенцыю. Пагэтаму, мы, гаворачы аб нацыяналізме і патрыятызме Шэўчэнкі, бачым тут не абмежаванасць вузкімі рамкамі, а жаданне свайму народу такой-жа свабоды і шчасця, як і другім народам. Барацьбу Шэўчэнкі з самадзяржаўна-бюракратычным ладам не след разумець, як барацьбу супроць рускага народа, супроць рускага мужыка. Так мы разумеем нацыяналізм і патрыятызм Шэўчэнкі. Іншымі словамі ка-

*) І. Сталін. „Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне", зб. арт. М. 1937, стар. 189—190.

** Там-жа, стар. 194

*** Там-жа, стар. 194.

Куліш

О, нават так? Цудоўна!

Костамараў

Я пашлю
за ёю Хомку—ён яе пакліча.

Гулак

Чакай... ці-ж зручна? Можа што Тарас
абразіцца... Ён будзе-ж тут...

Костамараў

Аб гэтым
я думаў так... Ён з'явіцца пазней.
Павінен ён варочацца з эцюдаў,
дык, пэўна, што і спозніцца. А тут
усё мы скончым да яго прыходу.
*(Кліча).*
А нутка, Хомка... Хомка! Дзе ты ёсць?
*(З роспачччу).*
Заснуў праклятый хлопец.—Пачакайце,
я зараз растрасу яго...

(Выходзіць).

Куліш

Вось як,
дык наш кабзар зайграў на іншых струнах.

(Пауза).

Скажы, Гулак... ці думаў ты аб тым,
што страшную сыграць магла-бы ролю
яна ў жыцці Тарасаваму.

Гулак

Хто?

Куліш

Жанчына. Жонка. Прыгожае, прастое,
і нават без характару цяля,
ці чалавек суцэльны, гарманічны—
ўсеўладная і ўзнятая душа.
Які талант яму паслала неба!
Чаго ўжо не даў яму гасподзь!
Калі-б ён мне даў такі жорсткі геній,—
памёр-бы я, напэўна... Я чытаў
нядаўна ім напісаныя рэчы...
О, госпадзі, які дзівосны страх,
які уцёс магутны, але дзікі,
і страшна і прыгожа, і вяліка!

(Пауза).

Як Моцарту зайздросціць мог Сальеры?
Маленькі і нікчэмны эгаіст.
Паверыш, я Тарасу не зайздрошчу:

я знаю, мы не роўныя... Ды я...
я нейкую адказнасць адчуваю
за рэчышча, якім ён пацячэ...

Гулак

Па-твойму гэта рэчышча...

Кулiш *(асцярожна)*

Ну, бачыш...
Я адчуваю... што прышоў прарок,
але, як усе правадыры й прарокi
прышоў на свет ён рана. І не час
яшчэ яго нi плачам, нi прароцтвам:
народ наш спiць i сон яго цяжкi,
глыбокi сон... Прабудзiшся не скора
з такога сну.
*(нервова ходзiць па пакоi)*
Не барацьбу, не бунт,
а iсцiну магутную хрыстову
ў душы народнай сеяць час настаў.
Пара асвету даць гаротнай той душы—
не блытаць, як Тарас, i не пужаць,
без часу прапаведуючы волю.

Гулак

Вакол Тараса ёсць i мы.

Кулiш *(безнадзейна ўздыхаючы)*

Ды ёсць...

Гулак

Ты думаеш, над iм не маюць сiлы
уплывы асяроддзя?

Кулiш

Ды не!
Я думаю, што маюць... Толькi шкода,
што асяроддзе гэтае—не мы.
А я-б хацеў, каб мы яго ўзрасцiлi
І з поўнай крыку музы мужыка
мы славу нацыi сваей стварылi.
*(Зварочваецца Костамараў).*

Костамараў

Ну, вось, Хама пайшоў.

Кулiш *(не слухаючы, працягвае)*

Ды уявiм,
што гуртам мы сумеем абцясаць
той мозаг дужа непакорны. Ды душы,
душы яго патрэбен добры цэнзар.
Перажываннем тонкiм навучыць
крамольную яго душу патрэбна.

Гулак

Гэта з Тарасам цяжка... Я-б сказаў,
што гэта з ім, напэўна, немагчыма...

Куліш

Скажу табе, мой дружа,—для людзей,
якія толькі зло й няволю зналі
ў жыцці і больш нічога, як Тарас,—
для іх не застаецца ўжо нічога,
як толькі лоб аб сцену разбіваць,
шукаючы уяўленае волі.
А дай ім кроплю ласкі і цяпла,
і хоць на міг сардэчнага камфорту,
і з сэрца ў яго вырвецца не крык,
а салаўя калышучая песня.

Костамараў *(які ўвесь час моўчкі слухаў)*

Ты знаеш, я цяпер пашкадаваў,
што выдумаў агледзіны... здаецца,
твае намеры й думкі я ўгадаў.

Куліш

Пашкадаваў?—Цікава!—Дык выходзіць,
што давядзецца думаць і аб тым,
каб яшчэ неяк ратаваць Тараса.

Костамараў *(ухіляецца ад пільнага погляду Куліша)*

Не думаю.

Гулак

Так, так... А хто-ж яна?

Куліш

Не думаеш... Здаецца, ты не пэўны.
*(Раптам).*
Скажы усё-ж, Мікола,—хто яна?

Костамараў

Дык ты, сапраўды, думаеш ўмяшацца
у выбар кабзаровае душы?

Куліш

Я думаю,—ўмяшацца ў гэты выбар—
ёсць абавязак наш святы.

Костамараў

Скажы
ты мне, Панько,—калі-б Тарас надумаў
табе сказаць:—мой дружа, не любі
ты Ганны Белазерскай, калі ласка,
і не вядзі яе да алтара,
або то самае мне пра Аліну,
я-б... мы-б...

Куліш (*навучальна*)

Ты сам, Мікола, гаспадар
сабе, і я таксама; Шэўчэнка-ж
належыць нам з табою, не сабе.

Гулак

На сваё шчасце кожны мае права.

Куліш

Магчыма, кожны. Толькі не прарок.
Ён ад сябе адмовіцца павінен.
Калі-ж не хоча гэтага зрабіць,—
яго прымусім мы... Ды з яго будзе
не Пугачоў, не Разін, не мужык,
а салавей, які па ўсёй Еўропе,
па свеце ўсім прымусіць заквітнець
нам дарагое слова—«Украіна».

(Пауза).

Гулак

Так, так... Магчыма.

Куліш

Іменна...—Яна-ж,—
то толькі крок.—І першы крок, магчыма.

(У калідоры чуваць званок. Куліш замаўкае і не паказваючы свае паспешнасці, садзіцца ў кутку. Чуваць як адмыкаюць дзверы. Праз момант уваходзяць Савіч, Пятроў)

Савіч (*уваходзячы*)

Панове, добры вечар... А Тарас Грыгоравіч,
ён тут?

Костамараў

Ён хутка будзе.
Сядайце, размяшчайцеся...

Савіч (*сядаючы побач з Пятровым*)

А я, панове, зараз добра пасмяяўся.
Вось толькі, разумееце, іду,
спешаюся Крэшчацікам да дому,
калі ў адному франце пазнаю
паручніка Граноўскага... «Куды ты
і адкуль ты?»—пытаю... «—Я бягу
ад Куліша».—Хвалюецца Граноўскі—
«Шэўчэнка»—кажа—«добры чалавек,
душа святая... а грошай не пазычыў.
А вось Куліш нягоднік такі даў».

(Усе голасна смяюцца).

Куліш

Няўдзячны!

Савіч *(пырскаючы смехам)*

Ды не скажыце-ж вы яму...

Пятроў

Які гэта Граноўскі?

Савіч

Родны брат
Міколы, дэкабрыста... Нам-бы варта
мецьь на увазе гэтага хлапца.
Апроч таго, што на Сенацкай плошчы
рабіў вялікую ўсё-ж справу брат,—
ёсць у яго знаёмствы ў гарнізоне,
і з афіцэрствам сувязі як след...

Куліш

Дазвольце, пане Савіч... ну, «знаёмствы
у крэпасці, у гарнізоне...» Нам
нашто тыя знаёмствы?

Савіч

Я думаю,
што гэтыя знаёмствы нам...

Костамараў *(трохі насмешліва)*

Панько!
Пан Савіч, бач, захоплены паветрам,
што павевае з Захаду.

Савіч

Чаму
не спрабаваць нам свежага паветра,
што дзме, напрыклад, з Захаду? Чаму
так свядома мы павінны пазбягаць
агню, што б'е нам ў вочы, калі нас
ён можа асвяціць бліскуча, ясна?

Куліш

Ці асляпіць.

Пятроў *(падкрэслена да Савіча)*

Бачце, пан Куліш
напэўна, што наўмысля забывае,
што ёсць на свеце прыказка—

Куліш *(смяючыся)*

— «свяці,
ды не падпальвай».

Пятроў

Ёсць другая: «да святла
арліныя-бы вочы».

Кулiш *(трохi пакрыўджана)*

Ды чым багат,
тым я i рад...

Гулак

Не забывайце
таго, што мы—не Захад, што народ
наш цёмны i няграматны настолькi,
што...

Кулiш *(канчае)*

Дай яму хрышчонаму нажа
i ён усё, што ёсць ў Русi жывога,
ў крывi й агнi утопiць...

Савiч

Значыць мы,
па-вашаму, сядзець павiнны так,
баючыся магчымага?

Кулiш

Дарма!
Мы сеем слова iсцiны ў народзе.
Няхай, як след, ён слова зразумее,
тады яно ярмо няволi спалiць
навекi.

Савiч *(пераможна смяючыся)*

Я мяркую, не словы
могуць ярмо спалiць, а пажары.

Пятроў

Бравiсiма! Бравiсiма! *(Апладыруе).*

Савiч

Народ
прыгнечаны сапраўды. А урад
ды цар цяперашнi—хiба яны
не кiтаiзм, не варварства, не цемру
насаджваюць сярод людскiх нiзоў,
мiж чэрнi рамеснiцкае, мiж хлопаў,
мiж прыгонных?—Памешчыцкi бiзун
i непiсьменнасць, голад i няволя—
гэта адзнакi лепшыя таго,
што царскi скiпетр...

Костамараў *(задаволена аглядаючыся)*

Я вас прасiў-бы...

Савiч

...што царскi скiпетр ўжо ў руцэ дрыжыць
i, пэўна, хутка выпадзе!

Пятроў

О, далей,
пан Савіч, калі ласка!

Савіч *(адчуваючы падтрымку)*

Ну, вось тут
я думаю, магчыма, пан Граноўскі,
між афіцэраў сувязі яго
патрэбны будуць нам найлепш!

Костамараў *(насмешліва)*

Выходзіць,
пан Савіч рухаецца на цара
не толькі з мячом абвінавачванняў,
але й з абвінавачваннем мячом?

(Званок у калідоры. Праз момант усе кідаюцца насустрач прышоўшаму)

Выкрыкі

— Тарас!
— Тарас Грыгоравіч!

(Калі ўсе выходзяць, Гулак адводзіць у бок Костамарава).

Гулак *(непакойна)*

Пайшлі
Хаму свайго хутчэй-жа... Папярэдзьце
нявесту... калі ласка... каб не йшла!
Я гаварыў!

Костамараў *(кліча)*

Хама!.. Заснуў пракляты...
Я зараз... Ах, скандал такі...
*(Выбягае)*

(Уваходзіць Тарас, трымаючы ў руцэ белае паліто, ён цалуе руку Таццяне Пятроўне, што выходзіць яму насустрач,—яна цалуе яго ў лоб).

Куліш *(уваходзячы з калідору)*

Вось бачыш,
Тарасік,—ты своечасова падышоў:
пан Савіч, вось як раз цяпер рашае,
што трэба нам рабіць і як з царом
і з урадам!

Тарас *(трымаючы паліто)*

Павесіць-бы...

Куліш

Мой божа!
Што гэта ты?!

Савіч *(рагоча)*

Я зразумеў вас так,
што вы паліто павесіць-бы хацелі?
Ці праўда?

Тарас

Ї цара.
*(Аддае паліто Тацяне Пятроўне).*

Куліш *(у роспачы)*

Святы гасподзь!
Ў якім-жа таварыстве ты блукаеш,
што размаўляеш чыста як чумак?!

Тарас

Не, я цяпер з рыбалкамі рыбаліў!
А чумакоў даўно не сустракаў...
Вось так сяджу у горадзе сабе тут,
як быццам сыч ў лісці... дык хіба
тут чалавека стрэнеш?.. каб бурлака
ці чумака якога... Ўсе такія
вучоныя, друкаваныя, а глянь—
вухатыя, некаваныя...

Савіч

Пра іх—
ці вы чыталі?—ў аповесці апошняй
пан Гогаль напісаў!

Тарас *(захоплены)*

Гэта зямляк!
Як ён ушкварыў нехрысцю у вочы!
Вы знаеце, сягоння я сяджу
у пана губернатара... Ї аб ім
ідзе як раз размова... Тое, сеё,
на вуснах ў нас пан Гогаль, аповесць
яго нядаўняя... А раптам тут
нешта як уварвецца ў дзверы! Гляджу я
а з-заду жандараў двое мяне
сардэчната трымаюць! Уварваўся
з запалу ён, напэўна, і дрыжыць,
спужаўся з нечаканасці... «Што гэта?»
—пытае губернатар—ці тут карчма,
што грукаць так дазволена халопам?!»
«Спаймалі, ваша светласць...» жандары
тады яму адказваюць—«нягоднік
на прыстані чытае да натоўпу
вось гэтыя пісанні...» Губернатар
з рук у жандара бярэ сшытак,
чытае і паказвае:—«глядзіце,
толькі, Тарас Грыгоравіч, вось што
супроць цара й прастола наскладалі!»
А я гляджу—о, госпадзі святы—
ды мой-жа «Сон» у сшытку!

Савіч *(захоплена)*

Ды што вы!!

Тарас

«Ай-ай—кажу—якія скрозь пайшлі
няўдзячныя, нялюдскія піты!..»
А сам ад смеху аж кіплю! А сам
ну, вось-вось-вось у твар разрагачуся!
і як я толькі вытрымаў?!

Куліш

Глядзі,
а як пазнае...

Тарас

А як ты не скажаш,
дык як-бы ён дазнаўся?—ну, ды ты
не злуйся, я жартую...

Костамараў

Чым-жа, ўрэшце,
закончыўся пасаж той?

Тарас

Ну, значыць,
гавару: «людзі няўдзячныя пайшлі...
народ пад царскім скіпетрам жыве,
маўчыць, ні гуку ад задавальнення
не чутна ад яго... Ды так яму
заняла дух ад жыру, як ад страху...
на усіх языцах ціша... А яны
яшчэ не задаволеныя!.. ўзводзяць
на іх вялікасць ўсякую лухту!
Караць іх супастатаў!»—«Праўда, праўда»,
гаворыць
светласць мне.
«А гэты—
у чым-жа ён віноўны?»—я пытаю—
«пусцілі-б, ваша светласць!..» Не хацеў,
прасіў я, умаляў я... і нарэшце...

Савіч

Такі пусціў?

Тарас

Пусціў такі.

(Савіч і Пятроўна галасна смяюцца)

Куліш

Скажу
табе, адкрыта:—надта ты бравуеш
слабенькім «Сном». Сказаць-бы—добры твор,
а то-ж—ні форм, ні меры, ні мастацтва,
а толькі пена, гордасць і злаба!
Табе ў народ яго пускаць навошта?
Такія рэчы далей лепш трымаць,
каб імі чэрні дарма не муціць...

Савіч

Ну, ты занадта.

Пятроў *(абурана)*

Надзвычайны твор!

(Пауза).

Тарас *(бярэ з кісета табаку, круціць цыгарку)*

Гм... А суддзя ты, сапраўды, няўмольны...
«Ні формы... ні мастацтва...»—можа й так!
Магчыма, што няма ў мяне мастацтва,—
а толькі-б праўда й ісціна была!
А будзе праўда,—будзе, значыць, пена
і ненавісць, і гордасць, і злаба,
і ёй у мяне няма й не будзе меры!
Адкуль-бы ўзяць ту меру мог-бы я?
З павітых павуціннем фаліянтаў?
З кніжок у мышыных кропках і ў пылу?
*(памаўчаўшы)*
Скажы ты мне—цябе калі сцябалі
розгамі на стайні?—Ты, Панько,
кажы ды не саромся... Так бывала,
каб бацька твой, каб маці, каб сястра,
каб сам ты тыдзень сыты асцюкамі
і вадою быў? Ты знаўца душы
народнае!—Ты з тых, што возьме торбу,
адзене світку ў дзірах—ды ў народ
йдзе вывучаць... Ды ў торбу не забудзеш
пакласці кавалак добры сала!
А глянеш ты блакітнымі вачамі
на змучаны і стомлены народ
на крыўду і на слёзы, і на гора,
на твары ляжа гора і туга
ды—уцякаць! Бо мала бач, мастацтва!
бо меры не хапае! бо ў жыцці
няма нідзе ўлюбленае формы
салодкае піітыкі!—Няма
красы ні ў якім горы.—Ты, брат, спрабуй
стань сам народам змучаным сваім,
будзь сам яго часцінаю малою.
і пакаштуй з дзяцінства бізуна
і голаду, і крыўды, і няволі,
тады тваім мастацтвам стане крык,
а не шукання слюнявай меры;
тады тваім мастацтвам будзе стогн,
а не пустая ісціна хрыстова!
Ї ты тады крычаць будзеш як звер,
крычаць будзеш, каб ўсе цябе пачулі,
хаця-б табе, нібы шалены пёс,
ўчапіўся цар ў змардованае горла,

хацяб цябе ірвалі на шматкі
і, як хацелі, мучылі ў засценках...

(Пауза. Тарас закурвае. Усе нібы анямелі).

Дык вось, Панько, як хоч... Канец адзін.
А мера... Гэта глупства...

(Безнадзейна махае рукою. Усе сядзяць моўчкі, разгубленыя і здзіўленыя словамі Тараса. Раптам у дзвярах з'яўляецца Хама і шэпча Костамараву—яго шопат голасна гучыць у напружанай цішыні).

Хомка *(шэпча)*

Не паспеў...
Я, пане, выбег, ды яна была ўжо
вось тут зусім... на ганку!

Костамараў *(нібы ўспамінаючы)*

Ты пра што?

Хомка

Ды Ольга-ж... там...

Костамараў *(злосна)*

Нашто мяне турбуеш?!

Тацяна Пятроўна *(з'яўляючыся з другога пакою)*

Мікола, што там?.. Хомка, ты чаго?

Хомка

Тут, пані, Ольга... Пан мяне паслалі...

Тацяна Пятроўна *(каля дзвярэй, да Костамарава)*

Мікола... Ты чаму яго... паслаў?!
Нашто яна была табе патрэбна?!

Костамараў *(аглядаючыся, каб не пачулі)*

Бог з вамі! Я й не знаю, хто яна!

Тацяна Пятроўна *(сурова)*

Хама!

Хомка *(умаляючы, глядзіць на Костамарава)*

Дык вы-ж паслалі...

Костамараў *(хістае галавою)*

Ай, нягоднік!
Дык ты брахаць у вочы?

Хомка *(просіцца)*

Дык...

Костамараў

Маўчы!!

Тацяна Пятроўна *(адразу ўсё зразумеўшы)*

Сароміўся-б!.. «прафесар»...

(З пагардаю адходзіць да дзвярэй і знарок голасна кліча)

Оля!.. Оля!..
Заходзь сюды, красуня!..

(Ольга ўваходзіць, але, пабачыўшы прысутных, ад неспадзяванасці ўскрыквае і спыняецца.)

Ольга

Ой!.. Даруйце...
Вы пасылалі...

Тацяна Пятроўна

Так, я пасылала,
у мяне ёсць справы... Я табе скажу...
*(Да ўсіх)*.
Панове, пазнаёмцеся, прашу вас—
то прыяцелька наша... Я прашу
яе любіць так, як маю родную.
Аліна, сябрамі будзьце.

Аліна *(падыходзіць, працягвае Ользе руку)*

Вельмі
прыемна пазнаёміцца...

Тарас *(глядзіць у вочы Тацяне Пятроўне)*

Матуля,
і ты, выходзіць, Брут?

Тацяна Пятроўна *(разгублена)*

Знаёмся й ты.
Ці вы знаёмы?
*(Да ўсіх)*.
Ну, будзьце ласкавы,
прашу за стол сядайце! *(Аліне)* Праўдзі.

(Госці, што ўвесь час стрымана маўчалі на працягу ўсёй гэтай сцэны, выходзяць у другі пакой у напружанай і няёмкай цішыні. Тацяна Пятроўна на хвіліну затрымліваецца на сцэне, глядзіць на Тараса, што як толькі ўсе вышлі, падышоў да Ольгі, і выходзіць таксама.)

Ольга

Хто зваў мяне?.. Нашто я тут?

Тарас

Чаго-ж ты,
дзяўчынка, разгубілася?!

Ольга

А вы
хіба не разгубіліся?—Мне страшна
неяк сядзець сярод гэтых паноў...
Аб чым, пра што я буду гаварыць ім?
Яны зусім чужыя для мяне!

А толькі гляну сярод іх на вас я—
балюча мне і страшна...

Тарас *(трохі ўсхвалёвана набліжаецца)*

Што табе?
Што, Олечка?

Ольга *(уздыхаючы)*

Мы не раўня ніяк, Тарас...

Тарас

Мы не раўня. Адкуль ты узяла?!
Хіба не дзеці аднае мы долі
з табою?—Не прыгонныя хіба
з прапрадзедаў абое мы?!—Ці можа
браты мае ды сёстры, як твае
бацькі, браты і сёстры—не ў няволі?
Ой, Олечка,—адна у нас душа,
адна нам сушыць мозг чорная дума,
адзіны смутак нам мучыць сэрцы—
сіроты мы аднолькавыя з табой...
А сябры... Э!

Ольга *(слёзы ў яе на вачах)*

Прабачце... Ваша праўда...
Даруйце мне...

Тарас *(усміхаючыся)*

Дарую, як табе!..

(З суседняга пакою ўваходзіць Куліш.)

Куліш

Тарас... Ах, выбачайце...

Тарас

Не, не магу!..
ўсіх—не магу адразу!..—Ну, сядай.

Куліш *(дакарае)*

А праз цябе усе чакаюць з чаем!

Тарас

Хіба вам чай не смачны без мяне?

Куліш

Нязручна проста!

Тарас

Ну, калі нязручна...

Куліш

Прасі ў... панны... выбачыць... А там
чакаюць усе.

Тарас

*(Да Ольгі)* Будзь ласкава, прабач—
хадзем хутчэй, а то застыне чай.

Ольга

Ды што вы!.. Я павінна...

Тарас

Там чакаюць.
Нязручна, кажа пан Куліш... Хадзем.

Куліш

Тарасік, ты ці не забыўся часам—
у нас зусім таемны сход братоў.
Прысутнасці пабочнае асобы
ён не чакаў!

Тарас

Выходзіць, што і ты
удзельнік тайных сходаў?

Куліш

Што ты! Што ты!

Тарас

Панько, калі на сходзе будзеш ты,
дык я, здаецца ж, магу быць спакойным!
Я панну правяду... Ну, а пасля
з'яўлюся, можа.
*(Хутка выходзіць услед за Ольгаю).*

Куліш *(кліча)*

Colá!

Костамараў *(уваходзячы)*

Дзе-ж гэта Тарас?

Куліш *(вельмі ўсхвалёвана)*

Мікола... Колькі будзе сіл
ў мяне, Мікола... Я зраблю, Мікола,
ўсё для таго!

Костамараў

Што здарылася?

Куліш

Тарас...
Калі не ты,—я сам яго ратую...
А ты... Вы ўсе... Якія вы сляпцы!

*ЗАСЛОНА.*

## ДРУГІ АКТ

Невялікі пакой у панскім доме Белазерскіх. Праз расчыненыя дзверы відаць вялікі доўгі стол, нрыбраны і застаўлены ўсялякімі стравамі. Відаць як увесь час да яго падходзіць цікавы абжора з ліку гасцей, што паступова збіраюцца і групамі ходзяць па пакоях, і пасля заміланага погляду на закускі і налійкі адходзіць у бок, тужэй падцягваючы паясок.

На сцэне Васіль Белазерскі. З другіх дзвярэй убягае слуга. Знадворку чуваць—брэшуць сабакі.

Белазерскі *(да слугі)*

Ну?

Слуга

Пан Твардоўскі ізволілі прыбыць.

Белазерскі

Самі, ці з кім?

Слуга

Псоў зграя пры іх
яшчэ прыбыць ізволіла...

Белазерскі

Здурнеў ты?!
З сям'і, пытаю, ці хто з ім прыбыў?

Слуга

Дзве панны.

Белазерскі

Ну, бяжы. Ды хутчэй там ўсе!
Праз поўгадзіны будзе пан Куліш
і жонка—каб усё было гатова!

(Знадворку уваходзіць пан Твардоўскі з дзвюма маладзенькімі паннамі. За ім некалькі хартоў. Слуга выходзіць).

А! Пан Твардоўскі! Міласці прашу.
Вітаю вас, вітаю ў нашым доме!

Твардоўскі *(да сабакі)*

Ацю, Палкан!—Палкан!.. Ацю, Палкан!
Вітай мяне, гаспадара!

(Сабака становіцца на заднія лапы).

Белазерскі

Як добра...

Твардоўскі *(здаволены)*

Ну, што—харош?—Палкан! Ей-бо, харош!
А сукін кот!.. Ну, што ўжо і розум мае:
Міністр, міністр—дый годзе!

Белазерскі

Прыгажун.

(З суседняга пакою выходзіць трухлявенькі генеральчык).

Твардоўскі *(ціснучы генералу руку)*

Не танна, як прызнацца,
і абышоўся-ж ён мне... Мары!
Матыльда!

Мары, Матыльда *(абедзве)*

*Што* рара̀

Твардоўскі

Закрыйце вушы.
*(Дзяўчаты затуляюць вушы).*
Было дзяўча ў мяне... малое...
як агурочак... Маладое... хі-хі!..
як агурочак... Я яго аддаў,
і тысячу кругленькімі... Ну, розум—
міністр!

Белазерскі *(трохі незадаволены)*

Прашу садзіцца... Пан Куліш
і маладая яго жонка—будуць
праз поўгадзіны...

Генеральчык *(падцягваючы паясок)*

Вось як!

Белазерскі

Не пазней!

Матыльда

Рара́, ужо?

Твардоўскі

Ўжо, ўжо, мой агурочак!

(Дзяўчаты адкрываюць вушы).

Белазерскі

Яшчэ магу апавясціць гасцей,
што сёння я парадую прысутных
шаноўным госцем:—хутка будзе тут
у нас Тарас Ґрыгоравіч Шэўчэнка.

Мары *(ускрыквае)*

Ах, граф!

Твардоўскі *(з нотаю дакору)*

Ды не, душа мая,
пііт, пііт, душа мая!

Матыльда

Дык значыць
пііт нас будзе пацяшаць?—Мары!
пііт нас будзе пацяшаць!

Беларэрскі

Ды што вы!
Шэўчэнка-ж... вялікі наш паэт,
ён Пушкіну раўня.

Генеральчык (*зацікаўлена*)

Дык, значыць, Пушкін...
Ї ён піїт. Ай-ай-ай, сукін кот!
А я гадаў—чаму ён стаў няспраўным?!
То мой палкоўнік.

Дама з гасцей (*жвава*)

Значыць, ён ваш друг!

Генеральчык

А як-жа Пушкін...

Беларэрскі

Прымушан, генерал,
расчараваць я трошкі вас... паэт
памёр таму гадоў ўжо больш за дзесяць.

Генеральчык

Падумайце, як хутка час бяжыць.
А, бедны Косця!

Беларэрскі

Ї паэта звалі
не Косця... Александр.

Генеральчык

Ах, я згадаў,
Палкоўнікава прозвішча не Пушкін,
а Чушкін!

Беларэрскі (*стрымліваючы смех*)

Магчыма...

Генеральчык (*сам здзіўлячыся*)

Я-ж дзіўлюся:
няўжо мой Косця стаць-бы мог піїтам!

Беларэрскі

Што-ж, хочаце, панове, я вам дам
Шэўчэнкаў томік... вы тут пачытайце
ўсе разам...

Матыльда

Ах, цікава!

Другая дама

Дык піїт,
наш мае нават кнігі?

Генеральчык *(толькі цяпер зразумеўшы)*

Вы прабачце—
піітыка чужы свет для мяне...
Мне падыходзіць больш апокаліпсіс...
Цікава пачытаць!

Твардоўскі

Сорам які!
Ай, генерал, вам сорам!—каб не чытаць
Тараса! Кабзара!

Генеральчык *(апраўдуючыся)*

Ды знаеце—
клапоты, мітусня...

Твардоўскі

Ай, сорам, сорам!
*(На пса).* Ацю, Палкан! *(Да гаспадара).* А нутка
дайце мне, пан паважаны, кніжку.

Белазерскі *(дастае кнігу, падае)*

Калі ласка,
забаўцеся, а я вось зараз...
*(Выходзіць).*

Твардоўскі

Ну,
паслухаем, панове...
*(Перагортвае кнігу).*
«Перабендзя»...
«Пасланіе»...
*(Змаўкае, уважліва чытаючы).*

Госці

— Будзьце ласкавы, мацней!
— Масье Твардоўскі, просім вас!
— Чытайце!

Твардоўскі *(разгублена)*

Мары!.. Матыльда! Нутка, пачытай...
Адсюль вось...

Мары *(чытае паказанае)*

Вярніцеся! Во, пшаніцы
Колас пахілілі,
Дзе пасліся вашы коні,
Дзе трава шумела,
Дзе кроў ляхаў і татараў
Морам чырванела.
Вярніцеся!»

Твардоўскі (*нецярпліва*)

Ну, далей, далей!

Матыльда (*разгублена*)

Далей ужо кропкі...

Твардоўскі

Шкада, гэта ўжо цэнзара работа...
Найцікавейшае ён выкрэсліў!

Генеральчык

Я чалавек вайсковы... Я не знаю,
як пахне тут паэзіею... Усё-ж,
што порахам тут пахне—гэта сведчу!
Да кропак паўтарыце, панна...

Мары (*бяручы кнігу*)

Вярніцеся! Во, пшаніцы
Колас пахілілі,
Дзе пасліся вашы коні,
Дзе трава шумела,
Дзе кроў ляхаў і татараў
Морам чырванела,
Вярніцеся!

(У гэты час Тарас, які непрыкметна ўвайшоў у пакой і стаў каля дзвярэй знадворку, прыслухоўваючыся да чытання, працягвае).

Тарас

... «Не вярнуцца!»—
Зайгралі, сказалі
Хвалі мора: «Не вярнуцца
Навекі прапалі!»
Праўда, праўда, сіне мора:
Такая іх доля!
Не вярнуцца чаканыя.
Не вернецца воля!

(Пауза, усе разгублена глядзяць на Тараса.)

А далей... там няма ўжо кропак,
крамолы больш няма...

Госці

— Ах, як цікава!..
— Што гэта, хірамант?

Матыльда

Мары! Рара̀
Гэта не пан пііт?!

Твардоўскі (*падымаючыся*)

Мосье Шэўчэнка?

Тарас

Як бог святы.

Твардоўскі

Але-ж не можа быць...

Тарас

Не можа?.. Гм... Цікава... Мы неадкладна
спытаемся Пятрова...—Гэй, Пятроў!

(Уваходзіць Пятроў).

Вы сведчыце, што я—ёсць я?

Пятроў

Клянуся!
Ды вы праверце—у кнізе ёсць партрэт...

(Усе прыпадаюць да партрэта ў кнізе).

Генеральчык

А дык папросім, панове, прачытаць
новых паэзій уласнага пяра...

Тарас

Ды што вы, генерал!

Дама

Ах, пачытайце...

Твардоўскі

Мосье Шэўчэнка,—вельмі вас прашу...
Дазвольце пазнаёміцца... Твардоўскі...

Тарас *(зацікаўлена)*

Гм... пан Твардоўскі... Што-ж бы адпаліць?
Паверыце, на памяць я не знаю
сваіх паэзій...

Твардоўскі

Вельмі вас прашу!

Тарас

Ну, як для вас—што-небудзь прачытаю!

(Пауза).

Во глубине сибирских руд
Храните гордое терпенье,
Не пропадет ваш скорбный труд
И дум высокое стремленье.

Несчастью верная сестра,
Надежда в мрачном подземелье,
Разбудит бодрость и веселье,
Придет желанная пора:

Любовь и дружество до вас
Дойдут сквозь мрачные затворы,
Как в ваши каторжные норы
Доходит мой свободный глас.

Оковы тяжкие падут,
Темницы рухнут—и свобода
Вас примет радостно у входа,
И братья меч вам отдадут.

(Пауза).

(У час чытання госці трывожна паглядаюць адзін на аднаго, а некаторыя проста пакідаюць пакой. Тарас канчае чытаць, і ўсе маўчаць, нібы ў рот набралі вады, Тарас ледзь прыкметна ўсміхаецца, але Пятроў нібы прабуе выручыць яго.)

Пятроў

Ай, ай, ай, Тарас... Ды няўжо, панове,
Ніхто з вас не заўважыў?! Я тады
раскрыю вам паэтаву нячэснасць!
Чытаў Тарас Грыгоравіч гэта
для паноў тут творы музы не свае,
а Пушкіна.

Генеральчык *(Твардоўскаму, шматзначна)*

Бачу, пан праўду гаварыў:
верш напісаў не мой палкоўнік Плюшкін!

Тарас

Ага! Зусім, зусім магчыма!

Генеральчык *(так сама)*

Ён
хоць і неўпраўны, але чэсны воін:
Мой Чушкін гэтага-б не напісаў.

Тарас

Згаджаюся!..

Генеральчык

Трэба спадзявацца
усё-ж, што вершы вашага пяра
прыстойней!

Пятроў

Калі паны дазволяць мне,
уважу скромнасць аўтараву я
і прачытаю яго вершы...

Госці

Калі ласка!

Твардоўскі *(з палёгкаю)*

Гэта найлепей...

Госці

— Просім вас...
— Цішэй!

Пятроў *(чытае)*

За гарамі горы, хмараю спавіты,
Засеяны горам, крывёю паліты;
Спаконвеку Прометэя
Там гром карае,
Што дзень божы яму робры
И сэрца разбівае;
Разбівае ды не вып'е
Крыві жывой з сэрца,—
Ізноў яно ажывае,
Ды ізноў смяецца.

(Госці настарожана слухаюць. Тарас стаіць збоку.)

Па закону апостала
Вы любіце брата?
Суесловы, ліцамеры,
Госпадам пракляты!
Вы бо любіце на браце
Не душу, а скуру,
Дый лупіце па закону:
Дочцы на мундурык,
На пасаг байстручаняці...

(Сярод гасцей нарастае абурэнне, шмат хто дэманстратыўна выходзіць з пакою. Выходзіць генеральчык. Нарэшце, няёмка аглядаючыся то на гасцей, то на чытаючага, то на Тараса, на сцэне застаецца адзін Твардоўскі з дочкамі. Але і яны перад сканчэннем чытання, адчуваючы сябе няёмка, выходзяць.)

Абніміце-ж, браты мае,
Найменшага брата,—
Няхай маці слёзы вытра,
Бо ліла багата.
Хай сыноў благаслаўляе
Цвёрдымі рукамі,
Ї дзетачак пацалуе,
Вольнымі губамі...

(Чытае Пятроў ужо амаль наўздагон разгубленаму Твардоўскаму ды яго паннам).

Тарас *(рагоча, ён падыходзіць да краю стала ў другім пакоі і, наліваючы сабе чарку, выпівае яе і закусвае бутэрбродам).*

Вось дзейнічае муза на француза!
Разбегліся, як мышы!!!

Дама *(індэферэнтна ўваходзячы)*

Пан пііт,
чым этыкет так нагла парушаць, мог

падумаць-бы аб тым, каб не пісаць
падобных непрыстойнасцей!

Т а р а с *(ад душы смяючыся)*

Падзяка
за камплімент, мадам.

Д р у г а я д а м а *(высакамерна адварочваючыся)*

Пусці на стол,
А ён—пад стол!..

Г е н е р а л ь ч ы к *(падцягваючы паясок, абурана)*

Скажыце, калі ласка,
якая розніца, даруйце мне,
паміж сапраўдным чалавекам і свіннёй?

Т а р а с

Між чалавекам розніца...

Г е н е р а л ь ч ы к *(пераможна пагдядаючы на гасцей)*

Так, так і—
выбачце—свіннёю!

Т а р а с

Вялікая...

Г е н е р а л ь ч ы к *(ззяючы)*

Якая-ж, паважаны мой?

Т а р а с

Свіння—
дык есць, калі дадуць ёй, а чалавек—
дык есць, калі захоча ён.

Г е н е р а л ь ч ы к *(разгублена)*

Кхі-кхі...

**(Госці на чале з ганеральчыкам скандалізаваныя выходзяць пад пераможны Тарасаў смех. Як толькі знікае апошні госць, Тарас раптам робіцца сур'ёзным, ён парывіста падыходзіць да Пятрова.)**

Т а р а с

Скажыце мне, Пятроў, адкуль вядомы вам
верш гэты?

П я т р о ў *(трошкі разгублена)*

Адкуль?.. Ды вы-ж яго мне
калісь чыталі... Зараз я успомню...

Т а р а с

Няпраўда, я яго вам не чытаў.

П я т р о ў

Тарас, ну, што вы?! Прыгадайце толькі...

Тарас

А прыгадайце вы—калі і дзе?

Пятроў

Калі і дзе... У Барыспалі чыталі
таму, выходзіць, год...

Тарас

Ды я не быў
ў Барыспалі ніколі з вамі.

Пятроў *(стараючыся выблытацца)*

Што ты,
Тарасік?! Ды прыгадай ты ўрэшце—
ды мы-ж кліко пілі удвух з табою
ў Барыспалі!.. кліко ў вялікіх пляшках
ты помніш з этыкеткамі рудымі!

Тарас

Кліко ў маленькіх пляшках прадаюць
і этыкеткі белыя.

Пятроў *(бездапаможна)*

Магчыма...
Так... сапраўды...

Тарас

Ї гэты верш
я ўчора напісаў... і не маглі вы
яго нідзе пачуць...

(Пятроў маўчыць.)

Я не цярплю
людзей, што мае думкі чытаюць,
як паліцэйскія!

(Пятроў хоча нешта сказаць.)

Няма пра што
мне з вамі гаварыць.

Пятроў *(услед Тарасу)*

Што вы сапраўды...
Ды я-ж... Ды мы-ж... Дазвольце я скажу...

(Тарас хутка ідзе ў напрамку да дзвярэй на вуліцу, але раптам адступае назад:—у накой уваходзяць Куліш з маладою жонкаю. Ён зачаравана глядзіць на красуню; яна падыходзіць да яго і нізка кланяецца.

Жонка Куліша

Паклон вам, бацька... Вы з'явіліся
і асвяцілі мой найлепшы дзень
прысутнасцю у нас.

Тарас

Ці ты царэўна,
ці каралеўна?

Куліш *(жартам)*

Ты не парывай
вачэй на каравай! Пра ўласны дбай!

Тарас

Натхнулі-б друзі,—дбаў-бы па заслузе,
не сніў-бы ў лузе...

Жонка Куліша

Уласну мае долю
ўсякі чалавек... Дасць і вам гасподзь,
зорку сваю вы знойдзеце!.. Хадзем-жа,
бацька, да стала...

Куліш *(цалуючы руку жонкі)*

Мілая, на міг
дазволь ты мне з Тарасам тут застацца...
Прабач мяне.

Жонка Куліша

Застанься... Ды—на міг!
Вы-ж не прымусьце, бацька, чакаць мяне...

(Тарас цалуе яе ў лоб, яна выходзіць пад руку з Белазерскім. Госці выходзяць следам. Пауза).

Куліш

Тарас, мой дружа... Я адчуў цяпер,
што значыць поўнае людское шчасце!
Вось ўрэшце я жанаты... Ну, вітай!

Тарас

Што-ж ад душы дабра табе жадаю.
Заўсёды доля песціла цябе,—
няхай яна табе давеку шчасціць!

Куліш

Удзячны, дружа. Дзякую табе.

(Пауза).

Ты знаеш, ўчора думаў пра сябе я—
што не хапае яшчэ мне ў жыцці?
Я маю дом свой—богу шчыра дзякуй,
маёмасць маю, здольнасці свае,
і мары благародныя у мяне
і думы, і жаданні... А цяпер
я зблізіўся з высокаю душою,
з найлепшаю з усіх, каго я знаў,

на свеце без каго не мог-бы жыць я
ані адной хвіліны.—Я сядзеў
увечары у Ганны і удвух мы
аб уласным шчасці думалі...—«Чаго-ж
гэта яшчэ душы маёй бракуе?»
і сам сабе тады я адказаў:
«Яму, Тарасу, не хапае шчасця!»

Т а р а с *(узрушаны)*

Удзячны, браце... дзякую табе...

К у л і ш

І потым зноў думаў пра цябе я:
я ажаніўся—дзякаваць богу—
цяпер удвух мы з жонкаю сваею
пабачыць свет паедзем за мяжу;
у Пецербург паедзе Костамараў;
паехаў Савіч, Пільчыкаў, Гулак...
Адзін-адным ты ў Кіеве застаўся!
Ці-ж будзеш ты цвісці, як з намі цвіў?
Ці-ж дух твой разаўецца ў адзіноце?
Ці не завянуць здольнасці твае,
як кветка паміж густым пустазеллем?
Адзін ты будзеш у Кіеве, адзін!

Т а р а с

Ды й не пачым-жа б'еш, брат, як па лобе...

К у л і ш

Табе-ж, мой дружа, рушыць-бы ў Парыж,
ці да Неапалітанскае затокі,
агню й натхнення ў Луўры набіраць,
ці маляваць-бы ў Рыме з Рафаэля!
Бо што табе наш цёмны, чорны свет,
якому ты павінен даць асвету,
але які табе не ў сіле даць
таго, чаго душы тваёй бракуе.
А ты-ж Тарасе сілы маеш шмат,
аб ёй і сам ты знаеш вельмі добра!
Вялікі, дужы маеш ты талант,
але няма гармоніі ў таланце.
Песняў тваіх не толькі што душа
шляхетная не ў сілах перанесці,—
а, нават, чорнага раба спіна,
што ўжо прывыкла да цяжкіх удараў!..
*(Схамянуўшыся, змаўкае).*
Тарас, а ёсць магчымасць... за мяжу
табе на некалькі гадоў паехаць.

Т а р а с

Эх, курцы-б проса!

Куліш

Ёсць у цябе сябры.

Тарас

Ды ты, сапраўды?!

Куліш

Толькі не пытай,
хто—гэтыя сябры. Такая ўмова.
Атрымліваць ты будзеш там усё,
што на жыццё табе патрэбна будзе.
Дык згода?

Тарас

Пытаць не буду. Табе
я веру, што не крадзенае.

Куліш

Значыць,
Тарас, згаджаешся ты ехаць?

Тарас

Хто-б
свой намер ажыццявіць адмовіўся?
Ой, колькі марыў я пра то начэй,
салодкіх сноў калісьці колькі бачыў!..
Вялікі Карл Брулоў прадстаўляў
мяне у Акадэміі... Дырэктар
адмовіўся прыгоннага паслаць.

Куліш

Ну, а цяпер, Тарасік, ты ўжо вольны!

Тарас

Я думаю цяпер усё аб адным:
ці маю права я сваю краіну,
няшчасную такую сірату,
што стогне ў рабства запраданая,
пакінуць на волю лёсу?—Панько,
народ ў ярме як вол!

Куліш

Ты маеш права!
Ты маеш, ты павінен!—Поўны сіл
ты звернешся адтуль на Украіну.
Тады ты зробіш тое, што цяпер
зрабіць яшчэ не можаш для народу!
Дык што-ж, Тарас, ты згодзен?

Тарас

Так, Панько.
Я згодзен.—Ой, пачуў-бы Карл Вялікі
словы мае—яго гэта завет.

Я згодзен. Толькі стаўлю я ўмову.
Тваю, Панько, умову, як умеў,
я выканаў.

Куліш

Якая-ж умова?

Тарас

Раней, чым адпраўляцца за мяжу,
павінен заручыцца я.

Куліш

А! Добра!
Напэўна, ты ўжо знаеш, нават, з кім?

Тарас

А як-жа, знаю!

Куліш

Што-ж, благаслаўляю.
Абы дзяўчына добрае сям'і
і добрага дастатку!

Тарас

Маладая
мая прыгонная так, як і я.

Куліш *(нібы ўпяршыню пачуў)*

Ды бойся бога. Што то ты гаворыш!
Тарасік, ды ці-ж табе да твару
простая, невыхаваная жонка?!
Што-ж параіць табе зможа яна?—
Што гэта сапраўды ты! Шляхетная
табе душа патрэбна.

Тарас

Ой, Панько...
мне простая душа... і друг патрэбен!

(Доўгая пауза. Уваходзіць Пятроў).

Пятроў

Прашу прабачыць... Пані просіць вас,
Панцелеймоне Аляксандравіч...

Куліш бярэ Тараса за локаць, але ён застаецца нерухомым і працягвае моўчкі глядзець у акно).

Куліш

Тарас...

(Ён не адклікаецца, Куліш паволі выходзіць).

Пятроў

Я вам сказаць вельмі хацеў...
Мне гэты верш вы... праўда... не чыталі...
Раніцай сёння я знайшоў лісток,
а вам... не смеў сказаць... Вы выбачайце,
адразу неяк я забыўся, што...

Тарас

Ды мне, мой мілы, зараз... не да тога...
Пакіньце мяне аднаго...

Пятроў *(амаль шэптам)*

Даруйце...

(Пятроў выходзіць. Яшчэ нейкі час Тарас на сцэне адзін стаіць паглыблены ў сваю думу. З суседняга пакою чуваць вясёлыя выкрыкі гасцей, якія, пэўна, даўно абедаюць. Ціха ўваходзіць Куліш, ён спыняецца ззаду Тараса, некаторы час маўчыць.)

Куліш

Тарас... Ды ты не злуйся... не сабе
ты аднаму належыш... і будучыня
твая належыць не табе толькі...
Я друг табе і турбавацца права
маю аб тваім будучым...

(Пауза).

Рабі сабе па свойму... Ды павінен
закрэсліць я, прынамсі, хоць сябе
з ліку сляпых рабоў сваёй музы.
О! Што ім да ўсяго твайго жыцця!
А я—я друг табе...

(Пауза).

Усё-ж,—як знаеш...
Твае клапоты,—я дапамагу...

Тарас *(узрушаны амаль не да слёз)*

Дзякую, дружа... Дружа мой адзіны...

(Шырока расчыняючы дзверы, уваходзіць пан Твардоўскі. Ён пэўна трошкі выпіўшы, гаворыць голасна і шмат смяецца.)

Твардоўскі *(у дзвярах)*

Сюды! Мары! Матыльда!.. Пан піїт
хаваецца ад нас... Але ад мяне...
нішто на свеце...

Тарас

Наадварот!
Куды-б мы хаваліся?

Куліш

Я толькі
хацеў ісці дзесьці адшукваць вас.
Да вас у мяне справа.

Твардоўскі

Ганаруся!
Рады услужыць!

(Уваходзяць Мары і Матыльда. Да Тараса).

А мая дочка

вось Тарасу Грыгоравічу хоча
зрабіць прапанову... А ну, Мары!
Кажы.

Мары *(сарамліва)*

Рара...

Тарас *(галантна)*

Чым магу вам услужыць?
Слуга ваш...

Мары

О, я мару пра партрэт!

(Куліш адводзіць у бок Твардоўскага. Яны ціха размаўляюць удваіх).

Тарас

Ды вас пісаў-бы нават Карл Вялікі.
А Карл Вялікі мае добры густ...

Мары

Ах, Карл! кароль Нарвежскі...

Матыльда

Што ты, Шведскі!
Пан з Карлам друг?

Тарас

Мы на назе на дружнай:
бо часта цар на ногу наступаў
мне, а я, бывала, часта на мазоль
ступаў таму цару.

Матыльда *(чмыхаючы)*

Ах, ах, Мары,
ці чула ты, што пан пііт гаворыць:
яго вялікасць мае мазалі!

(Абедзве пырскаюць са смеху: Тарас толькі цяпер заўважае, што перашкаджае гутарцы Куліша з Твардоўскім).

Тарас

Ну, дык хадзем у залу... і пра партрэт
умовімся сягоння-ж.

Мары

Ах, рара,
нас пан пііт да залы запрашае!..

(Твардоўскі махае ім рукою, яны выходзяць).

Твардоўскі *(іржэ)*

Ар-р-рыгінал!

Куліш

Вы самі бачыце,
што ўсё ад вас залежыць... Пан Шэўчэнка—
вы знаеце—не просты чалавек.

Не для яго партыя—прыгонніца.
Свет іншага чакаў.

Твардоўскі *(не супакойваючыся)*

Ар-р-рыгінал!

Куліш

Апроч таго вы, як сапраўдны гаспадар
і пан адзіны дзяўчыны... на шлюб
вы можаце яшчэ і не даць згоды...

Твардоўскі

Ды што вы! Я буду мець за гонар!
Ар-р-рыгінал!

Куліш *(працягвае напамінаць)*

Так... так... Аднак, я пэўны
што нават маладая, можа-быць,
на шлюб яшчэ не згодзіцца...

Твардоўскі *(змяніўшыся ў твары)*

Як гэта?
Ды я яе, як сучку адлуплю!!
ды я...

Куліш *(абражана)*

Ну, што вы... Пан Шэўчэнка друг мой...

(Выходзіць).

Твардоўскі

Панцелеймон... Каб цябе чорт! *(Кліча)*. Мары!
Матыльда!

Мары, Матыльда *(убягаючы з Тарасам)*

Што, рара?

Твардоўскі

Тарас! Мой дружа!
Мары, Матыльда,—вушы.

(Дзяўчаты закрываюць вушы).

Выбар ваш
вітаю і ўхваляю!.. Дзяўчынка!
Дзяўчынка, я сказаў-бы... хі-хі-хі...
Як агурочак... Ну, не абражайцеся!
Я-ж разумею, што вас прывяло
да выбару такога... Бедны Дэмас!
Паверце, я таксама дэмакрат.
Мае халопы знаюць пра навуку
і пра мастацтва, нават.

Тарас

Ну, дык вы
выходзіць, філантроп!

Твардоўскі

Ї нават болей.
Як хочаце, я зараз пакажу
свайго вам прыгоннага музыканта?

Тарас

Цікава, вельмі...

Твардоўскі

Зараз-жа... Мары,
пакліч сюды прыказчыка!

(Дзяўчаты выходзяць).

Тарас

На скрыпцы
ён грае, ці на чым?

Твардоўскі

Вось пакажу.
Самі пачуеце!—Талант!—На свеце
бываюць розныя памешчыкі!
Я разумею вашы ідэалы—
Я дэмакрат; я людзям не тыран,
а бацька родны.

(Уваходзіць прыказчык).

Прыказчык *(абыякава, з бізуном)*

Вы, пане, клікалі?

Твардоўскі

Прышлі мне Кучарэнку... Хай нясе
сюды бандуру... Будзе граць.

Прыказчык

Казаў-жа
я вам... што Кучарэнка... не таго...

Твардоўскі

Чуў, чуў, давай...

Прыказчык *(ляскаючы бізуном)*

Як хочаце...

(Выходзіць).

Твардоўскі

Матыльда,
пакліч гасцей... Ї пана Куліша...
Ї ўсіх, паслухаць хоча хто...

(Дзяўчаты выходзяць).

У нас мала
такіх, як я памешчыкаў!.. Шкада...
Я разумею вас, я з вамі згодзен:

тыран-памешчык—да чорта. Бацька-ж—
памешчык, брат—

Тарас *(смеючыся)*

Ĭ дух святы...

Твардоўскі *(з запалам)*

Вось добра!
Як сказана прыгожа!—Дух святы,
натхніцель для людзей сваіх—такі нам
патрэбен пан.

(Уваходзіць прыгонны Кучарэнка з бандураю. Ззаду яго прыказчык; Кучарэнка бледны, ён ідзе, ледзь перасоўваючы ногі).

Ага, заходзь, заходзь!
*(Кладзе руку на плячо Кучарэнкі).*
Ну, Кучарэнка, як жывеш?

(Кучарэнка падае на зямлю перад панам, але Твардоўскі велікадушна крычыць).

Не трэба.
Не трэба, Кучарэнка! Уставай!

Тарас *(прыкладае руку да Кучарэнкавага ілба)*

Эге!.. Ды вы шаноўны бандурыст
здаецца хворы?

Прыказчык *(засланяючы Кучарэнку)*

Ён ганяў валоў
на луг і застудзіўся...

Кучарэнка *(у бок прыказчыка)*

Воля ваша...

(Уваходзіць Куліш і госці).

Куліш

Частуе пан Твардоўскі?—Я не знаў,
што вы любіцель муз!
О, як-жа, як-жа!
Ну, Кучарэнка, пачастуй гасцей,
найлепшаю!

Тарас

У яго жар... Адкласці-б
найлепш гэту музыку...

Твардоўскі *(стараючыся быць дабрадушным)*

Ты што...
Ты здужаеш?

Прыказчык

Ды здужае... Паграе...
Чаго там...

Кучарэнка

Воля ваша...

Куліш

Бандурыст
свае здароўе сведчыць сам, выходзіць,
ён хоча граць!

Твардоўскі *(да Кучарэнкі)*

Ну, дык спакайней-жа,
не бойся...
*(Ціха прыказчыку).*
Грышка! А ну, схавай бізун!
*(Голасна да ўсіх).*
Прашу цішэй, панове...
*(Кучарэнку.)*
Пачакай.

(Кучарэнка грае музычны уступ. Ён стаіць, абапёр бандуру аб крэсла. Госці благадушна слухаюць музыку, потым ён пачынае ціха спяваць).

Кучарэнка

Б'юць парогі; ўсходзіць месяц,
Як і перш усходзіў...
Няма Сечы, прапаў і той,
Хто ўсім верхаводзіў.
Няма Сечы! Ачароты
У Дняпра пытаюць:
«Дзе нашы дзеліся дзеці?
Дзе яны гуляюць?»
Лятаючы скігліць чайка,
Бы па дзецях плача;
Верніцеся! Во, пшаніцы
Колас пахілілі,
Дзе пасліся вашы коні,
Дзе трава шумела,
Дзе кроў ляхаў і татараў
Морам чырванела.
Вярніцеся!»

Генеральчык *(ціха Тарасу, зларадна)*

Выходзіць між халопаў вашы творы
вялікі поспех маюць!

Тарас

Нібы так...

(Генеральчык бярэ разгорнуты „Кабзар“, што ляжыць на стале і сочыць за песняю).

Кучарэнка *(працягвае спяваць)*

Генеральчык *(да Тараса, амаль перапалохана, тыкае ў кнігу.)*

Дазвольце!.. Гэта-ж выкрэслена ў кнізе!!

(Тарас многазначна ўсміхаецца.)

Кучарэнка *(працягвае)*

... «Не вернуцца,
Навекі прапалі!»
Праўда, праўда, сіне мора:
Такая іх доля!
Не вернуцца чаканыя,
Не вернецца воля!..

(Кучарэнка змаўкае. Пахіснуўшыся, ён падае непрытомны. Госці ўскакваюць з месц, з агідаю адварочваюцца і выбягаюць з пакою. „Фі!"— „Скандал!"—Ах, які пасаж!"—выкрыкваюць некаторыя, бягучы).

Тарас

Вады! Вады!

(Тарас глядзіць услед збеглым гасцям. Лакеі замест таго, каб пачуць яго крык, вядуць пад рукі сваіх паненак. Ён выбягае на вуліцу. Твардоўскі, які ўвесь час стаяў ашаломлены нечаканым скандалам, амаль шэпча).

Твардоўскі

Гры... Грышка... Біў?

Прыказчык

Ну, біў...

Твардоўскі *(у гневе не валодае сабою).*

Закатую...
Ды ты што-ж гэта—біць, біць не ўмееш?..
Скандал!

Прыказчык

Ды што вы, пане... аджыве...

Твардоўскі

Дык гэты-ж... Гэты-ж бачыў... Той, Шэўчэнка!
На ўвесь-жа свет будзе крычаць!
*(На прыказчыка).*
Заб'ю...
Закатую...
*(Выбягае.)*

Прыказчык *(на двор)*

Іван!

(Уваходзіць кучар Іван. Прыказчык з разгону б'е Кучарэнку ботам.)

На стайню яго!

Перасяку напалам!

(Іван паднімае Кучарэнку. Прыказчык замахваецца кулакамі на яго, але ззаду хапае яго за руку Тарас, які толькі што ўбег з конаўкай. Ад неспадзяванасці прыказчык паволі аглядваецца на Тараса, у гэты час Іван з разгону збівае прыказчыка з ног страшным ударам. Прыказчык адлятае ўбок).

Прыказчык *(сіпіць, не падымаючыся)*

Хто... Хто...
Ударыў?..

Тарас

Я.

Кучарэнка *(рыдае, ледзь чутна)*

Дзякую, пане...
*(Тарас хутка выходзіць.)*

*ЗАСЛОНА*

## ТРЭЦІ АКТ

Хата бандурыста Кучарэнкі. Відаць, што звычайная для гэтай святлічкі беднасць прыкрыта старанна. Каля акна Кучэрэнка маўклівы нібы адзінокі. На ляжанцы старая яго жонка. Сярод хаты Ольга, якая з'яўляецца дачкою Кучарэнкі.

Старая

Нядобрае штось мне вяшчуе сэрца...
Чакаеш, нібы, й радасці—яно-ж
дрыжыць так моцна, як напярэдадні
бяды якой... Хай гасподзь даруе
нашы цяжкія і горкія грахі...
Ой, дочка, дочка... страшна нешта мне!

Ольга

Чаго, матулька? Вось калі-б вы зналі,
які святы і добры мой Тарас,
як любіць ён мяне!.. тады-б магчыма
вас не праймаў-бы гэты страх... Ой калі-б,
калі-б вы зналі, што гэта за сэрца,
якая чыстая, высокая душа!

(Паўза).

Старая

Калі-б вось так, як між людзей вядзецца—
каб хоць пабачыць ў вочы жаніха!
А то не ведай, хто тваю дзяціну
насватаць прыдзе, забярэ кудысь
прадасць мо дзе, ці закуе ў няволю!
Ой, гора, гора, страх мяне бярэ!

Ольга

Дык ён мяне спачатку выкупляе!

Кучарэнка

Вызваліць на дзень, навек запрыгоніць...
Эх, дочка, дочка!..

Ольга *(збянтэжана)*

Татачка! Матуля!
Ды вы хоць не сумуйце! У хаце ўсё
пахмура так і нудна, нібы не замуж

мяне выдаеце вы, а ў труну
на той свет выпраўляеце... Чакайце,
хай толькі ўвойдзе мой сюды Тарас—
пабачыце, якім святлом святочным
запаліць сэрцы ён; як за міг
сагрэе ўсіх навокал; як натхне ён
ўсіх нас, мама, татачка!—Чакайце
прыдзе ён, пабачыце...

Старая *(цяжка ўздыхаючы)*

О, божа,
благаславі, памілуй нас!

Кучарэнка *(прыпаўшы да акна)*

А нешта бы
пад'ехала...

Старая *(хутка злазіць з ляжанкі)*

Напэўна
сваты ўжо! *(Да Ольгі)* Хавайся, ты хутчэй!

Ольга

Ой, божа... рушнікі мае-ж у скрыні!

Старая

Ідзі, дачушка—я пазаву!

(Ольга выходзіць).

А ты чаго стаіш, стары маўчун?
Бяжы ты мне хутчэй, ды пакланіся,
сустрэнь сватоў з паклонам! Не халопы,
сваты-ж твае... Ды што-ж ты анямеў?

Кучарэнка *(неахвотна)*

Іду-ж, іду... Ты-ж бачыш...

(Уваходзіць Куліш).

Куліш *(трохі нарачыта весела)*

А... Вітаю!..
Вітаю вас... Ну... як вы жывеце?

Старая

Па троху з богам!..

Куліш

Ну, хвала святому.
А я як бачыце спяшаў за жаніхом,
аж супраць вас і паламала брычку...
там кола, а там спіца... Ну, кажу—
Праведаю—заскочу... бо сватамі
прызначаны выходзіць нездарма!

Старая

Дзякуй вам пане!

Кулiш *(па панiбрацку)*

Ды прасеце-ж сесцi!

Старая *(спяшаючыся)*

Ай, госпадзi... Сядайце-ж вы...
*(Змахвае фартухом лаву)*

Кулiш

Яно
хоць-бы й не брычка—часу нам хапае!
Пара не ранняя, ды жанiх цяпер
напэўне спiць i сны салодкiя ў яго.
*(Таямнiча).*
Ён, бачце, досыць часта п'е...
А ўжо калi мужчына выпiць любiць,—
Дык лепей, калi цiха спiць,
чым шыбы б'е, цi косы у жонкi
будзе вырываць.
*(Садзiцца).*
Ды яно
i ў гэтым праўда—жонкi ён не мае...
а жэнiцца... Ну, там ужо! Яно
напэўне праўду свату i не варта
выказываць у вочы... Ну, ды што-ж
не добра i прамоўчыць!.. Праўда-ж?

Кучарэнка

Ды праўда!.. Воля ваша!..

Кулiш

Ну, ды вы-ж
за ангела напэўна й не думалi
дачкi сваёй аддаць... Мы ўсе
пад небам грэшныя! Кожны ўласны шлях
ад бога мае... Вось хоць-бы i Тарас...
што п'е, дык нам вядома... Ну паб'е, там
абразiць можа... А жонка ўсё знясе!..
I жонка змоўчыць... А калi народзiць
яна яму маленькiх, а яго
глядзi ў салдаты, ды й пагналi!..

Кучарэнка *(ускрыквае)*

Завошта так?

Кулiш *(нiбы не чуўшы)*

Я як-жа маладая?..
Жыва, здарова?

Старая *(напалохана)*

Госпадзі, ратуй!..
Ды як-жа так?..

Куліш

Пытаю, маладая
Здарова, жыва? Ну, дык я й паеду...

Кучарэнка

Дык брычка-ж...

Куліш

Брычка... Ах, яна даўно
наладжана напэўне...

Кучарэнка

Я спытаю...

Куліш *(злякана)*

Не, не! Не йдзі.—Вы мяне даруйце,
што я адкрыў вам праўду... Ну, ды што там—
за мною доўг нідзе не прападзе...
Здагадліваму чалавеку я аддзякую
заўсёды добра за паслугу... Дык вось...
бывайце!

(Куліш выходзіць. Старыя глядзяць яму ў след зусім ашаломленыя).

Кучарэнка

З богам...

(Пауза).

Старая *(хрысціцца)*

Госпадзі памілуй!
Завошта ты караеш нас?!

(Бездапаможна стаяць сярод хаты. Уваходзіць Ольга, яна разгублена паглядае, то на бацьку, то на маці).

(Пауза).

Ольга

Пайшоў?
Куды-ж так ён... так хутка?.. ды чаго-ж
вы плачаце, матуля?..

(Пауза).

Скажыце!
Што ён сказаў?.. Ці, можа, ад Тараса
якая вестка?.. Што-ж вы маўчыце?
Матуля! Тата!

Старая *(заліваючыся слязамі)*

Што-ж табе сказаць?!
Дзіцятка роднае...

Кучарэнка

Не судзіў гасподзь
выходзіць...

Ольга

Ну, ды што ён вам сказаў?

Кучарэнка

Не добра пра Тараса ён казаў,
не добра, ой, не добра!..

Ольга

Ды ад каго-ж
чакаеце вы праўды? Пан Куліш
яе вам скажа? Чаму-б ён раптам
такім вам другам стаў?—А вы яму,
выходзіць і паверылі!
*(Намагаецца ўсміхнуцца).*
Ды годзе,
даволі—не сумуйце!

Старая

Не дарма-ж
ён заязджаў...

Ольга *(намагаючыся суцешыць)*

Паны пра сябе дбаюць,
А вашы слёзы—што ім. Прыязджаў,
бо ён дабра Тарасу і не хоча
са мною. Вось што—хоча, каб Тарас
паненку узяў, каб ніяк прыгоннай
ніколі ён не ўзяў.
Вось што яму патрэбна.

Кучарэнка

Як патрэбна.
Дык будзе так.

Ольга *(рашуча)*

Не будзе.

Старая

Маладая
дачушка і гарачая... Што-ж ты зробіш?
Мы ўсе пад панам ходзім!.. Усе
ў яго руках нячыстых... Як ён захоча,
так дачушка будзе...

Ольга *(збянтэжана, рашуча)*

Не, не будзе!.. Я
Тарасу раскажу пра гэта...
*(Хутка завязаўшы хустку).*
Чакайце,

я зараз...
*(Выбягае).*

Старая

Ды пачакай!.. Куды-ж яна?!
Ой, будзе гора, будзе...

(Раптам варочаецца Ольга. Толькі ўвайшоўшы, яна прысланяецца да дзвярэй, бледнай, бездапаможнай. Ледзь чутна вымаўляе яна словы).

Ольга

Не паспела...
Сваты ў двары... Прыехалі...

Старая *(раптам замітусіўшыся)*

Бяжы-ж
туды у камору!..

Ольга *(нібы не чуўшы)*

Ну, ды перадам я...
Тарасіку... пра ўсё...
*(Хістаючыся выходзіць).*

Старая *(пасля паўзы)*

Даруй, гасподзь,
твая над намі воля...

(Шырока раскрыўшы дзверы, уваходзіць Куліш. Ён трымае ў руцэ вялізны кій і выглядае сапраўдным вясельным старастам. Праз міг уваходзіць пан Твардоўскі).

Куліш

А гэта тут
музыка мілагучны пражывае?

Старая

Заходзьце, пан ласкавы...

(У дзвярах з'яўляецца пан Твардоўскі. Кучарэнка і старая падаюць перад ім на каленкі).

Куліш *(нездаволена)*

Што вы!
Устаньце-ж!.. Мы вам зараз не паны...
вы не халопы...
*(Разгублена).*
Ну, ды падвярнецца-ж!
Ды што вы сапраўды...
*(Твардоўскаму).*
Ды хоць скажыце вы!

Твардоўскі

Так, так, ўставай, частуй, брат...

Куліш *(нібы працягвае, намагаючыся заспакоіцца)*

Дык вось як, удвох мы з панам лесам едзем... Памерзлі, заблудзіліся... Аж з лесу зязюля выляцела к нам... «Каго ў бару шукаеце вы?—пытае.
«— А свісту салаўінага...» «Ага!
вы свісту салаўінага шукалі!..»

Твардоўскі *(рагоча)*

«Той свіст зязюля нам адпавядае у Кучарэнкі
ёсць!.. Чаго такога, а свісту хопіць!»
*(Кулішу)*.
Ну, ужо-ж вы і мастак,
Панцелеймоне Александравічу,
на ўсякую брахню!

Куліш

«Сюды ідзеце
вы шляхам з правага боку... А да раздарожжа як
дойдзеце,—на левы бок вярнеце...
а да магілы дойдзеце, на правы зноў
ідзеце, і просценька ідзеце
дванаццаць дзён і дваццаць восем ночак,
аж покуль шлях паверне вас на ўсход
да палацу цара Цімур—Нагая...
Аж там—зязюля кажа—на ражку
жыве раб божы Сідар Кучарэнка,
дык вы са шляху да яго зайдзеце,
у яго—кажа—ёсць дачка-красуня,
дык тая свісне—быццам салавей!»

Твардоўскі *(што ўвесь час зачаравана глядзеў на Куліша, нястрымна рагоча)*.

Ор-р-рыгінал! Ці вы ўсе пііты
так ладна брэшаце?

Куліш *(працягвае)*

Отож
дванаццаць дзён і дваццаць восем ночак
ішлі й не спачывалі мы... Ды так
мы змучыліся ў дарозе, што ні ногі
ўжо нам не пакараліся ніяк,
ні рукі нас не слухалі... А смага
і голад нас замучылі... Аж вось
Цімур-Нагаяў палац паказаўся,
а побач, як і след было чакаць,
хаціна Кучарэнкава...—Пусцеце
ў свой дом, хрышчоныя... Ды сагрэйце
чым бог паслаў, калі ласка, не адмоўце...

Старая

Сядайце, калі ласка.

Твардоўскі *(здзіўлена)*

Ну-ну!
Орыгінал вы, усё-ж такі!
*(Кучарэнку).*
Давай-жа
па чарцы, Кучарэнка! Бачыш, пан
Да цябе ў хату вырашыў прыбыць!
Частуй, ды не скупіся...
*(Набліжаецца да стала)*
О, ды тут
простая мужыцкая!.. Ну я пастаўлю
англійскае... каб Кучарэнка знаў,
які ў яго пан...

(Ставіць некалькі пляшак вынятых з кішэні. Яны сядаюць за стол. Куліш налівае вялікую чарку Твардоўскаму).

Кучарэнка

Ратуй вас, божа...

Куліш

Ну, будзем, людзі добрыя!

Твардоўскі *(выпіваючы залпам)*

Пі, стары,
пі, пі, не бойся!
*(Кучарэнка вагаецца).*
Што-ж ты?..

Кучарэнка

Ваша воля.
Хай вас гасподзь бароніць...
*(П'е. Куліш налівае па другой).*

Куліш

Дык ці ёсць,
як нам зязюля ў лесе кукавала,
у вас краса-дзяўчына, што свісціць,
як салавей?
*(Твардоўскі выпівае).*

Твардоўскі *(патроху хмялеючы)*

Ды што там!—Ёсць!
краса-дзяўчына. *(Кучарэнку).*
Лій панам, халоп! Ї не шкадуй!

Старая *(паслужліва налівае)*

Ды што вы, пане літасцівы!
Піце, благаславі вас божа...

Куліш *(п'е са старой і Твардоўскім)*

Дык відаць
зязюля нам у лесе накувала

святую, праўду чыстую... Дык п'ём-жа
за слова праўды птушкі лесавой!
*(Налівае).*

Твардоўскі *(п'е)*

О, паэтычны тост!

Куліш

Дык, значыць, вы
парадаваць тут можаце дарожных?
Дык вып'ем-жа за ваш вялікі скарб,
які мы паглядзець прышлі!

Твардоўскі *(раптам)*

А дзе-ж дачка?—схаваў?

Кучарэнка *(трывожна глянуўшы на старую)*

Ды што вы...

Твардоўскі *(п'яны)*

Дзе? Схаваў?

Куліш *(сурова Твардоўскаму)*

Чакайце!.. Прыдзе час...
*(Да ўсіх).*
Дык п'ем-жа
за яе!

Твардоўскі *(з чаркай да Кучарэнкі)*

Дык пі-ж.

Кучарэнка *(нерашуча)*

Пане... я...

Твардоўскі

Ага...
Ты, значыць, з панам і выпіць не хочаш!

Куліш

Ці вы забыліся дзе вы? Вы не пан,
яны вам не халопы!

Твардоўскі

Што гэта значыць—
я не пан?—Як так?

Куліш *(Кучарэнку)*

Выпіце...

Старая

Ды ён
ледзь на нагах трымаецца... Ён хворы...

Твардоўскі

Як гэта так, што я табе не пан?

Кучарэнка

Ды што вы... пан вы... Божа...

Твардоўскі

Не круціся!
Апавядай: чаму так я табе
ўжо не пан?

Кучарэнка *(просячы глядзіць на Куліша)*

Дык гэта-ж не я...

Куліш *(абураны адходзіць ад стала)*

Ды што за свінства
сапраўды? Бо ёсць-жа нейкі звычай,
сумленне хрысціяніна?

Твардоўскі *(упарта)*

А чаму так
скажы мне... да мяне маладая
чалом сягоння біці не з'явілася?
Га?—Я цябе пытаю... Га? Чаму?
— Чаму, пытаю!

Куліш

Свінства...

Твардоўскі.

Вы, піце,
брахню сваю скончылі... Я тут пан;
Я тут валадар.—Так ці не?—Не я тут
ваш цар і бог?—Кажыце—я?—Не я?

Старая *(упрашаючы).*

Даруйце нас, пане... Вы наш пан...

Твардоўскі

Чаму-ж ён
не хоча піць тут з панам?!—Га?—Чаму?
Чаму не хоча?

Старая *(падае на калені)*

Хворы ён... Пабіў учора пан прыказчык...
На нагах стаіць ён ледзьве...

Твардоўскі *(раптам ласкава)*

Ай-ай-ай... пабілі...
лазінкаю цюк-цюк, вось так цюк-цюк,
сто дваццаць па мякушках...

Куліш *(каля акна не вытрымаўшы)*

Ды канчайце-ж
нарэшце гэты здзек!—Ці для вас

і сапраўды няма нічога
святога на зямлі?!

Твардоўскі *(раззлавана б'е кулаком па сталу)*

Я тут пан!
Прыказчык—то рука мая!—Як захачу,
перапару!

(Уваходзіць Тарас. Твардоўскі на момант нібы цверазее. Паўза).

Тарасіку... Заходзь...
Ідзі, каштуй англійскую...

(Хутка налівае дзве чаркі, адну выпівае, а другую падносіць Тарасу. Тарас паволі адводзіць працягнутую руку. гарэлка выліваецца на зямлю. Ён падыходзіць да Кучарэнкі, моўчкі ўзнімае яго з кален. Кучарэнка глядзіць на яго і нібы спазнаўшы, разгублена шэпча).

Кучарэнка

Мой сын...
Збавіцель мой... *(Гукае)*. Оля! *(Старой)*.
А гукні, хай рушнікі нясе... я зараз, сыне...

(Выходзіць, за ім—старая).

Куліш *(разгублена)*

Тарасіку, на покуце сядай...
Ці ты забыў на звычай? Малады
на покуце павінен...

(Пад пільным Тарасавым поглядам змаўкае).

Тарас *(пасля паўзы)*

Не забыў...
Ах, памяць, памяць! Зараз аджывае
яна ў мяне... Ды як я толькі мог
перад яе праўдзівым словам
і перад усім, што мне нясе яна
ў душы... ў вачах... як мог я сваё сэрца,
сабе самому здрадзіць?!—Нідзе
з сумленнем я не крывіў. Я ніколі
з сабою не падпісваў умоў.
У жыцці ніколі я не супыняўся
Перад нікчэмным поглядам таго,
чыя душа—я знаў—са мною жыць
не можа ў згодзе; чый няпэўна розум
не толькі што са мною ворагам,
бо, нават, проста шчыра не ідзе
са мной, з маёй пакутай поруч!
Няпраўды зерня зроду не было
У мяне за плячамі... Ды, напэўне,
душа людзей зладована не так,
каб шчырай быць і вернай быць
з сабою нават!—Толькі раз ў жыцці
я скрывіў, мушу прызнаць... Сягоння
Так сталася...—Казаў я:—ён-жа друг,

я знаў, што слова чыста вызначае
не тое, што нам здавалася-б... Слова!
Як мала іх! Як здрадлівы яны!
Мяне заўжды сляпіла слова «друг»,
я знаў, што прорва чорная між намі,
Ой, як-жа знаў я!.. Але слова тое
Яно і мне на міг забіла памяць
сваім здрадлівым бляскам. Раз ў жыцці
я спрабаваў забыць усё, што меў-бы
здавалася, памятаць назаўжды...
І вось...
*(разводзіць рукамі)*
Навука! Покуль ты навучыш
людзей, як жыць,—пэўне ўжо й жыцця
не хопіць!

(Пауза).

Куліш *(асцярожна)*

Пра што ты гэтак мудра?
Пра тое, што я не жаніхом,—
мядзведзем я хацеў-бы зараз быць!

Твардоўскі

Ор-р-рыгінал!..

Куліш

Тады ў мяне было-б
і сіл, і апраўдання дастаткова.
каб пану Твардоўскаму... і ўсім...
*(Сціснуўшы кулакі, змаўкае).*

Твардоўскі

Што... пану Твардоўскаму? Канчай-жа!
Га? Што?

(Уваходзяць Кучарэнка, старая і Ольга. У яе спакойны твар чалавека, які цвёрда прыняў рашэнне. Убачыўшы яе, Куліш радасна ўскрыквае, жадаючы разрадзіць напружанне).

Куліш

Цудоўна! Значыць вы такі...
*(Пільна ўглядаецца на Кучарэнку).*
Вы значыць, згодны? Згодны вы?

Твардоўскі

Не згодзен!
Што пану Твардоўскаму?

Куліш *(садзіць Твардоўскага на лаву)*

Чакайце,
пажартаваў Тарас. Ну, што вы сапраўды...
Звычай-жа... *(Твардоўскі дрэмле).*

Кучарэнка і старая *(падаюць на калені перад панам Твардоўскім)*

Воля ваша...

Ольга

Не прасіце,
не трэба... мама, тата... Адступіся,
Тарасік, ад мяне... Не хочуць
Табе са мною шчасця... На дарозе
сцяною сталі супроць... Падумай,
і змілуйся... Як-жа я прасіла,
маліла як я, божа мой!.. Даруй,
Тарасіку, бо госпадзі святы
малітвы ён маёй і не пачуў.
Няхай табе пашчасціць... я сіл не маю
супроць сцяны... мой любы...
*(Рыдае).*

Куліш *(абражана ўстае з-за стала)*

Дык чаму-ж
раней вы не сказалі? Частавалі
гарэлкаю... Самі-ж... Ну, што-ж, раз так,
прабачце... Паважлівыя людзі
не робяць так...

Тарас *(дужа ціха, не пачуўшы Кулішовых слоў)*

Не плач.
Я-ж бачу сам.
Я разумею, Оля не з табою—
Мяне з народам хочуць разлучыць!
Што-ж, пажывуць—дазнаюцца, што доля
Мая з народам сплецена была
у дужы-дужы вузел...
*(Пауза. Ён надзявае капялюш).*
— Ну... *(да Ольгі пяшчотна)*—з гарою
гора нідзе не сходзіцца... Душа-ж
з душою—ім не будзе забароны.
Вер, Оля, і так, як шчыра веру я,
Так, можа, лепей жыць...

(Пауза).

Бывайце...
Не памінайце ліха...

(Дужа ўсхвалёваны выходзіць).

Куліш *(наўздагон яму)*

Ды пачакай-жа...
Пагаварылі-б мо' яшчэ...

Твардоўскі *(прачнуўшыся)*

Тарасе...
Стой, стой, кажу... Куды ён?

*(Расчыняе дзверы).*
Стой кажу!!
Вярніся, чуеш?

К у л і ш

Ну, ды гэта сапраўды
не сватанне, а свінства...
*(на двары)*
Пачакай
І я іду!

(Хутка выходзіць).

Т в а р д о ў с к і *(хістаючыся ў дзвярах)*

Не хочаш?.. Ну, трымайся...
Я, пан Твардоўскі, ажаню цябе!
Хам! Раб! Мужык. Ты йшчэ ў мяне паплачаш.
*(Голасна гукае).*
Іване!

І в а н *(з'яўляючыся)*

Што?

Т в а р д о ў с к і

На воз нявесту.

І в а н

Што гэта вы, пан... здумалі?

Т в а р д о ў с к і

Ён прыдзе...
хай просіць на каленях!

С т а р а я *(на каленях)*

Не губі,
злітуйся... Святы гасподзь...

Т в а р д о ў с к і

Іване...
На воз. Ці чуў?
*(Хістаючыся выходзіць).*

К у ч а р э н к а

Іване... Заступіся...
Не дай нешчаснай згінуць...

С т а р а я *(рыдае)*

Дзяцінка,
дачка мая, о гора!..

(П а у з а).

І в а н

Дзе-ж ты ёсць
на небе, божа правы?.. Ці аглух ты,
ці анямеў ты?.. Ці цябе няма
зусім на небе?..

Т в а р д о ў с к і *(са двара)*

Гэй! Хутчэй! На воз!

*З А С Л О Н А.*

## ЧАЦВЕРТЫ АКТ

Ноч у карчме пры паштовай станцыі. Калі заслона ўзнімаецца чуцен ціхі хор чумакоў, якія сядзяць за сталамі ў глыбіні. Рухава ходзіць каля іх рыжатварая шынкарка, наразаючы скібы і падстаўляючы пляшкі.

Хор чумакоў

Ды няма ў свеце горш нікому
як бурлаку маладому,
гэй, гэй, як бурлаку маладому!
Што бурлак робіць, зарабляе,
аж пот вочы залівае,
гэй, гэй, аж пот вочы залівае.

(Уваходзяць чумакі. На адзін міг песня нібы змаўкае).

Першы чумак

Здарова будзь, шынкарачка!

Шынкарка

Здароў
і ты будзь, чумачэнька!

Першы чумак

А ці можна
нам лысых напаіці?

Шынкарка

Мо' валоў,
ды трэба й чумакоў...

Першы чумак *(цярэбіць патыліцу)*

Калі-ж, шынкарка,
грошыкаў няма...

Шынкарка *(пагардна адварочваецца)*

Пхі! А грошыкаў
няма, не пашкадуй ярма.

Другі чумак

Яно й не шкада-б
гэтай дзеравяшкі, дык сябе-ж,
шынкарачка, калі прызнацца, шкода!
Каб толькі дарма грэх мяне мінуў!

Шынкарка *(злосна)*

Іш, «дарма».—А як па твойму гарэлку,
ці там, скажам, ваду бог дае задарма?
Пхі!

Чумакі *(вымушана)*

Ды ўжо-ж...
Ты-ж май здагадку,
валоў хоць напаі спачатку.

Шынкарка *(выходзіць, грукнуўшы дзвярамі)*
Напаю...

(Пауза).

Трэці чумак

Сядайце разам. Чарка ды цыбуля—
вось наша радасць. А ў сваё сяло
як прыйдзеш, дык чаго табе няхопіць
дасыпяць бізунамі—не сумуй...

Першы чумак.

Ды што! У словах лепей не раскажаш,
як у песні нашай складзена...
*(сядае за стол)*
Цягні!
*(Пачынаюць спяваць).*
А гаспадар яго лае,
Гаспадыня дапякае,
Гэй, гэй, гаспадыня дапякае...
Дзе ты, бурлак, валачыўся,
Заблудзіўся, зарасіўся,
Гэй, гэй, заблудзіўся, зарасіўся?

Уваходзіць Тарас. Відаць, што ён вельмі стомлены. Яго панская вопратка, у якую ён быў апрануты ў папярэднім акце, прымушае чумакоў быць асцярожнымі. Тарас сядае ў кутку, здымае з плеч дарожны мяшок. Стомлена прыслухоўваецца ён да песні. Уваходзіць і набліжаецца да яго шынкарка.

Тарас

Ты-б чарачку паставіла... Ды есці
дала-б чаго... Стаміўся я... ішоў
я цэлы дзень пяхотай... Не спыняўся,
ішоў...

Шынкарка *(мітуслівая)*

Стаміліся... я зараз...

Тарас

Яшчэ
спытай, ці ёсць там коні... бо сіл няма
пяшком ужо цягнуцца...

Шынкарка

Зараз!

Тарас

Хоць паганы конь, а давязе як-небудзь
бурлацкі скарб мой.
*(Наўздагон шынкарцы)*
Чаркі не забудзься!

Пауза. Тарас стомлена слухае чумацкую песню. Яна ледзьве чутна і Тарас сядзіць нібы трохі напружаны.

Ярам, ярам за таварам,

а лугамі за валамі,
гэй, гэй, за лугамі, за валамі.
Прыйшоў бурлак ды да хаты,
гаспадыня, дай вячэраць,
гэй, гэй, гаспадыня, дай вячэраць!

Раптам у песню ўступае Тарас. Высока звініць яго мяккі грудны голас. Чумакі з неспадзяванкі амаль зусім змаўкаюць. Адну хвіліну Тарас спявае сам.

Я сягоння не паліла,
не паліла, не варыла,
гэй, гэй, не паліла, не варыла.
Ідзі, бурлак, і так спаць,
Няма чаго есці даць,
гэй, гэй, няма чаго есці даць!

(Потым,—спачатку нерашуча, а потым усё смялей,—пачынаюць падхопліваць песню чумакі).

Ой, яшчэ бурлак не паслаўся,
гаспадар даўно праспаўся,
гэй, гэй, гаспадар даўно праспаўся.
Ты ўставай, бурлак, годзе спаць,
Пара валоў пасціць гнаць,
гэй, гэй, пара валоў пасціць гнаць!..
Ды ўстаў бурлак захістаўся,
Бот ніяк не абуваўся,
Гэй, гэй, бот ніяк не абуваўся.

Усё дружней гучыць песня і смялей ідуць за Тарасам чумакі).

А сурдут—не апранаўся,
За таварам паспяшаўся,
Гэй, гэй, за таварам паспяшаўся,
Ды лугамі за валамі,—
Гора жыці з ворагамі,
гэй, гэй, гора жыці з ворагамі!

Песня змаўкае. Доўгая пауза. Тарас падыходзіць да стала, каля якога сядзяць чумакі.

Тарас

А вы далёкія?

Першы чумак

Ды ёсць
Між нас усякіх... каторы ёсць з-пад бога,
а болей што з-пад пана.—Ды, бяда,
калі сказаць, аднолькавая.

Тарас

Дык, значыць,
вы гора прапіваеце, ці што?

Другі чумак

Яго прап'еш?

Трэці чумак

Ой, добры чалавеча,—
Не мы яго—яно нас усіх прап'е!
У нас-жа так:—валоў каб напаіць,
дык трэба кварту браць. А за тое
ярмо аддай шынкарачцы, ці солі
ёй адсып за гэта.—А адсып,—
то як у сяло павернешся да пана,
дык ён табе дасыпле бізуноў,
ды так, што месяц чухайся!

Чацверты чумак

Ды хлеба
Зусім не дасць...

Першы чумак

Яно выходзіць так,
што смерць адна, зямля-ж—яна вяліка:
што пад карчмою з голаду, а што
пад бізунамі змоладу!—Дык лепей
хай ужо валы, напіўшыся, стаяць.

Трэці чумак *(п'е)*

Ну, пі, чумача, загінуць неіначай!

Тарас

Выходзіць, людзі добрыя, што пан
у вас не дужа літасцівы!

Першы чумак

Божа,
і Каін-жа!

Тарас

А каб вам узяць яго
кручочкам падчапіць пад раберца,
ды пацягнуць у вір.

Чацверты чумак

Там падчэпіш...

(*Уваходзіць шынкарка. Яна прыносіць чарку і закуску і ставіць перад Тарасам на чумацкім стале*).

Шынкарка

Дык вось паеш, ды выпі... А коніка
няма, як кажуць... Чакае пан
больш важны за цябе:—за граніцу
ён з жонкаю сваёю ад'язджае,
дык, нават, ён чакае.

Тарас *(на хвіліну задумаўшыся)*

За граніцу?

Ну, лiха з iм...
*(Да чумакоў, жадаючы забыцца пра «важнага пана»).*
Дык я-ж вам i кажу.
Кручочкам пад раберца як вядзерца
i квiт ўжо каiну! Нас болей, чымся iх.

Чацверты чумак

Што больш, дык так...

Тарас

А болей нас,—пад кiм-жа
нам гнуцца ў свеце больш?—I каго
тады мы з вамi мусiм так баяцца?!
Нас мора, чумачэнькi! I няма
На свеце сiлы, каб магла падужыць
нас—мора... Вось я зараз пакажу...
Вы гляньце толькi...

(Выймае з кiшэнi пшанiцу, адно пшанiчнае зерне кладзе перад чумакамi).

Вось адно зернятка
Ну, гэта цар... А гэты вось... вось тут,
што блiзка трону—будуць генералы...

(Пауза. Ён старанна раскладае „генералаў". Чумакi ўважна слухаюць).

А гэта скажам... хай памешчыкi,
паны i шляхта ўся... Тут памiж iмi
I ваш пан ёсць... А гэта—мы, народ!

(Цэлыя прыгаршнi сыпле ён на стол).

Ну, адшукайце iх цяпер—цара з панамi!
Патоплi, быццам тыя пацукi
У добрую паводку. Бо няма тут
Нi меры, нi лiку нам!.. А яны—
Ну, колькi iх жывым i мёртвым правiць
Дзесятак? Сотня? Тысяча?! А нас—
Нас мора, чумачэнькi i няма тут
мяжы нам, што ў моры берагоў!

Першы чумак

То праўда.

Другi чумак

Праўда, добры чалавеча!
Як бог святы—праўда!

Тарас

А як так,—чаму-ж
i дасюль яшчэ вы пеўня не пусцiлi
на панскi двор?.. Чаму
ўночы вы сцежак яму не падсмалiлi,

ды так, каб вочы вылезлі з вачэй,
на вашае святло дзівіўшыся?!

(Ззаду Тараса, хутка раскрыўшы дзверы, у карчму ўрываецца Іван. Ён супыняецца ў дзвярах бледны і нерашучы, ледзьве мог вы-ціснуць з сябе слова).

Іван

Тарасе...

Тарас *(падходзіць)*

Іване... што з табою?..

(Пауза).

Не маўчы...
Збляднеў ты...

(Пауза).

Ты пра Ольгу?

Іван *(адважыўшыся)*

Так... пра Ольгу!
Знячэсціў пан... Няма яе ў жывых,
павесілася...

(Пауза. Тарас стаіць нібы аслупянелы і потым паволі схіляецца да дзвярэй).

Вы цяпер на свеце
самі... нібы быліна... ні душы
у вас цяпер няма...
*(Раптам, нібы ажыўшы)*
Не сумуйце!
Я за яе адпомшчу і за вас...
ды й за сябе ўжо разам... Дайце толькі
вы мне, Тарасе, вогніва...

(Бярэ з Тарасавых рук крэсала, якое той трымаў).

Пра вас
Твардоўскі будзе памятаць давеку...
Давеку будзе помніць вас...

(Выбягае. Доўгая пауза. Стаіць Тарас, прысланіўшыся да сцяны).

Першы чумак

Што здарылася, добры чалавеча...
Бяда з табою... сталася...

Тарас *(ледзве чутна, але ад таго яшчэ мацней)*

Бяда,
Нешчасце людзі.

Першы чумак

Што такое?

Тарас

Знячэсціў,
Забіў жанчыну пан.

Чацверты чумак *(у цішыні)*

Даруй ты, бог,
грахі людскія!..

Тарас *(ціха)*

У звон званіце, людзі,
Біце ў званы. Каб глухі гасподзь
пачуў... Каб скалануўся ён... Каб мёртвая
душа яго задрыжэла...
*(Не можа ўладаць сваім голасам).*
Крычыце,
Крычыце на ўвесь свет, хрышчоныя!
Каб мёртвы бог ваш праўды крык пачуў...
Крычыце, хрышчоныя...

(Пауза. З-за сцэны чуваць голас Куліша. Ён гучыць неспадзявана і невымушана).

Дзе-ж, нарэшце,
Тут коні вашы? Ці думаеце вы,
што я тут іх чакаць буду да ранку?
*(З'яўляецца ў дзвярах).*
Тарасіку?!
*(Падбягае).*
А я-ж цябе шукаў
учора цэлы дзень!.. Пабег к табе,
а ты ўжо й знік.
*(Гукае ў дзверы).*
Ганнуся! Вось ён ёсць
зблукаўшы наш... Ты глянь!..

(Уваходзіць жонка Куліша).

Жонка Куліша *(уважліва глядзіць на Тараса)*

Ці гэта вы
тут, бацька?.. Ой-ой! як вы збляднелі!

Куліш

Эге!
А я й не бачу!—Хто там, гэй!

(Убягае шынкарка).

Ці можна
людзей, каб папрасіць адсюль.
*(Да чумакоў).*
Ці самі
не бачыце, што пан Шэўчэнка хворы!

Чумакі *(здзіўленыя, шэптам)*

Тарас!
Ану мужчыначкі, пайшлі
туды... Ды там і сядзеце... Бо тут
вы-ж бачыце... хварэюць...

(Чумакі неахвотна ідуць у суседні пакой. Тарас усё яшчэ стаіць каля сцяны).

Куліш *(шынкарцы)*

Ї вы
пакіньце нас, прашу я... Толькі чаю
падайце нам—ды й можаце ісці.

Шынкарка

Я мігам, пане, мігам...

(Шынкарка выбягае. Жонка Куліша сядае з краю стала. Доўгая пауза).

Жонка Куліша *(усведамляючы дарэмнасць сваіх слоў)*

Не
гаруйце, не мучайцеся, бацька... У свеце ёсць
не мала іншых... лепшых і пяшчотных
стварэнняў болей вартых вас...
Яна-ж вас, бацька, пэўне, што не варта.
Калі сама адмовіць вам магла
і шчырую павагу адштурхнула!
Паверце, не варта вашых мук
яе пагарда.

Куліш *(скоса глянуўшы на Тараса)*

Ну, ды годзе
Пра гэта, дружа мой! Быў я правы,
казаў-жа—не ацэніць, не здолее
па праву ацаніць... Ну, дык усё!

Тарас *(сціснуўшы кулакі)*

Не смей!

Жонка Куліша *(уздрыгнуўшы)*

Ды што вы... Бедны... Супакойцеся...
О, божа мой!..

(Пауза. Тарас без сіл сядае на лаву).

Куліш *(абражана адходзіць)*

Не ведаю за што
ты на мяне злуешся... Не знаю
чым вінен я так у шчырасці сваёй?..

(Уваходзіць шынкарка з чаем).

Жонка Куліша

Дазвольце вам наліць... Чай на нервы
ўплывае дужа добра...

Куліш

Я хацеў
параіцца з табою... развітацца...

Бо я ў свой шлях далёкі ад'язджаю...
разлучымся надоўга... А справа
агульная з табою ў нас... Не адзін
мы дзень з табою марылі калісьці
пра лепшы час славяншчыны; пра дні,
калі ў адну, з'язджаюцца славяне,
радзіму дружную...

Жонка Куліша *(падсоўвае шклянку да Тараса)*
Піце, бацька,
чай... Астыне ён...

Куліш *(выймае сшытак)*

Я думаю, што зараз
Той час настаў, калі з тваіх паэм
я мог-бы выдаць што... Звычайна,
ты выправіць згадзіўся-б месцы,
і хоць бы дзе закрэсліла цэнзура...
Ну, рэзкасці ўсякія...
*(перагортвае сшытак)*
Мы-б знайшлі
такое месца... Ну, за вершы,
Звычайна, ты атрымаў-бы сваё...
Багата заплаціць табе не мог-бы,
чацвяртака за слова-б заплаціў.

Тарас *(бярэ сшытак з кулішовых рук, моўчкі перагортвае)*

За слова... Ды калі-б я напісаў
адно хоць... вось такое слова «праўда»,
дык я-б дастаў за ўсё чацвяртака...
Так... так...

Жонка Куліша *(жаласліва паглядае на Куліша)*

Дарма вы злуецеся,
бацька.
Ён шчыра вам гаворыць гэта... вы-ж
ўвесь час дарэмна... *(Змаўкае)*.

Куліш
Я думаю, агульна
ідэя наша будзе жыць у сэрцах
і звадка не будзе мець ніколі месца
між нас, Тарасе... місія славян—
ёсць родная абодвым місія!

(Пауза).

Тарас

Хадзіў я...
блукаў, дзівіўся...
Госпадзі святы,
Што людзі з свету белага зрабілі!

Калісь я сам пад панскім бізуном
пра рай часамі марыў... Быў я пэўны,
што ёсць такі куточак на зямлі,
дзе стогну, дзе плачу зусім не чутна...
дзе не свісцяць па спінах бізуны
і людзі дзе не корчацца ад болю...
Дарма... Няма... І зніклі з галавы
мае святыя мары... Украіна,
нібы пасля пажару, нежывой
стаіць у попеле сваім... А людзі!
Што толькі каты з імі не рабілі!
Не злічыш там ні ўдоў, ані сірот,
ні стогну, ні крыві... Паны-ж
Народ няшчасны лупяць бізунамі
дый ветла прымаўляюць:—«А як
народ прыемна стогне!»
*(Б'е кулаком па сталу)*
Не!.. Не магу!
У!.. Нехрысці...

Жонка Куліша *(скаланушыся)*

Ды што вы?..

Тарас

Няўжо
яны як след таго не зразумелі,
што людзям не патрэбен проста хлеб,
а іхні хлеб! Што людзям не патрэбна
звычайная кроў, а панская, іх кроў
патрэбна для народа!..

Куліш *(абураны)*

Што з табою...
якісьці ты разгневаны! Якісьці
проста хворы!

Жонка Куліша

Годзе! Годзе!
сядайце, супакойцеся...

Тарас *(не слухаючы)*

І што
мне той славянскі рай цяпер? Аб ім—
у ім-жа,
як ўжо даводзіў сам ты мне не раз,
да Пецербургу далей як да Вільні,
ці да Варшавы, нават! Не, Панько,
чужы, чужы той рай мне!
Пра яго спяваюць тыя, хто людзям хоча
забіць галовы пылам; і забіць
атрутаю душу народную!
Дрыжыце, час карае за няпраўду,

за словы крыўды і за радок,
які ідзе супроць шляхоў народных!
Час—вось суддзя вышэйшы.

(Пауза).

Я пайшоў,
бо мне пара.

Жонка Куліша *(мітуслівa)*

Ды што-ж вы? Чакайце,
мы на падводзе вас падвязём ужо...
Панько, пакліч!

Куліш *(гукае ў дзверы)*

А хто там, гэй!

Шынкарка *(з'яўляючыся)*

Падвода
стаіць даўно запрэжанай...

Куліш *(бярэ невялічкі чамадан)*

Хадзем!

Тарас

Не, не!.. Я з чумакамі. Па дарозе
якраз нам з імі. З імі я дайду.
Бывайце!

(Тарас выходзіць. Доўгая пауза).

Куліш

Ганна...

Жонка Куліша

Так, хадзем. *(Шынкарцы)*. Чамаданы
нясіце да карэты.

Шынкарка *(выбягаючы)*

Я нясу, нясу...

(Пауза).

Куліш

Ну, дык хадзем... хадзем, Ганусю!

(Выходзяць на вуліцу. Некаторы час на сцэне няма нікога. Потым з'яўляецца шынкарка з цяжкімі чамаданамі. Насустрач са двара ўбягае Пятроў).

Пятроў

Паслухай... З чумакамі ў карчме
павінен быць тут адзін... Шэўчэнкам
яго завуць...

Шынкарка

Шэўчэнкам? А які
з сябе ён?

П я т р о ў

Ды пэўне з чумакамі
ён размаўляў тут...

Ш ы н к а р к а *(ставіць чамаданы на дол)*

Ага, ну, пачакайце,
я зараз пазаву яго...

П я т р о ў *(наўздагон ёй)*

Хутчэй-жа!

(Пятроў на сцэне адзін. Ён хутка аглядае пакой, потым штосьці шукае ў кішэні. Уваходзіць Тарас).

Т а р а с

Хто зваў мяне... Пятроў!!

П я т р о ў *(хуценька)*

Хутчэй, Тарас
Грыгоравіч... Бо сёння непрыемнасць
для вас прыходзіць... Я прыбег, каб вас
як-небудзь папярэдзіць...

Т а р а с

Якая там
яшчэ са мною стрэслася бяда?

П я т р о ў

Калі што-небудзь маеце такога...
ці вершы нецэнзурныя... малюнкі...
давайце ўсё... я добра сам схаваю...

Т а р а с

У мяне вершы ў сшытку.

П я т р о ў

Хутчэй
давайце сшытак мне сюды!

Т а р а с *(выймае сшытак)*

Я знаю
на памяць вершы гэты... Не бяда,
як што, дык іх у печ...

П я т р о ў *(ускрыквае)*

Што вы!.. Дайце
хутчэй, бо кожны міг...

Т а р а с *(здзіўлены)*

Навошта-ж вам
бяду сабе дарэмна клікаць?!
Я іх на памяць знаю.

(Хоча ісці, але Пятроў амаль выхапляе сшытак з Тарасавых рук).

Пятроў

Не!.. Чакайце!
Я схаваю гэта ўсё... Бывайце...

(Выбягае, схаваўшы сшытак. Калі ён раскрывае дзверы, у карчму ўрываацца раптам святло недалёкага пажару. Следам за тым узнімаецца крык шынкаркі).

Шынкарка *(убягаючы са двара)*

Гарыць! Ратуйце!

Першы чумак *(убягаючы)*

Панове, гарыць!

(За ім з'яўляюцца чумакі).

Другі чумак

Ратуйце, чумачэнькі!

Тарас *(усе імкнуцца да адкрытых дзвярэй)*

Пачакайце!!

(Чумакі супыняюцца).

Куды-ж то вы? Ці панскае баліць
вам, людзі добрыя, ці што? Бо з роту
вырванае ў вас бярэ агнём!
Што ўкрадзена—гарыць!

Першы чумак

Ці-ж мы гасіць
збіраліся агонь той? Мы-ж яго
распаліваць ўсе хочам!

(Смех сярод чумакоў).

Чацверты чумак

Раздзьмухай,
бо крадзена!

Тарас

То, людзі, наша ім,
помста маленькая. Вы гляньце
як асвяціла нам палі агнём!
Як відна ўсё вакол!

Чумакі

Стагі леташнія!
Стагі гараць!

Тарас *(заглядзеўшыся на пажар)*

Вы гляньце як відно!
Нібы маланка неба асвяціла
адзіны шлях тым, хто не бачыць!
*(Паварочваецца да ўсіх)*
Усе

на той агонь дзівіцеся! Любіце
агонь, хрышчоныя! Спапяліць
агонь той троны, золата й кароны,
цара й царат развее па зямлі...
Скачы, бяда, вакол агню! Ды
душы халодныя сагрэйце!

(З дзвярэй на фоне пажару з'яўляюцца—прыстаў і паліцэйскія стражнікі. Чумакі з неспадзяванкі адыходвяць назад, прапускаючы іх у памяшканне. Пауза).

Прыстаў

Хто тут з вас
прыгонны Тарас Грыгоравіч Шэўчэнка?

(Тарас выходзіць наперад).

Імем яго вялікасці цара
і самаўладца усяе Расіі—

Тарас

Ну?

Прыстаў

Вы арыштаваны.

Тарас

Чаму?

Прыстаў

Вы сеялі крамолу.

Тарас *(дастаючы прыгоршчы пшаніцы)*

Не, пшаніцу...

Прыстаў

Вы мелі яшчэ што-небудзь пры сабе
апроч сшытка?

(Вымае Тарасаў сшытак).

Тарас *(міжволі ўскрыквае)*

Пятроў!!

Прыстаў *(у дзверы салдатам)*

За мною!
На караул!

(Уваходзіць колькі паліцэйскіх і становяцца побач Тараса. Чумакі стаяць разгубленыя. У той час у дзвярах з'яўляецца Іван. Адзін міг стаіць ён здзіўлены.)

Іван *(раптам, ледзь не істэрычна)*

Не дайце, чумакі!
Заб'юць яны яго!

Тарас *(усхвалёван)*

Іване!

Першы чумак

Людзі,
не дайце, заступіцеся!!

(Чумакі парываюцца ўперад, на іх кідаюцца стражнікі, ціснуць іх да сцяны прыкладамі).

Стражнікі

Назад!

Тарас *(працягнуў руку да Івана, што ўвесь час стаіць у дзвярах)*

Дзякуй, дружа...

(Іван хоча пацалаваць руку).

Што гэта, Іване!
Сабака руку ліжа... А табе-ж,
табе-ж, Іване, сорамна! Чалавек-жа,
чалавек-жа ты!

Іван *(слёзы ў яго на вачах)*

Дзякуй вам... Праз век я буду
помніць гэты дзень...

(Чумакі стаяць, бездапаможна прыхінуўшыся да сцяны. Вакол Тараса стаяць вартавыя).

Прыстаў *(спацеўшы, гукае ў дзверы)*

Карэту!

(Выходзіць. Доўгая пауза).

Першы чумак

Ну, вось... сашлюць цяпер цябе... Сашлюць
ў Сібір далёкі... за наша гора
жыццё свае загубіш там... Бывай,
кабзару наш!

(Пауза).

Іван

А можа на Украіне
не суджана табе спяваць больш...
*(Рыдаючы)*.
Бывай...

(Пауза).

Тарас

Мне адзінакава, ці буду
На Украіне жыць ці не.
Ці хто ўспомніць, ці забудуць
Ў чужой халоднай старане—
Мне ўсё адно—ўсёроўна мне.
У няволі вырас між чужымі,
І неаплаканы сваімі,
Ў няволі плачучы, памру,
І ўсё з сабою забяру—
Малога следа не пакіну
На нашай слаўнай Украіне,

На нашай—не сваёй зямлі.
І не спамяне бацька з сынам,
Не скажа сыну ён: «малі,
малі ты бога: «За Ўкраіну
Яго замучылі калісь».
Мне адзінакава, ці будзе
Той сын маліціся, ці не...
Ды не ўсёроўна для мяне,
Як Украіну злыя людзі
Прыспяць, зладзеі, і яе
Ў агні абкрадзеную збудзяць...
Ох, не ўсёроўна для мяне.

Трэці чумак *(плачучы)*

Бывай, кабзару...

Прыстаў *(уваходзячы)*

На караул!

(Вартавыя агаляюць шаблі).

Чумакі *(галасы іх дрыжаць)*

Бывай, кабзару наш...
Не забывай нас, добры чалавеча...

Тарас *(выходзячы)*

Не плачце, людзі!.. Пра мой лёс
Не дужа забівайцеся!—Памятайце,
Што, як і я, вы жывеце ў турме:
Ды я ў маленькай—усе-ж вы ў вялікай!

(Выходзіць абкружаны паліцэйскімі, асветлены вялікім пажарам, што ўсё больш і больш ахапляе ўсё кругом. Панікл і чумакі. Слёзы павольна коцяцца ў некаторых з іх па шчоках. Голасна рыдае, схіліўшыся да дзвярэй Іван).

*КАНЕЦ.*

*Якуб Колас*

# ШЭЎЧЭНКА І БЕЛАРУСКАЯ ПАЭЗІЯ

Простая, хвалюючая дэталь з жыцця вялікага паэта: хлопчык-падлетак гадоў 15—16 у ліку дваровых памешчыка Энгельгардта, царскага чыноўніка, ідзе пехатой, «па этапу» з Варшавы ў Пецербург. Пан паехаў у карэце, а чэлядзь ідзе пехатой—навошта пану лішнія расходы? Хлопчык-падлетак прызначан для паслугі памешчыку-самадуру. На адной назе ў хлопчыка бот, другая нага босая. Яго разумны, удумлівы погляд спыняецца на малюнках прыроды Польшчы і Літвы, на мяккіх і рознастайных пейзажах Беларусі, якія так часта змяняюцца. Ён нясе ў сваім сэрцы нейкую затоеную, цяжкую думку. Дзесь далёка засталася яго родная, мілая краіна. Яна саграваляго бязрадаснае дзяцінства лагодным украінскім сонцам. Ён не ведае, куды ён ідзе і куды наогул занясе яго суровы лёс. На фоне дарожных малюнкаў і спатканняў з новымі людзьмі, з незнаёмымі паселішчамі і гарадамі ён усюды і ўсюды бачыць адну агульную з'яву: заняволены, як і ён сам, народ і яго прыгнетацеляў, беднасць і раскошу, няволю і сваволле. Ён услухоўваецца ў гутарку, у расказы, у песні і думы народа, у якіх так моцна гучыць адвечнае гора і нянавісць да паноў і чыноўнікаў. Яго маладое, чулае сэрца, у якім злучыліся мільёны сэрцаў вялікага працоўнага народа, прагна ўбірае ў сябе гэта гора і нянавісць, гэтыя мары і надзеі народа, як убірае высушаная сухавеем зямля жыватворчую вільгаць навальнічных дажджоў. У блуканнях і дарогах з самага ранняга дзяцінства назірае жыццё юны Тарас Шэўчэнка, геніяльны кабзар украінскага народа. Так назбірваецца яго жыццёвае дасведчанне, так кшталтуецца крыніца яго чаруючай, своеасаблівай паэзіі, неадлучна злітай з паэзіяй народа. Гэтым назіраннем народнага гора, гнёту і бяспраўя, пратэста і нянавісці да прыгнятацеляў азначаецца асноўны тон і характар яго паэзіі.

Паэзія гэта блізкая і зразумелая і для беларускага народа, бо-ж так многа агульнага і падобнага ў гістарычных лёсах беларусаў і украінцаў. І адны і другія ў аднолькавай ступені адчувалі гнёт літоўскіх князёў і польскіх каралёў. Адны і другія на працягу доўгіх стагоддзяў сумесна змагаліся з сваімі прыгнятацелямі, польскімі памешчыкамі і магнатамі. Цэлы рад сялянскіх паўстанняў на Украіне і Беларусі ішоў побач і рука ў руку. Так у паўднёвай часці Беларусі, сумежнай з Украінай, сяляне сабралі вялікі «загон», атрад, на

чале якога стаў украінец Нябаба. Яны палілі і грамілі панскія сядзібы і касцёлы. Разам з украінцамі змагаліся беларускія сяляне пад кіраўніцтвам Няпаліча, Хвесько, Міхненка, Крывашапкі і Горкушы. Гераічна біліся яны разам з украінскімі казакамі пад Пінскам, Мозырам і Бабруйскам. Яны гінулі ў няроўнай барацьбе з Польшчай. Для іх была лепей смерць, чым панскія здзекі і няволя. Славутая Запарожская Сеч, дзе галеча, цяглавыя людзі знаходзілі прыпынак і схову ад непасільнага гнёту сваіх прыцясніцеляў, як абяцаная зямля, вабіла да сябе непакорных людзей, што шукалі волі, не толькі з Украіны, але і з Беларусі. Сацыяльнае бяспраўе і нацыянальны гнёт царскага самадзяржаўя з аднолькавай сілай клаліся на украінскі і беларускі працоўны народ. Гэта пастаянная гістарычная сувязь, гэта падабенства гістарычных умоў двух народаў і іх моўная блізасць налажылі адбітак прыязні ў іх узаемаадносінах. Гэта-ж агульнасць гістарычных лёсаў і інтарэсаў параджала і агульныя матывы народнай творчасці. Вось чаму паэзія Шэўчэнка, якая выцякала непасрэдна з жывых крыніц фальклора і асабістаганазірання жыцця, глыбока рэвалюцыйная па сваёй сутнасці, шчырая і простая па форме, так горача ўспрыймалася працоўнымі масамі беларускага народа і знаходзіла жывы водгук у яго сэрцы. Творы геніяльнага украінскага кабзара, песняра і трыбуна прыгнечанага народа мелі шырокае распаўсюджанне сярод беларускага народа і натуральна ўваходзілі ў залаты фонд яго творчасці. Народны паэт Беларусі, Янка Купала, упершыню пазнаёміўся з паэзіяй Шэўчэнка з вуснаў свайго народа. Яшчэ ў дзяцінныя леты запомніў ён песню кабзара з паэмы Шэўчэнка «Гайдамакі», не ведаючы яе аўтара:

От села до села
Танці да музыкі...

У дарэвалюцыйныя часы сярод вучнёўскай беларускай моладзі і інтэлігенцыі, вышаўшай з гушчы працоўнага народа, асабліва сярод сельскага настаўніцтва песні Тараса Шэўчэнка былі надзвычай папулярны. Шырокаю вядомасцю карысталіся песні «Раве та стогне Дніпр широкій», «Запавіт», «Ой, адна я, адна» і інш. Тэкст гэтых песень, асобныя словы і выразы падпадалі некаторым зменам. Часамі украінскае слова замянялася беларускім, або вымаўлялася на беларускі лад. Некаторыя шэўчэнкаўскія песні выконваліся ў рускім тэксту, напрыклад, замест «Утоптала стежечку через яр» спявалі «Проторила я дорожку через яр». І словы і мелодыі гэтых песень заўсёды рабілі моцнае ўражанне, як на самых выканаўцаў, так і на слухачоў. Непадробная шчырасць пачуцця, глыбокая народнасць гэтых песень, задушэўная прастата і цеплыня, часамі авеяныя нейкім чаруючым сумам, стваралі своеасаблівы настрой, моцна краталі і хвалявалі. Але захаплялася песнямі Шэўчэнка не толькі інтэлігенцыя—іх спявалі ў народзе, змяніўшы іх згодна асаблівасцям свае мовы. Уплыў шэўчэнкаўскай паэзіі на народную творчасць беларускага народа несумненны. На жаль нашы літаратуразнаўцы прайшлі міма гэтага факта і не даследавалі яго. Тым-жа часам шмат якія народныя беларускія песні яўна перакклікаюцца з многімі тво-

рамі геніяльнага украінскага паэта. Гэта—песні рэкруцкія, песні аб сірочай долі, чумацкія песні. Так, у Шэўчэнкі ў паэме «Сава»:

Ой, привезли да приёму
Чуприну голити.

У беларускай песні:

Вязуць мяне ды прыёму...
Ох, падбрылі, падгалілі,
На прасніцу пасадзілі...

У Шэўчэнкі ў той-жа паэме:

Сталі хлопців
В кайданы кувати
Та повезли да прийому
Битыми шляхами;
Пійшла й вдова з матерями
З дрібнымі слюзами.

У беларускай песні:

Той дарожанькай рэкрут вядуць
З калодкамі ды замкнёнымі,
А за імі ўслед жанкі ідуць,
Ідуць жанкі ды з дзіцяткамі.

Такіх прыкладаў шмат, але і прыведзеных даволі, каб перакanацца ў блізкасці творчасці беларускага народа да паэзіі Шэўчэнка.

Ці магла маладая беларуская паэзія, цела і кроў ад народнай творчасці, вабраўшая ў сябе ў асобе яе найболей відных прадстаўнікоў рэволюцыйны і дэмакратычны дух яе, ці магла яна не падупасці пад уплыў роднай ёй і па зместу і па форме творчасці геніяльнага украінскага паэта. Вядома, не. Ужо ў самых першых творах Якуба Коласа і Янкі Купалы адчуваецца гнеўны голас Тараса Шэўчэнка, калі яны выступаюць супроць царскага прыгнечання, супроць багачоў, якія нажываюцца і будуюць свой дабрабыт на непасільнай працы працоўнага народа. У Тараса Шэўчэнкі вучыліся яны знаходзіць гнеўныя і бязлітасныя словы, накіраваныя супроць прыгнятацеляў народа. Вядомыя шэўчэнкаўскія вершы

Думы мої, думы мої,
Лихо мені з вами!
Нашчо стали на папері
Сумными рядами?

выклікаюць цэлы рад аналагічных вершаў у беларускіх паэтаў. У Якуба Коласа:

Ой, вы, думкі, думкі,
Сэрца майго раны!
Ці вы мае дзеці,
Ці вы кім пасланы?

У Янкі Купалы:

Песні мае, песні,
Смуткаў маіх дзеці!
Калі-ж вам час прыдзе
Весела запеці?

Тыя-ж шэўчэнкаўскія матывы чуюцца ў вершы Купалы «Да сваіх думак»:

Думкі, думкі весялушкі!
Скуль вы ўзяліся?
Што ў душы, як тыя птушкі,
Песняй завіліся?

На тых-жа матывах напісан яго верш «Плачуць мае песні»:

Жудка стогнуць рэкі,
Узбуджаны вясною,
Плачуць мае песні,
Галосяць са мною.

У прыведзеных вершах уплыў шэўчэнкаўскіх «Дум» на творчасць названых паэтаў відавочны. Ён выражаецца не толькі ў шэўчэнкаўскіх матывах, але, як мы бачым, і ў самой форме. Гэты ўплыў ідзе шмат шырэй і глыбей. Найбольш поўна выяўляецца ён у дарэволюцыйнай творчасці Янкі Купалы. Першыя дзве кніжкі сваіх вершаў Купала выдае пад назваю «Жалейка» і «Гусляр». У самых гэтых назвах адчуваецца пераклічка з шэўчэнкаўскім—«Кабзар». Шэўчэнка—любімы паэт Янкі Купалы. Тая зацікаўленасць, якую праяўляў і праяўляе Купала да вершаў геніяльнага кабзара, сведчыць аб гэтым. Яшчэ ў 1906 г. ён першы ў беларускай літаратуры перакладае творы Тараса Шэўчэнка «Минают дні, минают ночи» на беларускую мову. У 1909 г. ў дзень дзевяностапяцігадовай даты з дня нараджэння вялікага паэта ён піша верш «Памяці Тараса Шэўчэнка» і сам сведчыць аб сваім захапленні паэзіяй Шэўчэнка і аб уплыве яе на беларускую паэзію:

І к нам тваё слоўка не раз далятала,
Мы слухалі ўсцешна, што бае сусед.

У другім сваім вершы, таксама, прысвечаным Шэўчэнку, ён піша:

Яго „бацькам" ахрысціла
Памятна Украйна.
Эх, і нам будзь бацька мілым,
Украінча слаўны!
Плывучы ў даль, твая песня
Гасцінцам не вузкім
Нашла водгалас пачэсны
Ў сэрцы беларускім.

Праз свае пераклады Шэўчэнка, над якімі Купала працуе даўно, ён пазнаёміў маладое пакаленне беларускіх паэтаў з паэзіяй вялікага ўкраінскага паэта. І яны вучыліся паэтычнаму майстэрству ў Шэўчэнкі. Адну з значных сваіх паэм, створаных у маладыя гады, Купала напісаў на ўкраінскім матэрыяле, запазычыўшы яе сюжэт з запісаў беларускага фальклора. Паэма гэта называецца «Бандароўна». Дзея адбываецца на Украіне. Асноўныя героі паэмы—пан Патоцкі з Канева, дэспат і нястрыманы распуснік, і маладая красуня-казачка, дочка Бандарэнкі. У карчме гуляе казачая моладзь, у тым ліку і Бандароўна. Паяўляецца пан Патоцкі са сваімі гайдукамі. Ён зварочвае ўвагу на Бандароўну і прыстае да яе. Абураная дзяўчына б'е пана па твару. Зняважаны пан Патоцкі ў ярасці выбягае склікаць сваю дружыну, каб адпомсціць казакам і Бандароўне за такую знявагу. Бандароўне раюць уцякаць і схавацца ад помсты

Патоцкага. Яе ловяць гайдукі і прыводзяць да Патоцкага. Патоцкі паказвае раскошна накрыты стол і ўсё багацце панскага палацу. Узяўшы набітую куляй стрэльбу, ён пытае, што выбірае яна, ці жыць з ім у гэтай раскошы, ці быць забітай. Гордая Бандароўна адхіляе ўсё гэта багацце і пана разам з ім. Патоцкі забівае яе. Гэта дзікая расправа з Бандароўнай выклікае абурэнне і паўстанне народа супроць панскага гвалту і свавольства.

„Задымілі ў пажары
Панскія сялібы,
Палілася кроў ракою
На лугі, на скібы".

Ї заканчвае Купала сваю паэму спасылкай, што аб горкім лёсе Бандароўны і аб тым часу засталіся толькі паданні ды песні ў народзе.

Паэма гэта характэрна з пункту гледжання зацікаўленасці Янкі Купалы да Украіны. Несумненна, зацікаўленасць гэта выклікана паэзіяй Тараса Шэўчэнкі. Па-другое, яна характэрна і ў тых адносінах, што сюжэт яе быў запазычаны, як было адзначана, з фальклорных беларускіх запісаў. Несумненна таксама, што паданне аб Бандароўне перайшло да нас з Украіны. На тым-жа украінскім матэрыяле напісаў Купала і верш: «Я казак—не казак, што нагайкай свісціць, а казак, што калісь знаў, як волю любіць». Гэты верш з'яўляецца водгукам тых шэўчэнкаўскіх вершаў, у якіх апяваецца былая слава запарожскага свабодалюбівага казацтва. Цэлы рад другіх твораў Янкі Купалы з'явіўся таксама ў выніку уплыву Шэўчэнка. Верш Купалы «Перад вісельняй» пераклікаецца з паэмай Шэўчэнкі «Сон». Даволі прачытаць любую страфу купалаўскага верша, каб пераканацца ў гэтым.

„Прыблуды з-пад Невы крывавай!
Калі адпомсцішся, калі?
За што стапталі маю славу?
За што на вісельню ўзвялі?

Увесь верш накіраван супроць цароў, дэспатаў і прыгнетацеляў народа, бо яны «закавалі ў ланцугі і суд, і праўду, і закон, а «расправу назвалі правам». Да гэтай-жа групы вершаў адносіцца і аднайменны купалаўскі верш. У ім ёсць такія радкі:

„Я сніў. А ўсё як-бы на яве
Кругом мяне жыло жыццём:
Той абмываў, той нож крываві́ў,
Той спаў летаргу звадным сном.
Спіхала ў долы праўду звада,
За быт, за шчасце йшла вайна,
Парад цягнуўся за парадам,
Жыла, умірала старана".

(*Янка Купала*, т. VI, стар. 117)

Шэўчэнкаўскія матывы з той-жа паэмы «Сон» чуюцца і ў вершы Купалы: «Ї як тут ні смяяцца».

„На нашым хітрым свеце
Усяк жыве народ:
Адзін жыве па людску,

Другі жыве, як скот.
Адзін другім гандлююць,
Купляюць як той квас,—
Падноскі падбіваюць
Стаячаму не раз".
(*Я. Купала*, т. I, стар. 150)

Абодвы гэтыя вершы нагадваюць пачатак паэмы Шэўчэнка «Сон».

„У всякого своя доля
І свій шлях широкий:
Той мурує, той руйнує,
Той не ситим оком
За край світа зазирае
Чи нема краіны,
Шоб заграбаць і з собою
Взять у домовину;
Той тузами абірае
Сват в його хати,
О той нишком у куточку
Гострить ніж на брата".

Цэлая серыя другіх твораў беларускага паэта блізкая і родная творам вялікага украінскага паэта. У паэмах Шэўчэнкі «Неофіты», «Марыя» і ў іншых сустракаюцца радкі, поўныя іроніі і сарказму, накіраваныя супроць бога, які з патураннем пазірае на ўсякія злачынствы, што чыняцца над народам. Такія-ж творы ёсць і ў Янкі Купалы, як напрыклад «Цару неба і зямлі». Ёсць яны і ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля». Родная Украіна, яе цяперашняе і гістарычнае мінулае, палкае замілаванне да яе, да свайго народу, сум і журба ў разлуцы з ёю з незвычайнай мастацкай сілай і эмоцыянальнасцю адбіты ў шмат якіх творах Тараса Шэўчэнкі. Гэтыя-ж пачуцці ў дачыненні да свае краіны выказаны і ў многіх вершах Янкі Купалы: «Я ад вас далёка, бацькоўскія гоні», «Мая малітва», «Крыўда» і шмат іншых. Злосна і бязлітасна бічуе Шэўчэнка дэспатаў-цароў і дармаеднае, тупое духавенства. Гэтыя матывы ў вялікай ступені ўласцівы і паэзіі Янкі Купалы. У Шэўчэнкі мы знаходзім вершы, у якіх гучаць боль і горыч па адрасу сыноў сваёй краіны, якія забываюць пра яе. Усе гэтыя матывы гучаць і ў шмат якіх вершах Купалы і Коласа. Аб уплыве Шэўчэнкі на беларускую паэзію і ў прыватнасці на паэзію Янкі Купалы і Якуба Коласа гаворыць і сама паэтычная форма іх твораў. Прыёмы паэтычнага паралелізма, уласцівага народнай творчасці, вельмі часта прадстаўлены ў паэзіі Шэўчэнкі. Гэтыя-ж прыёмы вельмі часта сустракаюцца і ў беларускай паэзіі. Напрыклад, у Шэўчэнкі ў паэме «Тапопя»:

„Защебече саловейко
В лузі на калині,—
Заспівае казаченько,
Ходя по долині".

У Купалы ў вершы «Над ракою ў спакою».

„Над ракою ў спакою
Зацвітала каліна,—
Ў сяле за ракою
Вырастала дзяўчына".

У Шэўчэнка:

„Не щебече соловейко
В лузі над вадою,
Ні співае чорнабрыва,
Стоя під вербою".

У Купалы:

„Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца—
Перастала дзяўчына
З ненаглядным страчацца".

Такіх паралелізмаў, якія збліжаюць паэзію Шэўчэнкі з паэзіяй Купалы, можна знайсці шмат. Своеасаблівы рытм шэўчэнкаўскай паэзіі, характэрны для яе семістопны харэй з цэзурай пасля чацвертай стапы, замена харэя ямбам або амфібрахіем, багатая інструментоўка верша, мноства ўнутраніх рыфмаў,—усё гэта характэрна і для паэзіі Янкі Купалы.

Агульныя матывы і трактоўка сірочай долі таксама збліжаюць паэзію Шэўчэнка з паэзіяй Купалы. Паэтычныя вобразы—русалкі, ведзьмы, прывіды, совы, элементы пейзажных зарысовак—курганы-магілы, крыжы, таполі, прыбярэжныя лозы, чарот, Днепр—усе гэтыя элементы ўласцівы беларускай паэзіі і, бясспрэчна, у значнай меры навеяны паэзіяй Шэўчэнкі.

Гэтым кароткім аглядам далёка не поўна вычэрпваюцца агульныя рысы, якія збліжаюць паэзію Шэўчэнкі з маладой беларускай паэзіяй. Беларуская паэзія расла і развівалася на аснове тых паэтычных мэтаімкненняў, якія так ярка выражаны ў творчасці вялікага украінскага народнага песняра-дэмакрата і рэволюцыянера, таксама як і на паэзіі вялікіх рускіх майстроў мастацкага слова, чыя творчасць сваімі карэннямі глыбока ўрастала ў шырокія пласты працоўнага народа.

Глыбокія сляды ўплыву Шэўчэнкі носіць на сабе паэзія Паўлюка Труса. Гэта—паэт паслякастрычніцкага часу, малады і вельмі таленавіты. Але талент яго не паспеў расцвісці: Паўлюк Трус памёр дваццаціпяцігадовым юнаком. У скромнай маёмасці, што засталася пасля смерці юнака-паэта, захаваўся экземпляр «Кабзара». Гэта—болей чым настольная кніга Паўлюка Труса. Ён ніколі не раставаўся з ёю і насіў яе з сабою. Шматлікія паметкі ў тэксце кнігі сведчаць аб той увазе і замілаванні, з якімі ставіўся Трус да паэзіі вялікага паэта. Аб гэтым-жа сведчыць і той факт, што Трус амаль напамяць ведаў усяго «Кабзара». Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная рэволюцыя, зняўшы аковы царскай цэнзуры, шырока і гасцінна расчыніла дзверы магутнай паэзіі украінскага песняра і зрабіла яе здабыткам усіх працоўных Савецкага Саюза. На паэзіі «Кабзара» рос і развіваўся паэтычны дар Паўлюка Труса. Прастаце, народнасці, музыцы верша і ўсяму таму зачараванню, што так падкупляе ў паэзіі Шэўчэнкі чытача, вучыўся ён у вялікага украінскага кабзара. Канву шмат якіх шэўчэнкаўскіх паэм кладзе ён у аснову сваіх твораў. Ён шырока і па майстэрску выкарыстоўвае прыём Тараса Шэўчэнкі—уплятаць у ткань твору народныя песні, умела падбіраючы іх і захоўваючы поўную гармонію паміж

імі і творам. Апроч лірычных вершаў, напісаных з пачуццем сапраўднага паэта, вялікіх, у поўнай меры закончаных паэм з акрэсленай паэтычнай мэтаімкнёнасцю ў Паўлюка Труса амаль што няма. Гэта—эскізы, паэтычныя зарысоўкі, якія сведчаць аб паэтычным дараванні Паўлюка Труса. У іх столькі цяплыні, шчырага паэтычнага пачуцця і столькі Шэўчэнкаўскага каларыту, што часамі трудна адрозніць іх ад шэўчэнкаўскіх вершаў. Украіна, украінскія стэпы, курганы, хаты ў вішнёвых садах вельмі часта ўпамінаюцца ў вершах і няскончаных паэмах Труса. Напрыклад, у яго паэме «Развітанне»:

„Ты ўспомніш стэпы Украіны
І спевы звонкія дзяўчат.
Настане ноч. Па-над далінай
Ў тумане дрэмлюць ветракі;
Заводзяць песню парубкі,
І ў вішнях журацца хаціны,
Маўчаць таполі ў далавах,
А песня коціцца далёка,
„Реве та стогне Дніпр широкий,
Сердитый вітер завыва".

Тон і рытмічны рысунак паэзіі Шэўчэнкі з усёю яе своеасаблівасцю, выкарыстоўванне характэрнага для Шэўчэнкі сэмістопнага харэя з цэзурай пасля чацвертай стапы, паэтычныя прыёмы паралелізма,—усё гэта шырока запазычана маладым беларускім паэтам у Тараса Шэўчэнкі. Вось, напрыклад, урывак з лепшай паэмы Паўлюка Труса «Дзесяты падмурак».

Разышліся пад гарою
Тры дарогі ў полі.
Па якой-жа тая доля?
Па якой нядоля?
Па якой-жа тое шчасце,
А ці ліха—гора
Мяне стрэне на чужыне,
Стрэне й пагаворыць?
Не каліна над вадою
Пахіліла голле,
Плача маці сярод поля,
Праклінае долю.

Ад Шэўчэнкі запазычае Трус прыём пачынаць новы радок верша словам, якім канчаецца папярэдні радок. Напрыклад, у Шэўчэнкі ў вершы «На вечную памяць Катлярэўскаму»:

„Сонца гріе, ветер віе
З поля на даліну,
Над водою гне з вярбою
Червону *каліну*;
На каліне одиноке
Гніздечко гойдае...

У Труса:

„Пахіліла над вадою
Тонкі стан *каліна*,
*Пад калінаю* дзяўчына...
(„Цячэ рэчка з-пад явару").

У прыведзеных прыкладах зварачае на сябе ўвагу не толькі тэкстуальная блізкасць Труса да Шэўчэнкі, але і запазычанне шэўчэнкаўскіх вобразаў. У гэтым запазычанні Трус ідзе далей. Часамі ён цалкам бярэ шэўчэнкаўскія радкі і нават цэлыя строфы, некалькі вар'іруючы іх. Напрыклад, у Шэўчэнкі:

„Сонца гріе, ветер віе.
*З поле на долину...*

У Труса:

Веюць вятры, ветравінне
*З поля на даліну.*

У Шэўчэнкі:

Вітер в гаі нагінае
Лозу і тополю..."
(„Мар'яна чарніца")

У Труса:

Вецер ў гаю нагінае
Тонкую каліну...

У Шэўчэнкі:

„Вітер з гаем размовляе,
Шепче з осокою,
Плыве човен па Дунаю
Один за водою.
*Плыве човен воды повен...*"

У Труса:

„*Плыве човен вады повен,*
Човен апаўночы.
Зацвялі, закрасавалі
Твае кары вочы.

Такіх прыкладаў шмат можна знайсці ў паэзіі Труса. Такім чынам уплыў Шэўчэнкі на творчасць маладога беларускага паэта дужа вялікі. Гэты ўплыў ідзе і па лініі паказу жаночых вобразаў, паэтычных прыёмаў—паралелізмы, зачынанне новага радка словам папярэдняй, уставачныя народныя песні, паэтычныя паўторы,—і па лініі пейзажных зарысовак, рытмічных рысункаў і запазычання асобных вобразаў, цэлых радкоў, а часамі і строф.

Вельмі любіў і высока расцэньваў паэзію Шэўчэнкі другі беларускі паэт, Максім Багдановіч, выдатны майстар паэтычнага слова і ўдумлівы крытык. Таксама, як і Паўлюк Трус, Багдановіч памёр у маладым веку. Роўна дваццаць пяць гадоў таму назад ён напісаў два артыкулы, прысвечаныя геніяльнаму аўтару «Кабзара». Адзін артыкул называецца «Краса і сіла»—вопыт даследавання верша Т. Шэўчэнкі. Абодва артыкулы напісаны па рускі. Свой першы артыкул Багдановіч пачынае словамі:

«Ёсць зоры, якія так блізкі адна да другой і так роўна злучаюць сваё святло, што здаюцца нам адным непарыўным цэлым. «Падвойнымі зорамі» называюцца гэтыя свяцілы. Іх лёс стаў лёсам музы Шэўчэнка і украінскай народнай паэзіі: падвойнай зоркай свецяць яны ў свеце мастацтва і хараства».

Багдановіч прыводзіць выказванне праф. Кастамарова аб Шэўчэнку, што «Шэўчэнка, як паэт, гэта быў сам народ, прадоўжваючы сваю паэтычную творчасць, што «песня Шэўчэнкі была сама па сабе народная песня, толькі новая, такая песня, якую цяпер мог заспяваць цэлы народ». Гэтую меткую выразу, зробленую, як кажа Багдановіч, на вока, трэба выверыць шляхам аналіза творчасці Шэўчэнкі. І ён ставіць прад сабою задачу—даць аналіз верша украінскага генія і выясніць сродкі паэтычнага ўплыву, які мае ў сабе гэты верш. Зрабіўшы падробны аналіз рытмікі паэзіі Шэўчэнкі, адзначыўшы яе спецыфічныя асаблівасці, Багдановіч прыходзіць да вываду, што «у асобе Шэўчэнкі сусветная літаратура мае паэта з вершам меладычным і зграбным, паэта, які хараство сваіх твораў будаваў не на сродках паэтычнага ўплыву, што б'юць у вочы, а наадварот—на сродках найболей тонкіх: асанансах, алітарацыях, унутраных рыфмах; паэт, які да гэтага харства адзначаных элементаў верша далучыў яшчэ незвычайную сілу сваіх рытмаў, а таксама арыгінальнасць, жывасць і грацыёзнасць рознастайных метраў». Па ліку ўнутраных рыфм Багдановіч не знаходзіць у рускай літаратуры паэта, роўнага Шэўчэнку. «Як раз тут—гаворыць Багдановіч—у гэтай вобласці верша і выясняецца, быць можа, найболей дасканала ўсё тонкае харство паэзіі Шэўчэнкі: звонку простая, скромная, яна поўна ўнутраным, прыхаваным, не кожнаму зроку даступным, прыгожаствам».

Так ацэньваў Багдановіч паэзію геніяльнага кабзара. У другім сваім артыкуле, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння Шэўчэнкі, Максім Багдановіч гаворыць аб агульна-людскім значэнні твораў вялікага украінскага паэта. «Пэўна,—піша Багдановіч, тыя глыбока-нацыянальныя формы, у якіх заключан гэты агульна людскі змест, шмат болей скажуць сэрцу украінца, чым чалавеку іншай народнасці. Але і гэтаму апошняму Шэўчэнка не будзе чужым і незразумелым, і ў яго душы творы украінскага паэта знойдуць сабе водгук, бо над ім своеасабліваю чэканкаю хаваецца поўнацэнны метал духоўнай культуры, агульнай усім цывілізаваным народам».

Максім Багдановіч займаўся таксама перакладам вершаў Шэўчэнкі на рускую мову. Ён пераклаў вершы—«Кастамарову», «У няволі», «У няволі цяжка», «І неба няўмыта», «Гатова, парус распусцілі». Пераклады зроблены з той увагаю, з якою наогул ставіўся Багдановіч да твораў Шэўчэнкі.

Вось у агульных рысах агляд асноўных момантаў уплыву Шэўчэнкі на маладую беларускую паэзію. Як мы бачым, уплыў гэты вельмі значны, і Шэўчэнку належыць пачэснае месца ў фармаванні нашай паэзіі. Гэты агляд—першая спроба даследваць ролю Шэўчэнкі ў развіцці беларускай паэзіі. Агляд далёка не поўны і праілюстраваны галоўным чынам паэзіяй Янкі Купалы, Якуба Коласа і Паўлюка Труса і то далёка не ў поўнай меры.

Сто дваццаціпяцігоддзе з дня нараджэння Т. Г. Шэўчэнкі выклікала вялікую зацікаўленасць з боку беларускіх паэтаў да літаратурнай спадчыны песняра украінскага народа. Горача адгукнуліся яны на гэту слаўную дату. Яны паставілі перад сабою задачу—даць поўны і поўнацэнны пераклад «Кабзара» на беларускую мову. Бела-

рускі народ, які спяваў і спявае песні Шэўчэнкі, часта не ведаючы іх аўтара, мае права патрабаваць ад сваіх паэтаў даць яму любімую ім паэзію песняра вялікага суседняга народа на беларускай мове, даць яе ва ўсім яе чаруючым харастве, глыбіні і сіле, ва ўсім своеасаблівым яе бляску. Работа над перакладам «Кабзара» яшчэ болей зблізіла нашых паэтаў з творчасцю Шэўчэнкі. Уся магутнасць і глыбіня яго паэзіі, дзівоснае багацце фарбаў і гукаў адкрыліся нам у гэтай рабоце, у працэсе пераадольвання тых часамі агромных труднасцей, з якімі звязана перадача вершаў Шэўчэнкі на беларускую мову, не гледзячы на блізкасць украінскай і беларускай мовы. Мы імкнуліся даць пераклад блізкі да арыгінала, захаваўшы ўсе асаблівасці паэтычных прыёмаў, паэтычную прастату і яснасць, музыку і напеўнасць шэўчэнкаўскай паэзіі. Мы ўважна і многа працавалі, пераадольваючы ўсе труднасці пераклада, маючы на ўвазе даць сапраўднага Шэўчэнку на беларускай мове. Гэтыя труднасці ў асноўным, як мне здаецца, пераадолены.

Тарас Грыгоравіч Шэўчэнка, чыя муза была цалкам аддана народу, непахісны змагар за народную справу, паэт, які меў поўнае права сказаць, зварочваючыся да сваёй суровай долі:

„Не хітравалі мы з табою,
Мы проста йшлі. У нас няма
Няпраўды зерня за сабою“

у нашы дні вырысоўваецца ва ўвесь свой гігантскі паэтычны рост перад многанацыянальным, многамільённым совецкім чытачом. Ён па дастоінству і па праву займае месца з Пушкіным, Міцкевічам і Гётэ, з Сулейманам Стальскім, з Некрасавым і Шота Руставелі. Свабодны совецкі народ, як ніякі іншы ў свеце, цэніць шчырых і вялікіх сыноў чалавецтва, вялікіх мастакоў слова ўсіх вякоў і народаў, бо совецкі народ—дастойны наследнік агульналюдской культуры.

*Ванда Васілеўская*

# ЗЯМЛЯ Ў ЯРМЕ *

## IV

Ройекі вярталіся з кірмаша досыць рана—няўдалы быў кірмаш, не было чаго рабіць у мястэчку. Ройечыха нецярпліва панукала мужа:

— Ды сцебані ты гнедага! Валачэцца, нібы тры дні не еў!

— Куды спяшацца? Яшчэ рана, паспее да часу.

— Владыслаў даўно вярнуўся.

— Таму што яны выехалі да свету, куды раней за нас.

— Сцебані яго пугай, не шкадуй!

— Ты хочаш, каб кляча па такому пяску трушком бегла? Паглядзі, як потам прабрала! Няхай ужо валачэцца, як можа. Не на пажар нам спяшацца...

— Ты ніколі не спяшаешся...

— А ты вельмі прыткая стала! То не адцягнеш цябе ад куфраў, а сёння раптам загарэлася...

Яна злосна паціснула плячыма і выцерла пот з ілба канцом карычневай хусткі.

— Ну і спякота!

Конь ледзьве валачыўся па пясчанай дарозе. Ройечыха неспакойна ёрзала на месцы:

— За ўзгоркам дарога нібы лягчэйшая...

— Куды там... Адзін пясок.

Скрыпелі дрэнна змазаныя колы. Ройек сонна гайдаўся на сядзенні, адганяючы час ад часу аваднёў, якія густа абляпілі гнедага. Конь уздрыгваў і тоненькая нітачка крыві выцякала з пакусанага месца.

— Кусаюць як...

— Дождж будзе, не інакш...

— Адкуль яму ўзяцца... На небе ні хмарынкі.

Сонца павольна схілялася да захаду, павеяла ўжо перадвячэрняй прахалодай, калі дабраліся, нарэшце, да вёскі. Ройечыха ажывілася:

— Спыні каля Зоські... Язджай памалу дахаты, я зараз прыбягу.

Ён здзівіўся:

— Падганяла мяне, падганяла, а цяпер па хатах уздумала бегаць?

---

* Канец, пачатак гл. у № 2.

— Зоська прасіла спытацца наконт шалі, пайду скажу ёй...

— Глядзі, не сядзі доўга, пара вячэраць...

— Як толькі пад'едзеш, я тут і прыбягу,—запэўняла Ройечыха, злазячы з воза перад хатай сястры.

Ён сцебануў каня і паехаў.

Зоська скрабла ў сенях бульбу.

— З кірмашу? Купіла чаго?

— Так, глупства... Дарагоўля была сёння—жах. Адам узяў мерачку жыта і крыху сала, затое што я чула ў горадзе...

Зоська апусціла скрабок на калені:

— Што?

— Наконт Анны. Вось дык цуда...

Зоська слухала, разявіўшы рот. Потым ускочыла з табурэта—бульбяныя лушпайкі рассыпаліся па падлозе; куронак, што спакойна шукаў ежы, залапатаў крылцамі.

— Пачакай, пачакай, трэба сказаць Юзефовай!

Вышла на парог і, абапёршыся рукамі аб касяк, крыкнула ў суседні агарод:

— Юзефова, Юзефова, хадзі сюды на хвілінку! Што я скажу табе...

Змарнелая невысокая бабка выпрасталася над градкай буракоў:

— Іду, іду!

Шпаркія вочы Зоські ўгледзелі мільгануўшы на дарозе блакітны фартух:

— Галінская, Галінская, на хвілінку...

Абедзьве ўвайшлі ў сені. Ройечыха расселася на нізкім табурэце і для большай важнасці шмыгнула носам.

— Вось паслухайце... Сястра прыехала з кірмашу, даведалася там наконт Анны...

— Валацужкі той?

— Ну, але!

Ройечыха ўселася выгодней і пачала расказваць:

— Пайшла я ў краму па сала, а Весялоўская і пытаецца...

— Якая Весялоўская?

— Агнешка! Тая, што з Мацькова пайшла за муляра ў Ліпкі, хіба не ведаеш?

— Ёсць і другая...

— З Бржэгаў? Не, не яна. Дык вось пытаецца ў мяне гэтая Весялоўская: «Думайка ў Калінах цяпер жыве?» Якая Думайка?—кажу.

— Ды ў Анны-ж прозвішча—Думай.

— А я хіба ведала? Не ведала. Толькі потым слова за словам зразумела я, што гаворка пра яе. І цяпер ведаю ўсё.

Галовы нахіліліся да яе шчытным колам:

— Што? Што?

— Яна расказала мне, як усё было. Гэта Анна з Рацух, што ля Ліпак. У яе бацькі быў там морг ці два, але ўсё адышло да брата, не ёй.

— Ну і што-ж?

— Ды нічога. Жыў у Рацухах Міхаіл Каня,—можа ты, Зоська, памятаеш, бацька яшчэ купіў у яго свінню...

— Не памятаю...

— Купіў, купіў, мы тады яшчэ не былі замужам...

— Ну, і што-ж?

— Ды нічога. У гэтага Кані была баба, а дзяцей у іх не было. Ён прагнаў бабу і пачаў жыць з Аннай.

— А божухна!

— Праўду кажу, так расказвала мне Весялоўская, а яна ведае. Адтуль да Рацух бліжэй, чым ад нас да Мацькова. І Каня заўсёды вазіў у Ліпкі свіней...

— Ну і што-ж?

— Ды нічога. Пажыла яна з ім гады два, а можа і больш... Адзін раз узваліў Каня свінню на воз, надарваўся і памёр—месяцы два назад. А як памёр, прышла яго баба з братамі і прагнала Анну. А ёй радзіць пара была... Прагналі зусім, ды яшчэ—у каршэнь далі на дарогу. Сабралася яна і пайшла.

— Божа літасцівы...

— Прыйшла ў тую пару да нас і нарадзіла сярод дарогі. Вось і ўсё!

Запыхаўшыся, Ройечыха перадыхнула і ўрачыстуючы паглядзела ўважлівым позіркам на слухаўшых яе баб.

— Так і прагналі?

— Так і прагналі! А то як-жа? Было там яе дабро? Ні каліва! Усё засталося жонцы.

— А Каня той багаты быў?

— Дзіва што! Свінямі гандляваў і зямлі багата, і дом, Весялоўская казала—каменны.

— І ўсё бабе засталося?

— Усё да каліва! Дзяцей у яе не было.

— Затое Анна за два гады ўволю пакарысталася ўсім...

— А цяпер прагналі яе...

— І заслужыла! І на дарогу здорава наламалі ёй хваста. Дзіва! З жанатым сышлася, бадай, ведала, што ў яго ёсць баба.

— Проста дзівішся, што толькі робіцца! Так без усякага сораму і жыла з жанатым?

— Так і жыла.

— Як толькі жонка дапусціла...

— А што было рабіць? Затое, як памёр, зараз і вярнулася на сваю гаспадарку...

— Дом, кажаш, каменны?

— Каменны, Весялоўская казала.

Ківалі галовамі, вельмі здзіўляліся:

— У каменным доме жыла, а цяпер як давялося...

— Пасярод дарогі раджаць...

— Калі-б Каня жывы быў, і дагэтуль паняй сядзела-б...

— Лепш чым раней, таму што быў-бы дзіцёнак, а Каня аж канаў, так дзяцей хацеў, дзеля гэтага і бабу сваю прагнаў.

— Скажы ты...

— А былі чуткі, нібы яна з панам звязалася, што жыў на дачы...

— Зусім не пан гэта, а Міхаіл Каня з Рацух.

— Ну і справы...

Ройечыха глянула за парог і ўскочыла з месца:

— А божухна мой, сяджу я, сяджу, а тут ужо і вечар надышоў. Пара ў хату. Зоська, прыходзь заўтра лён палоць.

— Прыду, толькі папазней, як дома ўпраўлюся.

— Не падманіш?

— Ды прыду-ж, і Сташкаву бабу прывяду.

— Добра, мілая.

Ройечыха выйшла, за ёю Галінская і Юзефова. Праз хвіліну з саду Галінскіх пачулася:

— Кацярына, хадзі, мілая, сюды, што я табе скажу!

— Казімірова, чула ты?

— Зоська, што казала табе Ройечыха?

Шушуканнем, шалясценнем, шопатам панеслася па вёсцы навіна. Бабы пляткарылі за парканамі, над пераплотамі паточаных чарвямі садоў. У здзіўленні шырока раззяўлялі раты, усплёсквалі пакарабачанымі ад работы рукамі:

— Божа літаслівы...

— Ды што-ж гэта робіцца?

— Хто-ж гэта бачыў?

Плёткі аб Анне даходзілі да вушэй Вінцэнта незалежна ад яго волі. Ройечыха, а за ёю і другія, заўсёды ўмелі спрытна ўставіць слоўца, намякнуць, навесці на падазрэнне. Анна гатавала настаўніку абеды, мыла бялізну,—няхай ён хоць ведае, з кім мае справу. І Вінцэнт у замяшанні лавіў сябе на думцы, што гэта абыходзіла яму больш, чым варта было-б. Ён скосу прыглядаўся да Анны, калі яна прыбірала ў пакоі, ахайная, ціхая, спрытнымі рухамі складала кнігі, з ураджонай грацыяй падмятала падлогу, хутка прыводзіла пакой у належны парадак. Часам прыносіла кветкі і ставіла на стол у гліняным збанку.

— Лягчэй становіцца, калі паглядзіш на кветкі,—казала сваім пявучым голасам, і Вінцэнт здзіўляўся, як гэта яму самому не прыйшло ў галаву. Сапраўды: пакой нібы святлеў, расквечваўся фарбамі, пачынаў пахнуць не смуродам, што ішоў з двара, а нагрэтым лугам.

— Што, каб гаспадары пасадзілі тут у садку якіх-небудзь кветак, а то ўсё—буракі і буракі. Хоць адну градку перад вокнамі...

— Вы любіце кветкі?

— Вельмі. Хто іх не любіць?—са здзіўленнем узняла яна на Вінцэнта вялікія шэрыя вочы.

Настаўнік замяшаўся. Старанна ўнікаў яе позірку—баяўся, што яна прачытае ў яго вачах тое, чаго не трэба. Заўважыць, як ён глядзіць на яе грудзі, што выразна вырысоўваюцца пад блузкай, на круглую белую шыю.

«Па сутнасці, хто яна такая?—казаў ён сабе з раздражненнем.— Вясковая дзеўка, як і іншыя, і не толькі прыжыла незаконнае дзіцё,

Мыдляржыха таропка дастала з-пад шалі сала і хлеб, нават сама здзівілася, што не згубіла ўсяго, калі без памяці бегла сюды з лесу. Дзеці ўміг абступілі яе. У Зоські было іх пяцёра і яна падзяліла ежу, пакінуўшы таксама для Зоські:

— Еш, еш,—падмацуйся. А дзе-ж твой?

— Мужыкі раюцца са старшынёй. Ды аб чым тут раіцца, божа міласлівы, нічога не засталося ад вёскі. У Банахаў згарэла дзіцё, а каваля так абпаліла, што, бадай, да вечара не дажыве. У другіх не лепш... Згарэла старая Вансячыха...

— Ды што ты?

— Яна не магла ўжо крануцца з месца, з вясны ляжала як бервяно, ды хіба быў у каго час успомніць пра яе? Кожны ратаваўся, ледзьве дзяцей паспелі выцягнуць. Сярод ночы-ж загарэлася, ад каваля пайшло, працаваў позна,—з гэтага, відаць, і пачалося. Але бог пакараў ужо яго... Так абгарэў, што глядзець страшна... Хапаў з агня, што папала, ды хіба гэта паможа? Як шуганула адразу, як ірвануў вецер, так адну хвіліну ўсё агнём і ахапіла...

Яна марудна жавала хлеб, і буйныя слёзы каціліся па закопчаным твару.

На лузе воддаль мужыкі раіліся са старшынёй.

— Трэба нешта рабіць. Так нельга пакінуць: бабы, дзеці, а тут:—голае неба і голая зямля.

Стары Верціох пачасаў сівую галаву, упоперак якой працягнуўся шырокі крывавы рубец:

— Нічога іншага мы не прыдумаем, як толькі трэба табе, Раман, ісці ў Остржэнь, да графа.

Не вельмі гэта было да душы мужыкам. Але яны ведалі, што ў графа былі нейкія справы са старшынёй,—можа і ўдасца яму выпрасіць дапамогі.

— Даў-бы колькі вазоў бульбы ды хлеба трохі...

— Так ён табе і дасць... Трымай кішэню...

— А што яму? На дзесятак бровараў хопіць... Мог-бы і Бржэгам даць хоць колькі...

— Ходзяць адсюль да яго на работу, шмат каму вінен...

— Шыдлоўцу другі год не плоціць...

— Яніцкім саломай хацеў заплаціць...

— Няхай-бы даў хоць саломы... Хлеба ў яго багата. Сонца не спаліла, не такая глеба. А нам цяпер няма на што легчы, няма на чым спаць, ды дзяцей колькі...

— Вядомая рэч, і салома згадзіцца...

— Перш чым заплоцяць страхавыя, змучыцца народ дашчэнту.

— І без таго зімой пойдзем жабраваць да вясны...

— Трэба напісаць прашэнне ў старастат: калі згарэла Стахоўка, памаглі...

— У старастат—сваім чарадом, а да графа таксама не абмінеш ісці...

Старшыня доўга думаў, чухаў патыліцу.

— Пайсці можна... Дасць—добра, не дасць—што зробіш. Галавой сцяны не праб'еш... Ды як мне ісці аднаму? Вызначце некалькі чалавек, разам і пойдзем, дэлегацыяй.

Доўга спрачаліся, перш чым вырашылі, каму ісці. Выбралі Верціоха, Скалку, Лазінскага, Кухарчука, а бабы з вялікім крыкам прапіхнулі Скалчыху:

— Няхай і баба ідзе! А Скалчыха за словам у кішэню не палезе: раскажа што і як. Яна бабскія справы лепш за мужыкоў уладзіць.

З Мацькова прыслалі коней, і дэлегаты на двух падводах паехалі ў Остржэнь, да графа з просьбай.

Але з усіх дзён, якія яны маглі выбраць, гэтыя падыходзілі найменш. Таму што якраз напярэдадні раніцой прыбегла да Остржэньскага ўпраўляючага дзяўчына, што працавала на агародзе. Ён насілу абуджаўся ад сна, не разумеючы, у чым справа:

— Што я вам скажу, пане ўпраўляючы... Дрэўцы за паркам... усе як ёсць да адзінага, пане ўпраўляючы...

Ён ускочыў, нарэшце, на ногі. Шпарка нацягнуў штаны, дрыжачымі рукамі зашпільваў пояс, не пападаючы гузікам у пятлю.

— Усе?

— Усе да аднаго... Гляджу... думала, што здаецца мне... Тое ці не тое месца? Зусім па-іншаму ўсё стала...

На твары дзяўчыны быў жах і нібы радасць. Яна верашчала не сціхаючы, і кроплі сліны распырскваліся ва ўсе бакі.

— Бяжы па вартаўніка, я пайду ў замак.

— Божухна, злітуйся, што-ж гэта будзе, як даведаецца граф.

— А табе што да гэтага?—гаркнуў на яе ўпраўляючы і ад натугі жылы вяроўкамі ўздуліся ў яго на ілбу.—Глядзі за сабой, гэта цябе не тычыцца...

Яна шарахнулася і пабегла да баракаў. Навіна распірала яе, яна гатова была крычаць на ўсё горла аб тым, што здарылася, але баялася ўпраўляючага. Пабегла стараною, удоўж радоў высокіх парэчак, што стаялі ў агні чырвоных ягад, нарэдкасць урадзіўшых сёлета.

Упраўляючы гутарыў тым часам з лакеем.

— Мабыць спіць. Нічога не чуваць...

— А ты пастукай. Мне трэба зараз-жа бачыць яго!

— Не загадана ўваходзіць, пакуль не пакліча, хіба вы не ведаеце, пане ўпраўляючы?

— Загадваю табе, галава садовая, пастукай! Я адказваю! Скажы, што трэба бачыць яго зараз-жа!

Ануфрый пачухаў сівую патыліцу і маруднымі шаркаючымі крокамі асцярожна падышоў да дзвярэй. Але з-за дзвярэй пачуўся ўжо вокліч:

— Ануфрый!

Лакей таропка адчыніў дзверы.

— Што там за шум?

— Пан упраўляючы прышоў, ваша сіяцельства.

— Чаму такая спешнасць? Прасі!

Упраўляючы ўвайшоў, нізка кланяючыся. Не гледзячы на поўадзетага графа Остржэньскага, разгублена блукаючы вачыма па квяцістаму дывану, далажыў:

— Ваша сіяцельства, уначы зрэзалі прышчэпы за паркам.

— Прышчэпы? Тыя, што нядаўна пасадзілі?

— Так точна.

— Багата?

Упраўляючы замяўся. Некалькі хвілін стаяў з адкрытым ротам, перабіраючы ў руках шапку.

— Усе?

— Усе. Сякерай пасеклі.

Граф таропка пачаў апранацца. Твар яго пацямнеў, наліўся гневам.

— Дзе вартаўнік?

— Я паслаў па яго, зараз прыдзе.

— Звольніць зараз-жа!

— Слухаюся, ваша сіяцельства!

— Садоўнік?

— Я яшчэ не бачыў яго.

— Звольніць зараз-жа!

Упраўляючы раскрыў рот і закрыў, не сказаўшы ні слова, толькі скосу глянуў на хмурны, вялікі, азызлы твар графа.

— Ідзем!

— Слухаюся, ваша сіяцельства.

Агарод і парк стаялі яшчэ ў сівай расе. Бледнай зялянінай і блакітнасцю ільсніліся доўгія грады гародніны, што цягнуліся да вулляў пчольніка. У парку ўвайшлі ў вільготную прахалоду, нібы ў джунглі. Велізарныя ліпы, што шырока раскінулі свае галіны, шматвяковыя дубы і больш нізкія акацыі змыкаліся над галавой неправільным купалам, сцежка ішла зялёным танелем і выявяла на адкрытую прастору, на шырокія палі, што сыходзілі ўсё ніжэй, да істужкі Буга.

Граф здалёк убачыў дрэўцы. Яны ляжалі на зямлі, пасярод пасаджанай тут простай і кучаравай капусты, роўнымі радамі, як саджалі іх два гады назад. Граф нахіліўся і ўважліва разглядаў пянёк. Ен быў падрэзаны роўна, адным дужым узмахам сякеры. Свяцілася белая драўніна—вільготная рана дрэва, тырчалі ўгору тонкія яшчэ, дробныя галінкі. Граф выпрастаўся, ахапіў позіркам усю прастору, адрэзак поля да суседніх узгоркаў—дзесяць моргаў зямлі. Усё было гладка, роўна. Ля самай зямлі кучаравілася сталлю і сінню капуста, і нічога не ўзвышалася над ёю. Граф ішоў павольна, часам спыняючыся, нібы па могілках. Палягло ўсё: кальвілі, залатыя і шэрыя ранеты, розмарыны, не пашкадавалі нават райскіх яблыняк, што гэтай вясной стаялі ўжо ў ружовай імгле квітнення.

— Вы аглядзелі сляды?

— Сляды ёсць. Ці не ўгодна вашаму сіяцельству зірнуць?..

— Што ты паказваеш мне, дурніца? Гэта-ж конскія капыты! Ім не было чаго рабіць тут з коньмі, усё на месцы, нічога не ўвезлі,—такія былі міласлівыя!

Упраўляючы пабарвовеў.

— На ўсёй прасторы іншых слядоў няма, ваша сіяцельства.

— Здурэў ты?

— Прашу вас саміх паглядзець, ваша сіяцельства.

Па мяккай, старанна апрацаванай для пасадкі гародніны зямлі, ішлі конскія сляды, адзін за другім, нібы чалавечыя крокі.

— Яны прывязвалі да ног капыты.

Граф жаваў канец доўгага пажоўклага вуса.

— Паведаміць паліцыю!

— Слухаюся, ваша сіяцельства.

— Дзе вартаўнік?

— Вунь ідзе.

Ад парка таропка бег стары, згорблены чалавек. Уздутыя на каленях штаны целяпаліся вакол худых ног, ускалмачаныя валасы тырчэлі ва ўсе бакі.

— Ты дзе быў, калі seклі ўначы прышчэпы?

Стары схіліўся нізка, да самай зямлі, зрабіў рукамі рух, нібы намерваючыся абняць ногі графа Остржэньскага.

— Злітуйцеся, ваша сіяцельства... Увечары я абышоў усё, як належыць... Заходзіў і ў парк, і ўсюды... Ля поўначы сабакі пабеглі на той бок, да пчольніка, брахалі страшэнна. Я падумаў, што хто-небудзь балуе з пчоламі, таму цяпер якраз пара браць мёд... Ї там крыху прыпазніўся... А потым сабакі брахалі ля агарода і ззаду палаца, не сціхалі да самай раніцы...

— А сюды табе не прышло ў галаву глянуць?

— Злітуйцеся, ваша сіяцельства, што магло каму спатрэбіцца тут? Ля палаца, ля стайняў, ля катухоў—іншая справа. А тут нічога няма, адны толькі прышчэпы... Ні яблычка... Каму магло спатрэбіцца?

Бегаючы чырвонымі вачамі ён таропка аглядзеў доўгія рады паваленых на зямлю прышчэпаў. Яны былі падобны на маленькія кусточкі, вырасшыя раптам пасярод агародніны.

— Збірай свае манаткі і выбірайся адсюль!—сказаў упраўляючы.

Стары затросся:

— Злітуйцеся, пан упраўляючы, як-жа так? Баба ў мяне хворая... Столькі год я тут... Як-жа так...

— Дармаеды тут не патрэбны. Усю ноч, бадай, секлі—столькі прышчэпаў, а ты не чуў, не бачыў, нічога не ведаў...

— Прашу звярнуць на вартаўніка ўвагу паліцыі!—суха сказаў граф Остржэньскі.—Хай праверыць, ці не быў ён у змове.

Стары выцягнуў перад сабою рукі:

— У змове? Як-жа гэта? З кім? Я-ж служу тут сорак год, сорак год! Вы, ваша сіяцельства, тады яшчэ не былі жанатыя, яшчэ быў жывы стары граф, яшчэ...

Остржэньскі шпарка ішоў да палаца, шасталі асыпаныя расой лісты, скрыпелі капусныя, толькі пачаўшыя завівацца галоўкі. Вартаўнік, дробна перабіраючы нагамі, бег за ім, маленькі, згорблены, бездапаможна разводзячы рукамі:

— Як-жа так... Баба хворая... Столькі год... Яшчэ вы, пан граф...

Остржэньскі махнуў рукой:

— Скажы яму, чуеш, скажы яму, каб заўтра раніцай яго тут не было!

— Слухаюся, ваша сіяцельства. А толькі—як-жа быць з паліцыяй? Дзе яго шукаць потым? Можа паліцыя сёння яшчэ не прыдзе...

— Паліцыі не паведамляць!

Упраўляючы здзівіўся:

— Не паведамляць?

— Я сказаў! І рот на замок! Калі хто пасмее трызвоніць аб гэтым, са службы вон!

— Слухаюся, ваша сіяцельства. Толькі...

— Ніякіх толькі! Садоўніка таксама звольніць! Абавязаны быў глядзець. Сад знаходзіцца ў яго веданні!

— Слухаюся, ваша сіяцельства. А... прышчэпы?

— Звар'яцеў ты? Убраць, выкінуць! Куды яны варты? І больш мне аб гэтым ні слова! Пры шлі да мяне ў палац Марковяка.

— Слухаюся, ваша сіяцельства.

Граф накіраваўся да замка. Вокны ззялі асляпляючым бляскам узыходзіла сонца.

— Ануфрый!

— Што загадаеце, ваша сіяцельства?

— Калі прыедзе Марковяк, прывядзеш яго да мяне. Больш нікога не пускаць, чуеш?

— Слухаюся, ваша сіяцельства.

Дзверы з бразгатам зачыніліся, ключ скрыгануў у замку, граф Остржэньскі падышоў да акна. Адсюль, як на далоні, было відаць Остржэньскія землі і цёмныя плямы вёсак. Далёка, за лясамі, за цёмнай паласой дрэваў—Каліны; бліжэй, унізу—Мацькоў і Бржэгі, і Вандолы, і Рутка. Твар графа перакарэжыла грымасай. Ён зноў разглядзеў балючую мясціну: клін вясковых вузкіх палосак, што ўрэзаўся ў шырока раскінутыя нівы графскай пшаніцы, і зблытаныя верхавіны ракітніка, што акрэслівалі мужыцкую пратоку паміж графскіх сажалак. Удалі чарнела на Бугу маленькая кропка—відаць човен. На дарозе заклубіўся пыл—нехта ехаў на возе. Мужыцкі човен і мужыцкі воз...

Ён падышоў да дзвярэй і пакруціў ключ:

— Хто там?

— Марковяк прышоў, ваша сіяцельства.

— Добра. Больш нікога не пускай, чуеш?

— Слухаюся, ваша сіяцельства.

Марковяк стаяў ля пісьмовага стала, камячыў у руках шапку і хітрымі шэрымі вочкамі свідраваў твар графа.

— Ты чуў, што адбылося?

Мужык нізка пакланіўся:

— Казалі мне, ваша сіяцельства.

— Хто казаў?

Марковяк неспакойна затупаў на месцы:

— Ды так, казалі... Не памятаю ўжо, хто... Людзі лапочуць, вецер мякіну разносіць.

Остржэньскі зблізіў густыя сівыя бровы:

— А ты даведайся.

— Прашу прабачэння, вы яшчэ не паведамілі паліцыі, ваша сіяцельства?

— Не.

Марковяк узрадаваўся:

— Гэта добра! Калі-б пачалі дапытваць, выслухоўваць, запіс-

ваць, то камень у воду. А калі ўсё сціхне, мінецца, можа—хто і пахваліцца...

Ён падышоў бліжэй і фамільярна нахіліўся да Остржэньскага:

— Прашу прабачэння... Ці не падазраеце вы каго-небудзь, ваша сіяцельства?

— Не... Ты даведайся ў вёсках. Хоць з якой вёскі.

— Ужо я абследую, выпытаю... Але так хутка гэта не будзе.

— Мне не да спеху. Час ёсць,—цвёрда сказаў Остржэньскі.

— Вядомая справа... У вашага сіяцельства часу досыць...—захіхікаў Марковяк.—Паспяшыш, людзей насмяшыш. Мы павядзем справу па-маленьку, з расстаноўкай...

— Як там старшыня спраўляецца ў Мацькове?

— Наконт пратокі?

— Так.

— На яго, ваша сіяцельства, вы можаце цалкам пакладацца... Стараецца з усяе сілы. Ды толькі людзі там непадатлівыя... О, якія непадатлівыя!..

— Скажы яму, што дам дзве тысячы.

— Дзве тысячы? Гэтакія грошы... Мужыкі-б пайшлі на гэта з ахвотаю, валасць бедная... Толькі...

— Толькі што?

— Калі-б не ведалі, што вашаму сіяцельству, прашу прабачэння, гэта вельмі патрэбна... А цяпер... там ёсць такія, што старшыні слова не даюць сказаць... Наконт гэтай пратокі... Калі-б каму другому, не гневайцеся, ваша сіяцельства, дык яны і за сто злотых аддалі-б...

Сівыя кусцістыя бровы зноў сыйшліся на ілбу. Остржэньскі дыхаў цяжка.

— Дык ты гаворыш... гаворыш... хто-ж гэта?

Марковяк падумаў з хвіліну.

— Праўду кажучы, прашу прабачэння, усе... Але я так мяркую, што больш за ўсё, больш за ўсё... Скуржак, Лесяк, Караба... Хто там яшчэ?—лічыў ён па пальцах.—Ну, яшчэ Стакоўскі і Кавальчук...

Граф ківаў галавой, адзначаючы ў сябе ў памяці.

— Лесяк... Лесяк... Што такое было з гэтым Лесякам?

— А тое, ваша сіяцельства, што да яго наведалася паліцыя. Не так да яго, як да сына... Нібы наконт таго самага... Газеткі чытае, рэволюцыянер, кажуць...

— Лесяк... А ты пасачы за ім, чуеш?

— Пасачу... У выпадку чаго, прашу прабачэння, я паведамлю вашаму сіяцельству.

— Добра. Толькі часта не шляйся сюды.

— О, я асцерагаюся, ужо так асцерагаюся... Але яны... як-быццам ужо здагадаліся... Вы ведаеце, ваша сіяцельства, прашу прабачэння, часам такі страх находзіць, таму што ў выпадку чаго...

— Кажы, што табе зноў патрэбна?

— Ды вось... Аўсу-б крышачку, прашу прабачэння... Сухмень такі, проста страх... а тут коней пара...

— Добра, добра! Скажу упраўляючаму. Калі паедуць у горад, дык скінуць табе мяшок.

— Вельмі дзякую, ваша сіяцельства...
— Ідзі!
— Іду, іду, адну хвілінку яшчэ...
Ён зноў нахіліўся да графа:
— Я ўжо казаў пану упраўляючаму... Яшчэ... той, што пры конях, Гарада... за ім трэба глядзець...
— Злодзей?
— Не-е. А толькі, кажуць, людзей бунтуе... Батракоў, значыць...
— Я праверу. Ідзі!
— Нізка кланяюся вашаму сіяцельству. І за авёс дзякую, таму што гэта ўсё адно, як калі-б ён ужо быў у мяне на стайні. Слова вашага сіяцельства для мяне святое.
— Ідзі, ідзі!
Марковяк адыходзіў да дзвярэй, часта кланяючыся, не вельмі нізка, не вельмі пачціва. Шэрыя маленькія вочы глядзелі ў набраклы, азызлы твар графа з лёгкай насмешкай.
У поўдзень дэлегацыя прышла да замка, і садоўнік выклікаў упраўляючага. Упраўляючы выкручваўся на ўсе лады.
— Ды мы зусім не да вас, пан упраўляючы!—абарвала яго Скалчыха. Мы хочам гаварыць з графам. Далажыце, што прышла дэлегацыя з Бржэгаў, пяцера нас, і старшыня, асоба афіцыйная.
— Не ведаю, ці выйдзе граф.
— Мы не пытаемся ў вас, пан упраўляючы, ведаеце што. Калі вы не далажыце, мы самі знойдзем дарогу ў пакоі.
Упраўляючы збаяўся і пабег у замак. Доўга не вяртаўся.
— Не вельмі яны спяшаюцца...
— Як жабракі, стаім ля дзвярэй...
— А чым мы не жабракі?
— Калі прышоў прасіць, усяго паспытаеш...
— Можа граф спіць яшчэ?
— А чаму-б яму не спаць? Ні ў поле не трэба спяшацца, ні каровы ў хлеве не равуць...
— Нашы ўжо не заравуць, ніколі больш не заравуць!—запрычытала раптам Скалчыха, і ў мужыкоў сціснулася сэрца.
Але ў гэту хвіліну расчыніліся дзверы і выйшаў граф. Спыніўся на ганку—рослы, шырокаплечы, з-пад сівых брывоў пільна глядзелі пачырванелыя, акружаныя сінімі мяшкамі вочы.
— Што трэба?
Верціох падштурхнуў старшыню:
— Кажы, Раман! Ты—старшыня!
Старшыня выйшаў наперад і нізка пакланіўся:
— Мы з Бржэгаў, ваша сіяцельства. Сёння ўначы ў нас здарылася няшчасце...
— Ведаю.
— Згарэла дашчэнту ўся вёска...
— Чаго-ж вы хочаце?
Старшыня разгубіўся. Выскачыла наперад Скалчыха:
— А мы прышлі, ваша сіяцельства, так сказаць, дэлегацыя—пяцера нас і старшыня, прасіць дапамогі для вёскі.
Остржэньскі ссунуў бровы. Адтапырыў пад сівымі вусамі губы:

— Чаму я павінен памагаць вам?

У Скалчыхі язык застраў у горле. На выручку ёй падаспеў Верціох:

— А таму, што калі з людзьмі здарыцца няшчасце, другія памагаюць ім. Але хто нам дапаможа, калі кожны сам гол, як сакол? Засушлівы год, не ўрадзіла па вёсках, ледзь жывыя ўсе. А вашаму сіяцельству нічога не варта ахвяраваць крыху бульбы, саломы, леса на пабудову...

— І таму вы прышлі да мяне...

— Да каго-ж нам ісці? Да таго, што самому няма чым глотку заткнуць? Прышлі да таго, у каго ёсць.

— Столькі зямлі і лесу—і ўсяго... не злічыць!—уздыхнула Скалчыха.

— Вось як вы мяркуеце...—спакойна праказаў граф Остржэньскі, уважліва разглядаючы іх: падраную адзежу, абпаленыя рукі, вялікую свежую рану на галаве ў Верціоха.

— Колісяк!

— Слухаю, ваша сіяцельства!—лісліва выцягнуўся ўпраўляючы.

— Дасі ім два вазы той бульбы, што аднялі ўчора ад свіней. І дасі ім... дасі ім...—граф задыхаўся,—шэсцьсот дрэўцаў, чуеш? Шэсцьсот дрэўцаў!

Упраўляючы збялеў:

— Дрэўцаў? Якіх дрэўцаў?

— Не разумееш? Кальвілі, залатыя ранеты, шэрыя ранеты, райскія яблынькі—шэсцьсот, усе шэсцьсот дасі ім! Усе дзесяць моргаў, чуеш?

Ён схапіўся рукамі за шыю, разрываючы душыўшы яго каўнер. Павярнуўся і бразнуў дзвярыма з такой сілай, што рэха пайшло па ўсіх пакоях.

Мужыкі стаялі, ашаломленыя. Але, нібы па ўзмаху чараўнічай палачкі, выбегла графская чэлядзь, з'явіліся няма ведама адкуль ляснічыя са стрэльбамі і, перш чым хто-небудзь паспеў апамятацца, усе пяцера апынуліся за дзвярыма.

Стары Верціох увесь пасінеў. Скалчыха падняла кулак і, раз'юшаная, немым голасам пачала праклінаць графа, замак, землі, лясы і воды—усё, што яму належала.

## VI

Вінцэнту жылося цяпер нібы лягчэй, калі скончыліся заняткі ў школе, а з імі—выпісванне лісткоў на штрафы і нічога не вартыя нудныя размовы з бацькамі, якія сцвярджальна ківалі, згаджаліся на ўсё, а потым ізноў рабілі па старому. На час летніх канікулаў Вінцэнт пераставаў быць для вёскі іх ганіцелем, што адрываў дзяцей ад пашы, ад збірання ягадаў, за якія можна ўзяць некалькі грошаў, ад розных работ, дзе нельга было абыйсціся без дапамогі дзяцей.

Расправа з Зелінскім, справа пагарэльцаў з Бржэгаў цікавілі яго ўсё больш, усё гарачэй, і паступова ён таксама пачынаў глядзець на Остржэньскі замак, як на гвозд, увагнаны ў зялёнае жывое цела.

Справа пагарэльцаў з Бржэга, неўзабаве паглынула яго цалкам.

Калі па лябужскіх вёсках разбрыліся мужыкі з торбамі за спіной, бабы з дзецьмі на руках, калі пачалі яны з'яўляцца ля касцёла, у мястэчку, на рагах вуліц, і перарыўным голасам жаласліва мармыталі свае маленні, узняліся нараканні ў Мацькове, які заўсёды першым адгукаўся на ўсё, у Калінах, у Грабаўцы, ва ўсіх вёсках:

— Што-ж гэта такое? Калі граф нічога не даў, дык людзі павінны з торбамі ісці?

— Няўжо без гэтай графскай дапамогі гінуць людзям?

— Адзін толькі граф тут ёсць, а акрамя яго нікога і нічога?

Столькі гаварылі, такі ўзнялі гоман, што старшыні склікалі сход. Скалчыха кідалася як ашалелая:

— Не ў тым справа, ніхто нічога не просіць! Толькі як-жа так, няўжо паказаць графу, што без яго нам усім канец прыходзіць? Мы з мужам выкапалі яму ля склепа, і калі-б нават давялося мне памерці, я не пайду адсюль! Навошта даваць яму радавацца, што ў Бржэгах стала пуста? І яшчэ скажу я вам, мілыя мае, што хітра абмазгаваў усё пан граф! Ужо гаварыў са старшынёй,—пацвердзі-ж, Раман!—што хоча купляць зямлю. Пакваліцца той і другі, калі кавалка хлеба няма, і прадасць!

— Вядома! А да вясны грошы скончацца, і гаспадары ўжо сапраўды стануць жабракамі!

— Ці шмат ён заплоціць? Дасць грашы, а людзі пойдуць на прынаду, задарма ўсё яму дастанецца!

— І навошта яму гэта зямля? Мала ў яго сваёй?

— Хоча купляць,—нехаця прабурчаў старшыня.—Казаў: шмат купіць, да самага лесу, каб выраўняць.

— Не дачакаецца ён гэтага! Выраўніваць задумаў.

Вінцэнт сядзеў спакойна, але адчуваў, як кроў прылівае яму да твару.

— Трэба падумаць, як быць,—сказаў Скуржак.

— Што вы прыдумаеце?—закрычала Скалчыха.—Я ўжо кажу ўсім: калі хто прадасць хоць кавалак—я пазногцямі вочы яму выдзяру! Ужо ён гэтым іудавым грашам не парадуецца!

Плыцяк стукнуў кіем аб падлогу. Усе сціхнулі.

— Лёгка сказаць, кума, што вочы выдзярэш... Але што рабіць таму, у каго няма ні страхі над галавой, ні кавалка хлеба, а тут пяцера альбо шэсцера дзяцей гудуць за вушамі?

— Няхай падыхае!—выкрыкнула ўзлаваная Скалчыха.

— Падохнуць лягчэй за ўсё, трэба як-небудзь выручаць.

— Трэба напісаць у старастат.

— Пісалі, а што з таго? Толькі і ўсяго, што ўчора прышла Скубінскім абвестка, каб заплацілі падаткі! А Скубінскі ляжыць абгарэлы, паварушыцца не можа, чацвера дзяцей, баба зусім з розуму сышла.

Вінцэнт нерашуча дадаў:

— А калі-б з'ездзіць?..

— Правільна! Пісаніна ляжыць-ляжыць і ніхто ў яе можа не загляне! Трэба з'ездзіць у старастат, у ваяводства: можа даб'ёмся чаго... Страхавую касу прыцісьнуць, няхай плоцяць...

— Хто-ж паедзе?

— Трэба было-б старшыні...

— Толькі не старшыні! Табе, Раман, пэўна, хочацца ехаць, праўда? Як мінулы раз, калі валасць патрацілася дарэмна, а ты нічога не зрабіў?

— Не ўдалося зрабіць...—прабурчаў Раман.

— Вядома, не ўдалося! А ты дні два яшчэ пахаджваў па вёсцы п'яны!

— Не ўзнімайце, бабы, гармідару, так ні да чаго не дагаворымся. Ехаць каму-небудзь трэба, без гэтага не абыйдзешся... Я так думаю, каб старшыня з панам настаўнікам.

— З настаўнікам?—здзівіўся нехта ў першую хвіліну.

— А чаму-ж не? Пан настаўнік хутчэй згаворыцца там з усімі, трэба ведаць розныя ходы і выхады, мужык не здолее. А калі удвох, яно будзе больш пэўна. Старшыня, скажам, і настаўнік.

— Зноў-жа на двох выдаткі вялікія...

— Мае выдаткі я бяру на сябе,—крыху ахрыплым голасам сказаў Вінцэнт, хутка падлічыўшы пра сябе свае фінансавыя магчымасці. «У горшым выпадку пазычу ў Сташкі, выплачу па частках»,—падумаў ён.

— Ну, добра, калі так!—узрадаваўся нехта, але астатнія запратэставалі:

— Як-жа гэта: вы паедзеце ад вёсак, значыць—вёскі павінны і плаціць.

— Білет, скажам... Адсюль падвода не лічыцца, але білет у абодвы канцы, і там таксама дарам нічога не дадуць...

— Выдаткі не малыя!

Нарэшце, дамовіліся. Вызначылі дзень.

— Марудзіць няма чаго. Чым хутчэй, тым лепш. Няхай прышлюць камісію, пакуль не разбрыліся яшчэ ўсе па свету.

— Слухайце, людзі добрыя, Варшава—добра, страхавая каса—добра, але і тут, на месцы, трэба нешта рабіць.

— Калі выплацяць страхавыя, жніво кончыцца, вось мы ўсе і возьмемся за работу, каб да зімы пабудаваць хаты...

— Можа міністэрства выдасць якую дапамогу...

— Пакуль гэта яшчэ будзе, а тут у нікога кавалка хлеба няма...

— Трэба было-б скласціся...

— З якіх грошай складацца?

— Сабраў хто хоць які ўраджай?

— Самім не хапае, а не тое, каб дзяліцца...

— Не добра гаворыш. Зусім не трэба, каб кожны даваў меру жыта ці бульбы. Калі патроху складуцца Мацькоў, Каліны, Грабаўка—усе вёскі, дык нямала рознага дабра набярэцца.

— А хто будзе дзяліць, ці не старшыня?

— Яшчэ чаго? Каб зноў да рук прыліпла...

— Нельга, каб старшыня. Выбраць двох, няхай дзеляць.

— Нашто выбіраць? Была вызначана дэлегацыя да гэтага праxвоста, няхай яна гэтым і займецца.

— Правільна! Няма чаго другі раз выбіраць!

— Толькі каб сумленна ўсё было!

— Як-жа можа быць несумленна? Няхай кожная вёска складвае

можа быць, але ён не ведаў і не бачыў людзей з трох ваяводстваў, а бачыў толькі гэтых. Людзі не з трох ваяводстваў, а іменна з Калінаў праходзілі міма яго вокнаў, нясмела зазіраючы ў пакой, збіраліся ў старшыні. Непасрэдна, блізка, кожны дзень ён глядзеў як яны марнеюць, як адзежа вісіць на жанчынах, нібы на кіях, як сочацца крывёй з'едзеныя цынгой дзясны, як гіне, вымірае, ляціць у бездань вёска—і іменна гэтая, а не другая. Ён не мог уявіць сабе, што яшчэ дзе-небудзь можа быць падобнае. Яму здавалася, што Каліны і бліжнія вёскі—нейкі закляты вір, глыбіннае дно жыцця, кашмарная здань, якая ахоплівае жахам кожнага, хто толькі зірне на яе. Ён дамогся, нарэшце, хоць аднаго—што прызначылі камісію, каб вызначыць страты ад сухменя. Прыехалі паны, пахадзілі па палях, аглядзелі, заглянулі ў свірны, падлічылі. Было зразумела, што Калінам дадуць адтэрміноўку, а можа і зусім скасуюць уплату падаткаў за гэты год. Але што з таго? Ї так не заплаціў-бы ніхто акрамя хіба Стэфановіча. Трэба было дапамагчы гэтым паміраючым з голаду, знясіленным нястачамі, на вачах гінучым людзям. Недзе там, за пісьмовым сталом, нехта вызваліць Каліны ад уплаты падаткаў, але што ён дасць Калінам? Нічога. Відаць, лічылі, што і гэтага ўжо многа.

## VIII

Даўно ўжо хадзілі цёмныя чуткі, людзі гаварылі пра гэта, але ўсур'ёз ніхто не даваў веры. Тым больш, што ўсе былі цяпер напалоханы, кожная бабская плётка ішла далёка і бунтавала народ. Дзецям здаваліся на лябярэжных лугах ваўкалакі, і бабы заўзята кляліся што таксама бачылі іх. Дзіўнае рабілася—гэта праўда: хто задушыў курыцу ў Ройекаў і раскідаў пер'е па ўсяму двару? Гэта не сабака і не ліса, бабы ведалі гэта напэўна. Пасярод белага дня хадзіў нячысцік за парканамі, па начах крычаў у палях, меціў дзверы хат чорным пальцам—і раніцай ужо хто-небудзь захворваў.

Хадзілі чуткі, непраўдападобныя, народжаныя страхам і роспаччу, пераўвялічаныя, скажоныя. Казалі, нібы памёр той ці другі, а гадзіны праз дзве ён, здаровенькі, ішоў па вёсцы,—гэтага ніхто не мог адмаўляць.

Так і з гэтай справай: плялі людзі розныя небыліцы, але за праўду ніхто іх не лічыў.

Нарэшце, аднаго разу старшыня прыехаў з горада; ні з кім не гаворачы, кінуўся ў хаце на ложак і ляжаў пластом, а старшыніха хадзіла каля яго на дыбачках. Ї не перайшло яшчэ за поўдзень, як забрахалі сабакі і ляснічы Омярэк прайшоў па вёсцы, абвяшчаючы:

— Загадана забраць чаўны з возера! Калі чый застанецца да раніцы, патаплю!

— Што-ж гэта такое? Па якому праву?—дзёрзка выступіў наперад Стасяк.

— Граф заарандаваў усе водныя прасторы,—па-вучонаму растлумачваў ляснічы.

— Азёры і сажалкі?

— Вясковую ваду?

— Пытаўся ён згоды ў валасці?

— Дазволіў яму сход?

— Не інакш, як са старшынёй згаварыўся! А ну, да старшыні!

Уміг сабраўся натоўп. Поўна набралася народа ў абодвы пакоі старшыні, у сені, згрудзіліся перад домам.

— Што гэта за парадкі такія, старшыня? Прышоў лясьнічы, патрабуе, каб забралі чаўны з возера...

— Палова возера наша, вясковая...

— Спакон веку так было...

Старшыня бездапаможна развёў рукамі:

— Граф заключыў умову ў старастаце на арэнду Буга.

Усе недаверліва загаварылі:

— Ды хіба гэта можна? Дзе-ж мы будзем рыбу лавіць?

— Вясковыя не мелі ніякага права лавіць рыбу ў Бугу,—заявіў Омярэк.—Усюды за права лоўлі плоцяць палову.

— Ды мы заўсёды лавілі!

— А цяпер не будзеце! Гэта было незаконна!

— Незаконна? Вось дык сказаў! Граф, ці што, ваду стварыў? Граф напусціў у яе рыбы? Яго ўласная рыба?

— Пачакайце, мужыкі,—умяшаўся Ройек.—Буг Бугам, а я пытаюся, як будзе цяпер з возерам? Яно-ж—вясковае.

Старшыня ўнікаў мужыцкіх позіркаў, утаропіўшыся вачыма ў карычневатыя прожылкі, што выразнымі лініямі выступалі на дошцы стала:

— Ёсць такі закон: хто арандуе раку, таму належаць і залівы.

— Хіба возера—заліў?

— Бач, як павярнулі!

— Які заліў! Крыніцы самі б'юць з-пад зямлі!

— Вядомая справа: ля Радзюкоў вада—халодная як лёд!

— І ля арэшніка таксама!

— І ля твайго луга, Владзіслаў!

— Ці ўтрымаецца вада на чатырнаццаць метраў у заліве?

— Што і казаць! Такая глыбіня...

— Не вам меркаваць. У старастаце графу аддалі ў арэнду Буг ад Калінаў да Остржэня. Адзначылі на карце, што да лябужскіх заліваў належыць возера і тыя сажалкі, што ля леса і за балотам.

— Адзначылі на карце? Хлусня! Не быць гэтаму!

— Мяне гэта не тычыцца,—сказаў Омярэк.—Мая справа—паведаміць, каб да раніцы чаўноў на возеры не было.

І выйшаў, парыпваючы лакіраванымі ботамі і новым поясам з глянцаванага рэмня. Мужыкі засталіся ў хаце.

— Што-ж рабіць нам цяпер?

Старшыня зноў развёў рукамі:

— Можна напісаць заяву. Але нічога з гэтага не будзе, адна цыганіна. Я ездзіў сёння ў горад, даведваўся.

— Значыць, прыдзецца ўсім нам з голаду паміраць?

— Табе, Юзеф, не прыдзецца: у цябе без малага дзесяць моргаў зямлі.

— А Ройекі? А Захарчукі? А Стасякі? А Ігнахі? А ўсе, што жывуць на тым баку, на гары?

— Людзі добрыя, калі ён заарандаваў ваду, дык цяпер у яе

кроку не ступіш!—у роспачы ўзвыла Ройечыха, што даведалася аб падзеях і прыбегла следам за мужам.—Будзе як з лесам, што за ягадку, за грыб прыстрэльваюць чалавека! Не дазволяць нам цяпер лезці ў ваду за ракушкамі. Заб'юць, як забілі Зелінскага!

— Шчырая праўда!

— Не адны Ройекі, Захарчукі, Стасякі, а ўсе мы падохнем...

— Бясплодным пяском пракляў бог гэтую зямлю, адну ваду даў, каб маглі жыць людзі...

— Лавіць рыбу і карміць ракушкамі свіней...

— Значыць, свінням таксама канец прыходзіць...

— Пяском будзем цяпер затыкаць дзецям глоткі...

— Відаць, граф загубіць нас цяпер да рэшты...

— Торбу за плечы—і па свету!

З поля адна за другой прыбягалі бабы, крычалі, прычыталі, вылі, але мужыкі не ўціхамірвалі іх. Што было рабіць? Ва ўсіх уходзіла глеба з-пад ног.

— Старшыня павінен параіць што-небудзь...

— Можа ён сам з графам знюхаўся...

— Хто плату за кароў спаганяў, што не належала?

— Пакуль не выбралі яго, салодкі быў, як мёд, а цяпер толькі і ведае, што ў горад ды на пост скакаць...

— Вялікі чыноўнік страшыць баб штрафамі, а як спатрэбіцца што, дык яго і следу няма.

— Ціха, бабы, угаманіцеся!—спрабаваў супакоіць іх стары Мыдлярж, але нават шарахнуўся, з такім крыкам наляцела на яго дачка:

— А вы чаго лезеце? Зразумела, якая вам патрэба! Абы толькі самому хапіла, а астатняе ты, Анеля, здабывай! Да жрання вы першы, а розуму ў галаве ні на грош! Гаспадар такі знайшоўся, што за кароўім хвастом ходзіць, ды і той не яго!

Стары прадбачліва забраўся ў натоўп, асцерагаючыся, што яна выдзярэ яму вочы. Старшыня падняў руку:

— Сяляне, крыкам мы нічога не зробім. Я напішу заяву і заўтра павязу ў горад...

— Тут толькі адно дапаможа...—хмурна, злавесным голасам сказаў Захарчук.

Настала цішыня.

— Кажы, што?

— Або мы, або ён...

— Правільна гаворыць!—закрычала Баніха і следам за ёю бабы ўзнялі дзікі гармідар:

— Што нам яшчэ чакаць? Чаго ўхіляцца? Айда ў Остржэнь!

— У Остржэнь!

З крыкам, з грукатам рынулі да дзвярэй. Гарачым полымем веяла ад распаленых твараў. Сабакі завішчалі і завылі. Усе, хто быў жывы, выскаквалі з хат. Старшыня выбег на дарогу, бледны, з трасучыміся рукамі. Напралом, задамі кінуўся да Ройекаў, да Вінцэнта:

— Трэба спыніць іх, бо будзе няшчасце!

Вінцэнт у замяшанні шукаў шапку, бездапаможна кідаўся па пакою. Тымчасам вестка разнеслася ўжо па ўсіх хатах. Ігнаціха вы-

бегла ў двор з дзіцёнкам на руках і павалілася на зямлю ля кучы гною:

— А божухна, ды мы з голаду падохнем, вясны не дачакаем! Няхай маланка заб'е яго за ненасытную глотку, за нашу крыўду, за нашу нядолю!

Плач баб і прычытанні разносіліся па дварах, па агародах, па дарозе. Ігнаціха рашуча ўскочыла, загарнула дзіцёнка ў шаль:

— Ісці, дык ісці!

Анна выбегла з хаты і кінулася ў натоўп баб, дрыжучы ў нястрымным парыванні. Яна забыла ў гэту хвіліну аб усім: аб камнях, што кідалі ў яе хлапчукі на дарозе, аб бабскіх злых позірках і ядавітых словах—іх плач і выццё ўзрушылі яе да глыбіні душы. Яна выразна ўбачыла, што Калінам падпісан смяротны прыгавор, і ў ёй разам растала, прапала помстлівая злосць. Упершыню стаяла яна ў натоўпе баб, як роўная з роўнымі, як свая.

— У Остржэнь!

Бабы спрабавалі зацягнуць малітвенную песню. Колькі часу яна калыхалася над дарогай, штохвіліны абрываючыся:

— Літаслівая маці, заступніца...

На павароце, ля недабудаванай школы, дарогу натоўпу перасеклі староста і настаўнік:

— Людзі добрыя, што вы робіце? Апамятайцеся!

— Можна як-небудзь уладзіць справу...—хрыплым голасам спрабаваў угаварваць Вінцэнт.

— Вы абавязаны ісці з намі, з мужыкамі, а не супроць нас!—проста ў твар яму выкрыкнуў Ройек.

— Хто жывы, няхай ідзе разам з вёскай, а калі не—вон з вёскі!

— У Остржэнь!

Па дарозе беглі запаздалыя, далучаючыся да натоўпу. Хмары пылу ішлі з дарогі, далёка разносіўся гоман.

Вінцэнт стаяў нібы скамянелы.

— Не мінаваць бяды...—сказаў старшыня. Губы ў яго трэсліся. Ён пацягнуў настаўніка за рукаў:

— Хадзем, нам няма чаго тут рабіць.

Яны павярнулі ў апусцелую вёску. Зэялі шырока расчыненыя дзверы хат. З мужчын не засталося амаль нікога—хіба толькі старыя ды хворыя. Не хапала і шмат жанчын. Дзеці рассыпаліся па дарозе і гучна плакалі, не разумеючы, у чым справа. З яновічава хлява выйшлі на дарогу дзве свінні і капалі, высока падкідваючы пясок. Устрывожаныя нядаўнім гоманам сабакі рваліся з ланцугоў і поўнілі паветра дзікім выццём.

— Праз гадзіну-дзве яны будуць ужо ў маёнтку,—сказаў старшыня.

Мароз прабег па спіне Вінцэнта.

— Гэта немагчыма... Трэба нешта рабіць...

Старшыня паціснуў плячыма:

— Цяпер ужо нічога не зробіш. Паеду на пост, заяўлю... Няхай прышлюць салдат... Але ўжо не паспеюць...

населены прывідамі. Водгалас уласных крокаў здаваўся яму не роднімі гукамі, і ён уздыхнуў вальней, убачыўшы цёмныя абрысы ...ных хат.

Вінцэнт дайшоў да хаты Ройекаў і, натыкаючыся ў цемры на ...адкі і рознае гаспадарскае начынне, вобмацкам дабраўся да свайго пакоя.

Чуў за сцяной цяжкае дыханне. Ройечыха не спала. Гэтае дыханне здалося яму сапеннем затоенага звера. Не Ройечыха дыхала хваравіта, насілу,—сцерагла і дыхала цемра, ступала кацінымі лапамі трывога, лётам кажана насілася над вёскай. Нясцерпнай, надмернай, станавілася бязгучная цемра, і Вінцэнт сашчаміў зубы, каб не крычаць, не выць, не клікаць людзей.

Лёг апрануты на ложак, але не самгнуў вачэй. Лавіў насцярожаным вухам наймалы шорах.

Доўгія гадзіны праходзілі ў маўклівасці. Нарэшце, па вёсцы пайшоў ледзь прыкметны, затоены рух. Скрыпелі боты на дарозе, скрыгіталі дзверы, то тут, то там. Вінцэнт падышоў да акна. Нідзе не запальвалі агня. Але адчувалася выразна: у вёсцы нешта адбываецца. І гэтыя прыглушаныя гукі—адзнака прысутнасці чалавека, доказ жыцця—прынеслі яму некаторую палёгку. Але не было чаго і казаць пра сон. Ён варочаўся з боку на бок, на цвёрдым, шархацеўшым сенніку. За дзвярыма шмыгнулі асцярожныя крокі, ён чуў за сцяною шопат, адчынілася і зачынілася акно на тым баку, што выходзіў да ракі. Заскрыпеў палок. Вінцэнт устаў і расчыніў акно, невядома чаму закрытае. Свежае паветра ўварвалася ў цяжкую затхласць пакоя.

Было позна. Месяц ужо ўзышоў, і за акном стаяла срэбраная ноч. Белымі прывідамі ўзвышаліся вербы ў нерухомым паветры. Ледзь чутна цурчаў ручаёк, які бруіўся да ракі ў гушчары мяты і конскага шчаўя. На хвіліну Вінцэнт забыў аб усім. Ціха шарасцелі асіны, таямніча перагаварваючыся аб зразумелых толькі для іх адных рэчах. Трава срабрылася расою, а пад дрэвамі ляжалі непранікальныя чорныя цені. Несапраўдны, нерэальны быў свет, пабудаваны з ільдзяных карункаў і чарнаты. Дыханне ночы павявала спакойнасцю і цішынёю.

Але раптам пачуўся шопат за перагародкай, і адразу, нібы па сігналу, парушылася срэбранае маўчанне начы. На дарозе застучалі шпаркія крокі, ля суседняй сцяны на кучы дошак заварушыліся цені. У Баніхі рыпнулі дзверы, і на дарогу панесліся ўсхваляваныя галасы баб. Вінцэнт уздыхнуў і вярнуўся на мулкі ложак. Колькі часу напружана чакаў, ці не прыдзе хто, ці не пакліча, але неўзабаве ўсё сціхнула. Толькі ля ракі перагукаліся хлопцы ўмоўленым прарэзлівым свістам. Шарасцела асіна, нібы падаў дробны густы дождж.

Месяц зайшоў. Пацямнела. Падзьмуў лёгкі вецер, і гучней зашуршалі асіны. У цемры пачулася раптам птушынае шчабятанне, адрыўнае, кароткае, і сціхнула, нібы засароміўшыся.

Паступова з цемры пачаў прабівацца досвітак, блеклым змрокам поўнячы пакой. Зацвілікалі птушкі, спачатку няўпэўнена, нясмела, потым усё гучней, і, нарэшце, усё навакол зазвінела, засвяцілася, за-

трапятала птушынымі галасамі. Ружовы бляск заліў срэбраныя верхавіны вербаў.

Вінцэнт падняўся з пасцелі, адчуваючы стому ва ўсіх членах. Рукі дрыжалі і пальцы дубянелі ад незразумелай трывогі, ад чакання невядомага, што вісела ў паветры, што павінна было непазбежна, немінуча адбыцца. Прыгладзіў рукамі ўскалмачаныя валасы і выйшаў на двор. Адчыніліся дзверы на другой палавіне і выглянула спалоханая Ройечыха, але зараз-жа схавалася. Вінцэнт агледзеўся і выйшаў на дарогу.

Вёска здавалася заснуўшай у ружовым бляску досвітку. Ціха прытуліліся хаты да краю пясчанай дарогі. Войстрымі языкамі полымя стуліліся зоркі белены, скурчыліся жоўтыя буракі—начная свечка. Над лугам, над лясамі навісла лёгкая сівая імгла. Трава блісцела, нібы пакрытая намараззю. Настаўніку здалося, нібы за парканом мільганула абвязаная белай анучай галава Мыдляржа, за агарожай раптам зашарасцела, нібы хто хаваўся ў кустах дзікага агрэсту. Ён пацісну ў плячыма і не спяшаючыся пайшоў у той бок, адкуль учора было відаць чорны слуп дыму на небе. Пад павекамі адчуваў дробны калючы пясок ад бяссоннай ночы.

Пачулася рыпенне на бакавой дарозе, якою ніколі не карысталіся, і з-пад завесы тумана, у чырвоным святле досвітку паявіўся воз. Рыпелі дрэнна змазаныя колы, гукі далёка разносіліся ў чыстым паветры. Вінцэнт зноў адчуў тое-ж непакойства, што не дазволіла звесці вачэй, што сарвала яго да святла з пасцелі, хоць воз быў як воз—мала хто мог ехаць у вёску, няхай сабе і гэтак рана... Конь быў не тутэйшы, сівы, рослы... Не з Калінаў.

Рыпанне даносілася ўсё выразней. Вялікая конская галава гайдалася ўгору і ўніз павольным, роўнамерным рухам. Збоку ішоў, трымаючы лейцы ў руках, высокі мужык. Вінцэнт углядаўся ўважліва, але толькі калі воз наблізіўся, пазнаў Скуржака.

Конь ішоў павольна, нахіляючы галаву, нібы ў вільготным ад расы пяску спадзяваўся знайсці што-небудзь спажыўнае. Воз быў накрыты посцілкай. Скуржак ледзь прытрымліваў лейцы ў руках. Убачыўшы настаўніка, яшчэ больш сцішыў ходу і кіўнуў калматай галавой у крыва адзетай аўчыннай шапцы.

Вінцэнт, не разумеючы дзеля чаго, пайшоў хутчэй.

Сустрэліся ля зарослага хвоямі ўзгорка, за недабудаванай школай, сляпымі вачыма забітых вокнаў глядзеўшай на дарогу.

Скуржак закінуў лейцы на худы хрыбет кастлявага каня і сунуў руку ў кішэню. Павольна, флегматычна дастаў папяросную паперу і табак. Тоўстымі пальцамі нязграбна скручваў папяросу.

Вінцэнт зразумеў. На ільняной посцілцы сям-там відаць былі цёмныя плямы. Край посцілкі адгарнуўся, і Вінцэнт, не разумеючы, на што глядзіць, убачыў Анну.

Яна ляжала на самым версе нагружанага воза, тварам угору. Заўсёды бледныя губы цяпер не адрозніваліся колерам ад бледнага твару. Рассыпаныя валасы ляглі арэолам вакол галавы. Пры кожным руху каня, які ўпарта вынюхваў пясок трапяткімі ноздрамі, галава памершай гайдалася з боку ў бок, нібы настойліва адмаўляючы

## ЗМЕСТ

Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 7/III—39 г. Падпісана да друку 7/IV—39 г. Аб'ём 14 друк. р[illegible]
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера 62×94 1/16. Тыраж 4.700+250 [illegible]
Зак. № 377 Уп. Галоўліта БССР № П-234.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

